**Леанід Лыч**

# УНІЯЦКАЯ ЦАРКВА БЕЛАРУСІ:

## этнакультурны аспект

*2-е выданне*

**Мінск, «Кнігазбор», 2011**

УДК 271.4(476)
ББК 86.37(4Беи)
Л88

На вокладцы:
Скульптура Св. Язафата Кунцэвіча.
Касцёл Ушэсця Найсвяцейшай Дзевы Марыі
і Св. Язафата Кунцэвіча ў гарадскім пасёлку Сапоцкін.

**Лыч, Л.**

Л88 Уніяцкая царква Беларусі : этнакультурны аспект / Леанід Лыч; 2-е выд. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 128 с.

ISBN 978-985-6976-81-3.

У кнізе паказаны нялёгкія ўмовы дзейнасці ў Беларусі ўніяцкай царквы, яе ўзаемадачыненні з каталіцкай і праваслаўнай канфесіямі, абгрунтоўваецца, што з усіх хрысціянскіх рэлігій нацыянальна-культурным традыцыям нашага краю найбольш за ўсё адпавядала ўніяцтва.

Адрасуецца навукоўцам, выкладчыкам і студэнтам ВНУ, шырокаму колу чытачоў, якіх зацікавіць гісторыя царкоўна-рэлігійнага жыцця.

**УДК 271.4(476)**
**ББК 86.37(4Беи)**

**ISBN 978-985-6976-81-3**

# УВОДЗІНЫ

Развіццё духоўнай культуры кожнага народа адбываецца пад уздзеяннем цэлага комплексу фактараў, сярод якіх важнае месца займае рэлігійны. У Беларусі ён выступае ў чатырох асноўных канфесіях: праваслаўе, каталіцызм, уніяцтва і пратэстантызм. Гэта што да яе карэннага насельніцтва. Яўрэі ж спавядаюць іудаізм, татары — іслам. З хрысціянскіх канфесій чытачу найбольш знаёмыя праваслаўе і каталіцызм, таму тэмай сваёй кнігі я выбраў уніяцтва, адносна якога ў многіх людзей адсутнічаюць неабходныя веды ці існуюць памылковыя ўяўленні. Датычыць гэта і многага з таго, што папярэднічала з'яўленню ў нашым краі новай, з складаным і супярэчлівым лёсам рэлігійнай плыні.

Гісторыя распарадзілася так, што на значнай адлегласці па памежжы з Беларуссю жылі і жывуць два вялікія славянскія народы — рускія і палякі, у якіх заўсёды вельмі важную ролю адыгрываў рэлігійны фактар у развіцці духоўнай культуры, фармаванні этнічнай самасвядомасці людзей. Пасля таго як у асноўным адышло ў нябыт паганства, абсалютная большасць насельніцтва тэрыторый, дзе фармаваліся руская і польская народнасці, вызнавала хрысціянскую веру. Пазней у першай яна трансфармавалася ў праваслаўную, у другой — у каталіцкую рэлігію. І раней, і цяпер сярод рускіх вернікаў вельмі мала католікаў, а сярод палякаў — праваслаўных, што якраз і не вядзе да канфесійнай раздвоенасці гэтых народаў.

З канца X — пачатку XI ст. і на тэрыторыі Беларусі пачало прыжывацца хрысціянства, якому з цягам часу наканавана было тут стаць пануючай рэлігіяй, але з зусім іншымі, чым у рускіх і палякаў, суадносінамі паміж праваслаўнай і каталіцкай канфесіямі, што самым непасрэдным чынам адбівалася і адбіваецца на нацыянальнай самасвядомасці нашага народа. Шмат якія беды з заняпадам беларускай культуры і мовы, распаўсюджаннем нацыянальнага нігілізму менавіта і абумоўлены дадзеным фактарам.

Хаця праваслаўе і каталіцызм — гэта два роднасныя адгалінаванні адной і той жа рэлігіі — хрысціянства, яны вельмі рэдка суіснавалі

ў дружбе і згодзе паміж сабой. І адбывалася гэта таму, што як першае, так і другое ніколі не абмяжоўвалі сваю дзейнасць толькі чыста канфесійнымі справамі, а былі цесна інтэграваны ў сферу дзяржаўнай палітыкі, стараліся ва ўсім дапамагаць свецкім уладам. Служыцелі праваслаўнага і каталіцкага рэлігійнага культу і Рускай дзяржавы, і Польскага каралеўства ніколі не лічылі грэшнай справай навязваць сваю веру частцы насельніцтва іншых канфесій, не зважаючы і на тое, што іх дзеянні маглі супярэчыць яго інтарэсам. Калі патрэбна было, ужывалі ў гэтых мэтах і насілле. Высокія духоўныя асобы вельмі ахвотна замацоўвалі за сабой і выключнае права вызначаць этнічную прыналежнасць людзей сваёй веры, лічачы апошнюю практычна адзіным прыдатным для гэтага фактарам.

Паколькі Беларусь знаходзілася на стыку ўзаемадзеяння магутных Рускай праваслаўнай і Польскай каталіцкай цэркваў, усё гэта не магло не ўплываць не толькі на яе духоўнае, але і палітычнае жыццё, працэсы этнічнага развіцця. Прычым найбольш уцягнутымі ў складаныя, супярэчлівыя канфесійныя дачыненні былі самыя заможныя пласты беларускага народа, паколькі пры пэўных абставінах, маніпулюючы прыналежнасцю да той ці іншай веры, яны маглі атрымаць ад дзяржавы істотныя сацыяльна-эканамічныя ці палітычныя выгоды. Не будзем таксама забывацца, што людзі такой катэгорыі ў параўнанні з простым народам былі больш адукаванымі і, значыцца, не так фанатычна настроенымі ў дачыненні да рэлігіі і таму замяніць сваю веру, калі толькі гэта выклікалася якім-небудзь адчувальным сацыяльным выйгрышам, з’яўлялася для іх элементарным учынкам. Трэба думаць, што гэта добра ведалі кіраўнікі свецкай улады і каталіцкага кліру Польскай Кароны ў далёкім ад нас сярэднявеччы. Таму, выношваючы планы пры зручных абставінах пашырыць уласную тэрыторыю за кошт суседняй Беларусі, узмацніць тут свой уплыў, яны імкнуліся дамагацца гэтага шляхам перацягнення да сябе як мага больш заможных станаў насельніцтва, ведаючы, што з іх дапамогай лягчэй будзе падпарадкаваць сабе і ўвесь люд гэтай краіны. Дзеля здзяйснення такіх планаў найлепшага сродку, як рэлігія, нельга было адшукаць. Пра гэта сведчыў і даволі багаты вопыт шэрагу іншых еўрапейскіх дзяржаў, якім без асаблівай цяжкасці ўдавалася павялічваць свае ўладанні, пусціўшы ў ход сродкі, што меліся ў руках царкоўнікаў. У сярэдневяковай Еўропе рэдка якая вайна не была вайной рэлігійнай, прычым на ратных палях

пралівалі кроў і людзі адной хрысціянскай веры, толькі яе розных адгалінаванняў, адценняў.

Частыя непаразуменні, якія пры пэўных акалічнасцях перарасталі і ў кровапралітныя войны паміж вернікамі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, вымушалі іх іерархаў шукаць усемагчымыя сродкі для спынення такіх канфліктаў, усталявання міру і згоды, саюзу, а па латыні — уніі між хрысціянамі. Апошняй наканавана было стаць даволі распаўсюджанай з'явай у хрысціянскім свеце, шмат у чым прадвызначыць лёс многіх народаў, таму і па сённяшні сям-там ажывае памяць аб ёй. Ёсць вельмі раннія звесткі, што да царкоўнай уніі імкнуўся галіцкі князь Даніла Раманавіч, дзеля чаго вёў перамовы з папам, ад якога атрымаў каралеўскую карону. Урачыстае каранаванне адбылося ў 1255 г. у Драгічыне. Па розных прычынах, у тым ліку і з-за працягу татара-мангольскіх набегаў, да практычнага вырашэння ідэі уніі справа не дайшла.

Найбольш значны след у распаўсюджванні ў краінах Еўропы ідэі ўз'яднання праваслаўя і каталіцызму пакінулі Ліёнская (1274) і Фларэнтыйская (1439) царкоўныя уніі. Дарэчы, пад апошняй стаіць і подпіс маскоўскага мітрапаліта Ісідара. І гэта зусім невыпадкова, бо праз сваіх давераных асобаў папа не раз схіляў Маскоўскую мітраполію да саюзу з Ватыканам. Вядома, да прыкладу, што сур'ёзная гаворка пра царкоўную унію адбылася ў 1396 г. у польскага караля Ягайлы з Кіева-Маскоўскім мітрапалітам Кіпрыянам, які адзін час стаяў на чале Літоўскай мітраполіі. Апошні не пярэчыў і нават звярнуўся з пісьмовай просьбай аб гэтым да канстанцінопальскага патрыярха. Такі ліст выслаў яму і Ягайла. Практычнага рашэння не было прынята, бо Візантыя ў гэты час вяла вайну з туркамі.

У шэрагу захадаў папы схіліць праваслаўных Маскоўскага княства да уніі не апошняе месца займала выдача замуж за цара Івана III Зоі Палеалёг. У яе бацькоў заўсёды ў вялікай пашане было грэка-каталіцкае веравызнанне. Пасля смерці ў 1465 г. бацькі Зою ўдачарыў сам папа рымскі. Шлюб адбыўся ў лістападзе 1472 г. Штосьці прадметнага для уніі Зоя Палеалёг, пасля шлюбу — Соф'я, не зрабіла і хутка сама пачала жыць толькі паводле праваслаўных нормаў.

## § 1. НА ПОДСТУПАХ ДА БЕРАСЦЕЙСКАЙ ЦАРКОЎНАЙ УНІІ

Складаныя, напружаныя адносіны паміж у аснове сваёй праваслаўнай Беларуссю і каталіцкай Польшчай вельмі рана высунулі на пярэдні план, пры досыць вялікай зацікаўленасці апошняй, праблему уніі гэтых дзвюх хрысціянскіх канфесій. Паколькі такое ўжо ў практыцы існавала, значыцца, ні Беларусь, ні Польшча не былі тут піянерамі. Свецкія і духоўныя ўлады Польскай Кароны ў пэўнай ступені ўзвышае, што ў дачыненні да памежнай ёй праваслаўнай Беларусі яны не пайшлі на адкрытую рэлігійную вайну, а выбралі мірны шлях, спадзеючыся і такім чынам дасягнуць ажыццяўлення сваіх нядобрасуседскіх намераў. Пайсці ж на царкоўную унію Беларусь вымушаў яе клопат аб захаванні ўласнага народа ад прамога захопу і асіміляцыі як з боку Рускай дзяржавы, так і Польскай Кароны, якія з мэтай анексіі беларускіх земляў вельмі актыўна і рашуча выкарыстоўвалі рэлігійны фактар. Калі першая абгрунтоўвала свае захопніцкія, агрэсіўныя планы ў дачыненні да беларускай тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага неабходнасцю абараніць тут аднаверцаў — праваслаўных, дык другая скіроўвала сюды свае дзеянні дзеля адстойвання інтарэсаў каталіцкага насельніцтва, якое, дзякуючы тонкай палітыцы польскіх каталіцкіх іерархаў, мела ўстойлівую тэндэнцыю колькаснага росту за кошт праваслаўных этнічных беларусаў.

Знакамітыя духоўныя асобы Вялікага Княства Літоўскага, што выношвалі планы уніі з каталіцкай канфесіяй, бачылі, як цяжка ім даецца адстойванне незалежнасці сваёй царквы ад Маскоўскай мітраполіі. Апошняя, як толькі даведвалася аб з’яўленні ў ВКЛ уласнага мітрапаліта, адразу распачынала супроць яго тонка прадуманыя інтрыгі і, трэба сказаць, зачастую дамагалася перамогі. Таму памылкова лічыць, што Беларуская праваслаўная царква захоўвала свой аўтакефальны характар да часу падпісання ў 1596 г. Берасцейскай царкоўнай уніі. Наадварот, ад першых гадоў існавання праваслаўя ў Беларусі яно, толькі за рэдкім выключэннем, не залежала ад кіеўскай ці маскоўскай мітраполій.

Смерць жа Літоўскага мітрапаліта Феафіла (каля 1330) увогуле паклала пачатак пераходу да поўнага падпарадкавання праваслаўнай

царквы Беларусі Маскве. Спробы некаторых вялікіх князёў ВКЛ, у прыватнасці Альгерда (1345–1377), вярнуць ёй былую незалежнасць не давалі станоўчых вынікаў, хаця іншым разам і з'яўляліся нейкія надзеі, дасягнутыя праз вялікія намаганні.

Трэба адзначыць, што незалежнасць беларускай праваслаўнай царквы ад маскоўскага мітрапаліта ў аднолькавай ступені падабалася як духоўным, так і свецкім уладам Вялікага Княства Літоўскага, таму тут і ставіліся вельмі прыхільна да ідэі рэлігійнай уніі, бачачы ў ёй нейкую магчымасць да канца не страціць сваёй самастойнасці. Будучы моцна незадаволенымі замахамі на яе з боку маскоўскага мітрапаліта Фоція, высокія духоўныя і свецкія асобы ВКЛ, як толькі маглі, садзейнічалі падзелу ў 1416 г. рускай мітраполіі на маскоўскую і заходнерускую, або літоўскую. У мітрапаліты апошняй пасвяцілі балгарына Рыгора Цамблака. Паводле патрабаванняў вялікага князя літоўскага Вітаўта ён у суправаджэнні чатырох епіскапаў і шматлікай варты ездзіў у 1418 г. на каталіцкі сабор у Канстанту з мэтай вырашэння пытання аб уніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. Калі ж дайшло да канкрэтных дзеянняў, Цамблак адмовіўся ад гэтай задумы. Пасля смерці ў 1420 г. мітрапаліта Цамблака і з паляпшэннем адносін з Масквою вялікі князь літоўскі Вітаўт даў згоду на падначаленне праваслаўнай царквы маскоўскаму мітрапаліту Фоцію.

Нічога не атрымалася ў пытаннях уніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў і ў вялікага князя літоўскага Свідрыгайлы. Рабілася гэта больш з мэтай схіліць на свой бок папу Яўгена IV і займець ад яго падтрымку ў барацьбе з польскім каралём Ягайлам. Свідрыгайлу даволі лёгка ўдалося ўгаварыць у 1434 г. літоўскага мітрапаліта Герасіма (да пасвячэння ў гэты высокі сан быў смаленскім епіскапам) пайсці на царкоўную унію, што вельмі ўсцешыла папу, але, паколькі ён ні ў чым не дапамог вялікаму князю літоўскаму ў барацьбе з Ягайлам, «справа аб уніі сканала»[1].

Сканала, але ненадоўга. Не трэба забывацца, што неўзабаве пасля вышэйапісаных падзей адбылася Фларэнтыйская царкоўная унія, у якой былі вельмі вялікія планы адносна распаўсюджвання уніі далёка на ўсход. Ім не наканавана было здзейсніцца. Правал спробы рымскага папы пашырыць ідэю Фларэнтыйскай уніі на ўсход з дапамогай

---

[1] Спадчына. — 1992. — № 6. — С. 85.

маскоўскага мітрапаліта Ісідара вымусіў шукаць дзеля гэтай мэты новых варыянтаў. Стаўка была зроблена Рымам і выгнаным з Царграда за вялікую прыхільнасць да уніі канстанцінопальскім патрыярхам Рыгорам Мамасам на праваслаўную царкву ВКЛ. Пры садзеянні гэтага патрыярха яна дамаглася ў 1458 г. поўнай незалежнасці ад маскоўскага мітрапаліта. Пад той час яе ўзначальваў мітрапаліт балгарскага паходжання Ісідар Рыгор, які паводле веравызнання быў уніятам. У духу гэтай рэлігіі ён імкнуўся самааддана, шчыра працаваць у ВКЛ, што вельмі імпанавала Ватыкану. У пісьме папы да польскага караля Казіміра IV Ягелончыка выказвалася просьба прывесці да паслушэнства Рыгору ўсіх заходнерускіх епіскапаў, святароў і ўвесь народ, «а хто будзе гэтаму супраціўляцца, тых бязлітасна катаваць»[1]. Гэта быў вялікі промах папы, бо гвалтам не проста прымусіць адрачыся ад веры. Такімі метадамі так супрацьпаставілі унійнай ідэі людзей, што і прыезд у Літву манахаў-бернардынцаў, якія заснавалі ў Вільні свой манастыр, распачалі агітацыю на карысць гэтай веры, не даў аніякага эфекту. Нават сам уніяцкі мітрапаліт Рыгор адмовіўся ад гэтага сану і ў 1472 г. з дазволу Канстанцінопальскага патрыярха Дыянісія быў зацверджаны на кіеўскі мітрапаліцкі сталец, адкуль ён кіраваў усімі епархіямі ВКЛ.

Не раз спрабаваў пасадзейнічаць, праўда, не гвалтам, уніяцкай ідэі і сам вялікі князь літоўскі і польскі кароль Казімір IV (1427–1492). Так, дзеля абрання ў 1475 г. літоўскім мітрапалітам епіскапа смаленскага Місаіла ён паставіў перад ім умову з цягам часу павярнуцца ва ўніяцтва. Умова была з радасцю прынята. Заступіўшы на пасаду літоўскага мітрапаліта, Місаіл адразу пачаў выконваць каралеўскую волю. Ён ініцыяваў напісанне і адпраўку ў сакавіку 1476 г. з Вільні ліста папу Сіксту IV, у якім выказвалася просьба аб'яднаць праваслаўных з лацінянамі, ураўняць іх у правах. Акрамя Місаіла ліст падпісалі кіева-пячорскі архімандрыт Іаан, віленскі троцкі архімандрыт Макарый, слуцкі і бельскі князі і яшчэ 11 розных службовых асобаў[2]. Папа, буду-

[1] Мартас Афанасі. Літоўская мітраполія пры асобных мітрапалітах // Спадчына. — 1993. — № 1. — С. 85.

[2] Савич А. Униатские школы для западно-русского юношества до Брестской церковной унии (1596 г.) // Труды Белорусского государственного университета в Минске. — Минск, 1922. — № 1. — С. 166.

чы добра дасведчаным, што ідэя уніі ў ВКЛ не мае шырокай падтрымкі ў народзе, не палічыў патрэбным адказваць на атрыманы з Вільні ліст.

Не толькі быў роўным, але нават трохі перасягаў свайго папярэдніка па адданасці ўніяцкай ідэі ўзведзены ў маі 1498 г. па прапанове Канстанцінопаля на заходнерускую мітраполію смаленскі епіскап Іосіф (Балгарыновіч). Пасланая ім у жніўні 1500 г. грамата папу Аляксандру VI шмат у чым нагадвала разгледжаны вышэй ліст мітрапаліта Місаіла. І на гэты раз рымскі папа не даў дазволу на правядзенне якіх-небудзь канкрэтных захадаў па аб'яднанні праваслаўных з католікамі, бо лічыў, што да гэтага яшчэ не падрыхтаваныя масы. Меркавалася, што дасягнуць такога можна толькі праз адпаведнае школьнае навучанне і выхаванне. Асабліва вялікае значэнне гэтаму надаваў папа Грыгорый XIII. Гэта ён заснаваў у 1577 г. у Рыме грэцкую калегію імя св. Афанасія Александрыйскага, у якую прапаноўвалася набіраць і юнакоў з Вялікага Княства Літоўскага, Маскоўскай дзяржавы. Але зрабіць такое аказалася надзвычай складана. Улічваючы гэта, «Рым сам вырашыў ісці з асветай у рускія краіны. На заходнюю Русь былі пераважна звернуты позіркі Рыма; там поплеч з рымскаю прапагандаю маглі дзейнічаць ва ўніяльным накірунку каралі-католікі. У Заходняй Русі рымская прапаганда і стала марыць стварыць сабе трывалую базу, адкуль потым выходзілі б апосталы уніі і ў Маскоўскую Русь»[1].

Практычна ўсё, што рабілася праваслаўным духавенствам ВКЛ дзеля падпісання уніі з каталіцкай царквой, ведалі ў Маскве. Яе мітраполію вельмі пужала, што можа надысці такі час, калі цяжка, а не дык і зусім будзе немагчыма распаўсюджваць сваю ўладу на аднаверцаў з суседняй краіны. Маецца дастаткова фактаў сцвярджаць, што ў перыяд, калі праваслаўная царква ў Беларусі пачувалася самастойнай, незалежнай, яе не толькі не паважала Маскоўская мітраполія, а, наадварот, нават лічыла варожай для сваіх інтарэсаў. Не дзіва таму, калі ў час Лівонскай вайны 1558–1583 гг. войскі рускага князя Андрэя Курбскага ўварваліся на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага, яны на сваім шляху знішчалі не толькі касцёлы, але і дашчэнту разбурылі ці спалілі 24 праваслаўныя храмы. Незалежная праваслаўная царква Беларусі зусім не патрэбная была Рускай дзяржаве. Ужо аднаго гэтага факта дастаткова для таго, каб мець падставы сцвярджаць, што мају-

[1] Савич А. Униатские школы… — № 1. — С. 175.

чае адбыцца падпісанне царкоўнай уніі вельмі апраўдана з пазіцый захавання нацыянальнага суверэнітэту.

Масква, таго не разумеючы, сваімі бесперапыннымі кровапралітнымі, спусташальнымі войнамі ў Беларусі, што вяліся з літвінамі і палякамі, толькі павялічвала водападзел паміж праваслаўнымі ВКЛ і Рускай дзяржавы. Калі ж усё большай колькасці вернікаў Княства станавілася відавочным, што Масква ваюе з Польскай Каронай у мэтах гвалтоўнага далучэння іх да сябе як аднаверцаў, яны, не жадаючы стаць ахвярай чужой дзяржавы, былі вельмі зацікаўленымі і праяўлялі вялікае імкненне мець у сваёй абраднасці як мага больш чаго спецыфічнага ў параўнанні з праваслаўнай царквой усходняга суседа. І такое даволі паспяхова дасягалася на практыцы. Працяглы час жыцця ў дзяржаве, даволі адметнай па цэлым комплексе прыкмет ад Масковіі, садзейнічала таму, што і самі праваслаўныя цэрквы ў іх не так ужо і падобнымі былі адна на адну. Некаторыя даследчыкі лічаць, што пад канец XV ст. у нашым краі сфармавалася заходнеправаслаўная царква. «Яна настолькі моцна адрознівалася ад маскоўскага праваслаўя, што тамашнія мітрапаліты лічылі яе “літоўскай схізмай”. Так, заходнеправаслаўная царква дапускала абліванне замест пагружэння пры хросце; імёны нованароджаным даваліся па жаданні бацькоў, а не строга па святцах; ужывалася народная мова ў літургіі і пераклад на яе Бібліі; у царкве дапускалася скульптура ды шмат іншых адрозненняў, дзе яскрава бачны заходні ўплыў. Дарэчы, Папа Рымскі не вызнаваўся намеснікам на катэдры св. Пятра, але першым сярод епіскапаў»[1]. Са сказанага вынікае, якім нескладаным для праваслаўнай царквы ВКЛ было станоўчае вырашэнне пытання уніі з каталіцызмам.

На фоне гэтых бясконцых канфліктаў і супярэчнасцяў паміж дзвюма праваслаўнымі краінамі ўмела праводзіла сваю антыбеларускую палітыку Польская Карона. Для свецкіх і духоўных кіраўнікоў ВКЛ не былі сакрэтам яе агрэсіўныя планы. Змагацца на два франты з такімі магутнымі краінамі неставала сілаў. Дзяржаўных дзеячаў Княства ў той складанай сітуацыі ўсё ж больш пужалі агрэсіўныя планы рускіх князёў, заадно з якімі была і Маскоўская мітраполія. Вось чаму падпісанне царкоўнай уніі вельмі многімі разглядалася як найважнейшая пера-

---

[1] Горбік С. Шукаць свой шлях // Літаратура і мастацтва. — 1991. — 12 ліпеня. — С. 14.

думова аховы Беларусі ад несправядлівых прэтэнзій яе ўсходняга суседа — Рускай цэнтралізаванай дзяржавы. Неабходна памятаць, што яе тэрытарыяльныя дамаганні ў дачыненні да беларускіх земляў Вялікага Княства Літоўскага нікольκі не зменшыліся і пасля аб'яднання апошняга ў 1569 г. з Польскай Каронай у адну федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую. І на гэты раз у пытаннях анексіі беларускіх земляў свецкія ўлады Масковіі мелі поўную падтрымку ад Рускай праваслаўнай царквы, уплыў якой стаў яшчэ мацнейшым у нашым краі пасля стварэння ў 1589 г. Маскоўскай патрыярхіі. У яе адразу ж з'явілася жаданне любой цаной падпарадкаваць свайму ўплыву ўсіх праваслаўных вернікаў Рэчы Паспалітай, паколькі пасля захопу ў 1453 г. Канстанцінопаля туркамі на яе землях вельмі аслабелі пазіцыі Канстанцінопальскай патрыярхіі. Менавіта з заснаваннем Маскоўскай патрыярхіі сярод высокіх духоўных і свецкіх асобаў набыў небывала вялікае значэнне лозунг: «Масква — трэці Рым і чацвёртаму не быць». «Маскоўскаму Рыму» патрэбны былі велізарныя тэрыторыі, якімі некалі валодаў першы, сапраўдны Рым. Уяўляліся ж яны найперш на захад ад Рускай цэнтралізаванай дзяржавы, за якія ўжо даўно з двух бакоў лілася славянская кроў. Непрыхаваныя прэтэнзіі маскоўскай патрыярхі на права распараджацца Праваслаўнай царквой Беларусі і павінны разглядацца ў якасці адной з прычын, што яе высокія духоўныя іерархіі ўбачылі ў уніі надзейны сродак вызвалення сябе і свайго народа ад такой непажаданай залежнасці. Як бачым, апошнія два стагоддзі, што папярэднічалі падпісанню Берасцейскай уніі, не даюць важкіх падстаў сцвярджаць, як гэта многія робяць, што ў перыяд сярэднявечча праваслаўе ў Беларусі было выключна нацыянальнай канфесіяй, і, значыцца, той, хто ехаў на падпісанне такога дакумента ў Бярэсце, быў ворагам беларускага народа. Палітычныя і канфесійныя справы таго часу куды больш складаныя, каб даваць такую негатыўную, памылковую ацэнку ініцыятарам царкоўнай уніі ў Беларусі.

Пайсці на заключэнне Берасцейскай уніі садзейнічала і тое, што праваслаўе ў Беларусі практычна ніколі не было адгароджана высокім мурам і глыбокім ровам ад каталіцызму. Немалаважную ролю адыгрываў і факт, што шмат здольнай праваслаўнай моладзі канчала ў краінах Еўропы каталіцкія ўніверсітэты, дзякуючы чаму аблягчалася ўсталяванне трывалага саюзу гэтых дзвюх канфесій хрысціянства. Моцна і доўгі час станоўча ўплывала на адносіны людзей да такога

саюзу тое, што яго прыхільнікам быў вельмі папулярны ў народзе вялікі князь літоўскі Вітаўт. У ВКЛ заўсёды было нямала мітрапалітаў, якія з большай прыязнасцю глядзелі ў бок Папы Рымскага, чым Канстанцінопальскага патрыярха ці Маскоўскага мітрапаліта ўсяе Русі. Пасля падпісання ў 1439 г. Фларэнтыйскай царкоўнай уніі нейкі час «шэраг мітрапалітаў ВКЛ бралі блаславенне на мітраполію ў Папы Рымскага. Але ў 80-х гадах XV ст. праваслаўныя ВКЛ вярнуліся пад юрысдыкцыю Канстанцінопальскіх праваслаўных патрыярхаў. На працягу амаль стагоддзя розныя мітрапаліты спрабавалі адрадзіць унію, ды палітычныя падзеі перашкаджалі іхнім намаганням. Тым не менш уніяцкая традыцыя жыла і садзейнічала збліжэнню каталіцызму з праваслаўем у Беларусі»[1].

Не ў апошнюю чаргу на падпісанне царкоўнай уніі ў Бярэсці праваслаўныя епіскапы і мітрапаліт ішлі дзеля таго, каб высокія духоўныя асобы гэтай канфесіі былі ўраўнаваны з каталіцкай іерархіяй, маглі атрымаць месца ў вышэйшых свецкіх уладах Рэчы Паспалітай.

Вялікую ролю ў распаўсюджанні ўнійнай ідэі ў нашым краі адыгралі каталіцкія школы, у якія дзеля гэтага прымалі на вучобу і дзяцей з праваслаўных сем’яў. Некаторыя з іх вучыліся ў такіх школах па-за межамі Беларусі, у тым ліку ў Рыме.

Акрамя рознага роду навучальных устаноў падрыхтоўка праваслаўных беларусаў да уніі ажыццяўлялася праз выданне і папулярызацыю літаратуры адпаведнага зместу. Тут у першую чаргу варта спаслацца на апублікаваную ў 1595 г. у Вільні пры актыўным садзеянні езуітаў кнігу Іпація Пацея «Уния, альбо выклад преднейших артыкулов ку зъодноченью греков с костелом рымским надлежащых».

Сам факт маючага адбыцца ў Беларусі аб’яднання праваслаўнай і каталіцкай рэлігій не павінен быў успрымацца як штосьці вельмі складанае і маларэальнае яшчэ і таму, што з даўняе пары ў першай прысутнічалі элементы заходняй (каталіцкай) абраднасці, у другой — наадварот, усходняй (праваслаўнай). У многіх мясцовасцях амаль па суседстве размяшчаліся праваслаўны і каталіцкі храмы, іх вернікі знаходзіліся ў цесных кантактах паміж сабой, бо пакланяліся аднаму Богу. Патрэбна была толькі нейкая важкая падстава, каб матэрыялізаваць такую ідэю. Супроць уласнага жадання яе, як ніхто

---

[1] Горбік С. Шукаць свой шлях. — С. 14.

іншы, добра падрыхтавалі самі рускія цары, маскоўскія мітрапаліты і патрыярхі сваімі няспыннымі намаганнямі далучыць да сябе землі ВКЛ, заселеныя праваслаўнымі славянамі.

Мелі месца і іншыя фактары, якія перашкаджалі царкве ўсходняга абраду заховўваць належны аўтарытэт у нашым краі. У вачах многіх апошняя не надта асацыіравалася з сілай, якая на першае месца ставіла б этнакультурныя інтарэсы беларускага народа. Яна нібыта зусім не ведала, што з надыходам эпохі Рэфармацыі ў многіх еўрапейскіх краінах побач з іншымі станоўчымі з'явамі ўзнік і рух за ўвядзенне ў богаслужэнне нацыянальных моваў. Здавалася б, пасля ўдалых спробаў Францішка Скарыны па перакладзе рэлігійных кніг на старабеларускую мову гэтая справа ў ВКЛ набудзе больш шырокія абсягі і на парадак дня праваслаўнага царкоўнага жыцця ўсплыве пытанне аб наданні ёй статусу літургічнай. Такога не адбылося. Зважаючы на такую абыякавасць праваслаўнага духавенства да роднага слова беларусаў, наш вядомы асветнік, гуманіст Васіль Цяпінскі па сваёй уласнай ініцыятыве вырашыў узяцца за пераклад рэлігійных кніг на іх родную мову. Пачаў з Евангелля, тлумачачы свой учынак тым, што духавенства стаіць у баку ад гэтага клопату, «поневежъ которымъ бы то властней учинити пристоело, митрополитове, владыки и никто з учоных через так многии час не хотели».

І, нарэшце, хочацца спаслацца на выказванне добрага знаўцы гэтай праблемы, дарэвалюцыйнага гісторыка К. Харламповіча, які пісаў, што духоўныя асобы, якія заключылі Берасцейскую унію, апраўдвалі свае дзеянні яшчэ і тым, «што хацелі вывесці рускі (г. зн. беларускі. — *Л. Л.*) народ з таго невуцтва, у якім ён заграз услед за грэкамі…».

Усё вышэйсказанае можа тлумачыць, чаму ў Вялікім Княстве Літоўскім у XV–XVI стст. такую спрыяльную глебу знайшла сабе думка аб карэннай перабудове царкоўна-рэлігійнага жыцця, што вельмі лёгка магло ўвасобіцца ў унію праваслаўя з каталіцызмам, тым больш, што пэўны станоўчы прыклад такога саюзу ўжо даўно меўся ў Еўропе. Лёс наканаваў першы крок у гэтым напрамку зрабіць самаму заходняму гораду Княства — Бярэсцю.

## § 2. ПАДПІСАННЕ ЦАРКОЎНАЙ УНІІ

Яшчэ ніколі старажытны беларускі горад Бярэсце не бачыў такой вялікай колькасці высокіх духоўных асобаў праваслаўнай і каталіцкай цэркваў (больш за 200 чалавек), як у першай дэкадзе кастрычніка 1596 г. Тлумачылася гэта тым, што пад той час у Бярэсці сабраліся духоўнікі, каб падпісаць акт аб аб'яднанні праваслаўнай і каталіцкай цэркваў Рэчы Паспалітай. Сярод прадстаўнікоў каталіцкай царквы тут найбольш адметнай фігурай быў Пётр Скарга. Прыехалі сюды і праваслаўныя епіскапы, якія выступалі супраць заключэння такой уніі.

Непрыхільна ставіліся да саюзу праваслаўных і католікаў многія прадстаўнікі пратэстанцкіх родаў. Пацвярджаецца гэта такім фактам. У час правядзення ў Бярэсці ў Свята-Мікалаеўскай царкве сабора праваслаўных і каталіцкіх духоўнікаў з мэтай падпісання уніі тым асобам з праваслаўных, хто не пажадаў на ім прысутнічаць, не знаходзілася ў горадзе, з-за закрыцця паводле загаду караля ўсіх бажніц, месца, каб сабрацца і выказацца адносна дадзенай падзеі. Выручыў іх пратэстанцкі пан Райскі, уступіўшы дзеля гэтага свой дом. Сучасныя даследчыкі лічаць, што пратэстантам быў і аўтар брашуры «Апокрысіс, альбо Водпаведзь на кніжкі аб саборы Берасцейскім», прозвішча якога Марцін Бранеўскі (жыў на Валыні).

Аўтарытэту Берасцейскага царкоўнага сабора 1596 г. садзейнічала прысутнасць на ім патрыяршых экзархаў Нікіфара з Канстанцінопаля і Кірылы Лукарыса з Александрыі, а таксама такіх буйных дзяржаўных палітыкаў і магнатаў ВКЛ, як Мікалай Радзівіл, Леў Сапега, Канстанцін Астрожскі.

Урачыстае абвяшчэнне Берасцейскай уніі адбылося 9 кастрычніка 1596 г. Найбольш намаганняў для яе заключэння прыклалі з боку праваслаўнай царквы епіскап Валадзімерскі і Берасцейскі Іпацій Пацей і епіскап Луцкі Кірыла Цярлецкі. Сам акт Берасцейскай уніі быў зацверджаны польскім каралём Жыгімонтам III Вазам універсалам ад 15 снежня таго ж года.

Так здзейсніўся акт, да якога на працягу некалькіх стагоддзяў імкнуліся пэўныя духоўныя і свецкія колы Беларусі, стала сустракаючы на гэтым шляху самыя сур'ёзныя перашкоды. Неназіралася міру і зго-

ды і ў дзень, калі падпісваўся гэты царкоўны дакумент. Праваслаўны сабор, што праходзіў у той дзень у Бярэсці, крайне адмоўна выказаўся пра унію, пазбавіў духоўнага сану ўсіх тых, хто яе падпісаў. Як толькі духоўнікі раз'ехаліся па хатах, паміж імі разгарнулася палеміка адносна таго, што адбылося ў кастрычніку 1596 г. у Бярэсці. І пазней яна не спынялася, набываючы ўсё больш востры характар. У якіх толькі грахах не абвінавачвалі прыхільнікаў уніі! Называлі іх і здраднікамі. Але не менш было высокіх духоўных і свецкіх асобаў, якія глядзелі на царкоўную унію як на выратавальную акцыю, спадзяваліся, што яна адвядзе замахі на беларусаў з боку Маскоўскай патрыярхіі і польскага касцёла.

Хочацца нагадаць, калі падпісвалася Берасцейская царкоўная унія, канцлерам Вялікага Княства Літоўскага быў моцна адданы свайму краю і яго народу Леў Сапега. Калі б у гэтым царкоўным акце і сапраўды мелася штосьці такое, што пагражала б дзяржаўным інтарэсам карэннага насельніцтва краіны, ён замест падтрымкі уніі стаў бы праціўнікам апошняй. Падобнага не здарылася. Такая палітыка дыктавалася тым, што ў саюзе праваслаўнай і каталіцкай цэркваў вялікі канцлер бачыў гарантыю спынення канфліктаў паміж іх вернікамі, якія, за рэдкім выключэннем, складалі ў этнічным плане адзін народ — беларускі. Унія, як ужо пісалася раней, разглядалася абачлівымі палітыкамі і як надзейны гарант не толькі ад русіфікацыі, але і паланізацыі, якой, як правіла, заўсёды папярэднічалі поўнае ці частковае акаталічванне. Стаўшы ўніятамі, усё ж можна было вызваліцца з-пад пагрозы апынуцца пад яго ўплывам, хаця і з неверагоднай цяжкасцю. Словам, можна па-рознаму тлумачыць прычыны падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі, называць нават ледзь не здраднікамі яе аўтараў. Але што гэтая канфесія насуперак планам розных груповак, якія садзейнічалі яе заключэнню, з цягам часу пачала жыць інтарэсамі беларускага народа — гэты факт не падлягае аніякім аспрэчванням і ім можна цалкам апраўдаць заключэнне дадзенага рэлігійнага саюзу.

Як вядома, прыняцце еўрапейскімі народамі каталіцкай ці ўніяцкай веры асабліва не пагражала іх нацыянальна-дзяржаўнаму суверэнітэту, не вяло да падпарадкавання Ватыкану ў сферы культурнага жыцця. На такое з поўнай падставай маглі разлічваць і тыя духоўныя асобы Праваслаўнай царквы Беларусі, што доўга выношвалі планы на унію з каталіцкай царквою. Сучасны беларускі гісторык Сяргей Тарасаў

справядліва лічыць, што «фармальнае прызначэнне Папежа главой (уніяцкай царквы Вялікага Княства Літоўскага. — *Л. Л.*) было хутчэй з’едлівым рэверансам у бок Масковіі і праваслаўнага патрыярха, чым фактычным яму падпарадкаваннем»[1].

Ні за сто, ні за дзесяць, ні за год да падпісання Берасцейскай уніі ніхто не гнаў у карак праваслаўных іерархаў Вялікага Княства Літоўскага абавязкова ўчыніць такую аб’яднаўчую акцыю. Кожны раз, калі ўзнікала падобнае пытанне, яно разглядалася вельмі грунтоўна і ўсебакова. Характэрна гэта было і для Ватыкана, прычым нават і ў самыя апошнія гады. Як вядома, не спяшаўся з увядзеннем уніі ў ВКЛ і рымскі папа Клімент VIII, відаць, баючыся, каб не пахіснуць веру людзей у правільнасць такога адказнага кроку. З гэтай мэтай ён наладзіў 23 снежня 1595 г. у Рыме афіцыйны прыём для кіраўнікоў праваслаўнай царквы епіскапа Валадзімерскага і Берасцейскага Іпація Пацея і епіскапа Луцкага Кірылы Цярлецкага, на якім практычна былі ўзгоднены ўсе пытанні, звязаныя з падпісаннем уніі.

Не лішнім будзе адзначыць, што епіскапскую грамату, абяцанне епіскапаў чыталі самому папу і прысутным на аўдыенцыі не толькі на латыні, але і на тагачаснай беларускай мове. На заканчэнне папа сказаў епіскапам Вялікага Княства Літоўскага: «Не хачу панаваць над вамі, але хачу немачы вашы на сабе насіць». У адпаведнасці з усталяванымі ў такіх выпадках правіламі епіскапы пачалі цалаваць ногі папы, што пазней знайшло вельмі адмоўную характарыстыку ў працах гісторыкаў рэлігіі. А такі ж учынак ніяк нельга разглядаць як знявагу епіскапамі саміх сябе. Цалаваць ногі папы лічылася тады не ўніжэннем, а вялікім гонарам. З нагоды той сустрэчы ў Рыме выбілі медаль з надпісам «Ruthenis receptis», што ў перакладзе на беларускую мову азначае «Прыняцце Русі». Тэрмін «Русь» тут прысутнічае таму, што ім у той час у Еўропе называлі і нашу краіну.

У спецыяльнай грамаце рымскага папы — буле аб уніі — гаварылася аб захаванні праваслаўных «абрадаў і цырыманіялу ў набажэнствах, у выкананні таінстваў і ў астатнім». Праваслаўныя іерархі дамагліся ад папы і згоды на наданне ўсім будучым уніяцкім біскупам сенатарскага звання, што павінна было садзейнічаць схіленню кіраўнікоў праваслаўнага кліру да ўніяцтва. Што апошняе не ішло на поўны,

---

[1] Полацк. — 1992. — № 1. С. 12, 13.

абсалютны разрыў з усходнехрысціянскім абрадам сведчыць і такі факт, як прадпісанне праводзіць у грэка-рымскіх храмах набажэнства ў залежнасці ад абставін на нацыянальнай ці царкоўнаславянскай мовах. Без змяненняў захоўваліся праваслаўныя традыцыйныя святы, юліянскі каляндар.

Паважлівыя адносіны рымскага папы да беларускіх праваслаўных епіскапаў, якія далі папярэднюю згоду на унію, наўрад ці цалкам заспакоілі іх. Бо ці ж мала было выпадкаў, калі Ватыкан мяняў свае пазіцыі па тым ці іншым пытанні? Але страшней за ўсё было тое, што ад яго поглядаў істотна адрозніваліся — і не ў лепшы бок — адносіны да уніі кіраўнікоў каталіцкай царквы Польскага Каралеўства. Той, хто ехаў у Бярэсце абараняць інтарэсы беларускага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага, напэўна ж, ведаў, што зрабіць гэта будзе ой як нялёгка. За плячыма каталіцызму стаяў у той час вельмі заўзяты прыхільнік гэтай канфесіі, вопытны царкоўна-рэлігійны, палітычны дзеяч Польшчы, таленавіты прамоўца, першы па ліку рэктар езуіцкай калегіі ў Вільні (1579–1584) Пётр Скарга (сапр. Павенскі), якога называлі польскім Залатавустам, розумам і сумленнем самога польскага караля Жыгімонта ІІІ. Гэта пра яго гаварылі: «…калі хочаш быць палітыкам, чытай творы Скаргі, філосафам — чытай Скаргу, прамоўцам — чытай Скаргу… бо Скарга ўсё і для ўсіх». Высока цаніў яго і беларускі гісторык XIX ст. Адам Кіркор, заяўляючы, што Пётр Скарга — гэта «адзін з самых знакамітых прадстаўнікоў палітыка-рэлігійнага напрамку езуітаў. Роўнага яму не было ні ў асяроддзі езуітаў, ні ў асяроддзі кальвіністаў. Паводле ўкладу жыцця, паводле характару Скарга быў асобай, з якой усе здзіўляліся, перад якой міжвольна ўсе схіляліся. У жыцці чалавек высокадухоўны, аскет у поўным сэнсе слова. Красамоўства яго было надзвычайнае, да такой ступені прываблівала, што яму амаль неўсвядомлена скараліся лютыя ворагі езуітаў»[1].

Моцна памыляецца той, хто лічыць, што ў духоўных асобаў, якія падпісалі ў Бярэсці акт аб аб’яднанні праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, не хапіла розуму, каб разабрацца, якую яны «шкоду» чыняць

---

[1] Живописная Россия. Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении. — Т. 3. — СПб.; М., 1882. — С. 103.

сваiму краю. Не, такой ацэнкі гэтыя асобы не заслугоўваюць, бо яны ва ўсіх адносінах былі людзі высокаінтэлектуальныя для таго часу, любілі свой народ. Не шкадаваў эпітэтаў, характарызуючы тых, хто стаяў ля вытокаў царкоўнай уніі ці служыў на карысць апошняй у першыя гады яе існавання, вядомы рускі гісторык Сяргей Салаўёў (1820–1879) — аўтар 29-томнай «Гісторыі Расіі з найстаражытнейшых часоў». Паводле яго ацэнкі, епіскап Пінскі і Тураўскі Кірыла Цярлецкі — гэта «разумны, адукаваны, спрытны і дзейны», архімандрыт мінскі Міхаіл Рагоза, які ў 1589 г. замяніў кіеўскага мітрапаліта Анісіфара Дзявочку, — «чалавек набожны, сціплы, параўнальна бездакорнай духоўнасці, далёкі ад спраў гвалту», епіскап Валадзімерскі Іпацій Пацей падаецца «вялікім падзвіжнікам, устрыманнікам, поснікам, чуйным ахавальнікам правоў царкоўных, які ні ў якія справы свецкія не ўступае».

Праўда, такіх людзей не дужа багата было. Асабліва нізкім узроўнем адукаванасці і духоўнасці вызначаліся тыя, хто быў бліжэй да самой праваслаўнай паствы, што вельмі непакоіла шчырых прыхільнікаў гэтай канфесіі. Вось як характарызаваў яе тагачасны стан у лісце (21 чэрвеня 1593 г.) да епіскапа Валадзімерскага Іпація Пацея вядомы палітычны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага Канстанцін Астрожскі: «…людзі нашай рэлігіі заняпалі духоўна, што пануе ў іх лянота і нядбанне да набожнасці: не толькі не выконваюць яны абавязку свайго хрысціянскага, не абараняюць царкву божую і веру сваю старадаўнюю, але яшчэ і самі многія насміхаюцца з яе, разбягаюцца па розных сектах»[1]. Такое магло назірацца сярод праваслаўных вернікаў у значнай ступені таму, што з імі не вялі адпаведнай работы папы, што апошнія не вызначаліся належным узроўнем адукацыі і стараннасцю пры выкананні сваіх абавязкаў.

Без перабольшвання, унія паміж праваслаўнай і каталіцкай цэрквамі выратавала Беларусь ад тых страшэнных бедаў, якія давялося зведаць многім краінам свету ад рознага роду канфліктаў на рэлігійнай глебе, што, відаць, ніколі не забывалася нашымі разважлівымі продкамі. Дый як на гэта можна было забыцца, калі хрысціянская рэлігія для свайго замацавання ў свядомасці людзей запатрабавала звыш сямнаццаці мільёнаў чалавечых жыццяў. Зусім не мірнымі сродкамі

---

[1] Соловьев С. М. История России с древнейших времен. — Кн. V. — Т. 9–10. — М., 1963. — С. 392.

распаўсюджваліся і іншыя рэлігійныя плыні. Адпаведна з легендай, яўрэйскі прарок Майсей толькі за тое, што многія вернікі прымалі за выдумку замагільнае жыццё, аддаў левітам распараджэнне забіць пяцьдзесят дзевяць тысяч чалавек. Усе гэтыя факты прыводзіў адзін з прадстаўнікоў французскага Асветніцтва Вальтэр[1], які строга асуджаў царкву за праліццё чалавечай крыві.

Не давялося Беларусі перажыць і Варфаламееўскай ночы, у час якой каталікамі ў Парыжы 24 жніўня 1572 г. было забіта дзве тысячы гугенотаў (прыхільнікаў кальвінізму). На шчасце нашай Бацькаўшчыны, тут ніколі не бушавала полымя жорсткіх братазабойчых рэлігійных войнаў, у развязванні якіх удзельнічалі б каталікі і кальвіністы. Пачаліся ж рэлігійныя войны ў Францыі ў 1562 г. і закончыліся толькі за год да падпісання ў Бярэсці царкоўнай уніі. Трэба думаць, што не толькі прадстаўнікі духавенства, але і іншыя адукаваныя людзі маглі прадбачыць зусім рэальныя і ва ўмовах Беларусі канфлікты паміж вернікамі на рэлігійнай глебе. Відаць, таму Сымон Будны і выдаў у 1576 г. у Лоску (Валожыншчына) у перакладзе з французскай мовы кнігу Эдманда Фрыза (сапр. Франсуа Гомман) «Аб фурыях, ці французскіх вар’яцтвах», у якой апісваліся кровапралітныя падзеі Варфаламееўскай ночы.

Наш край не таптала конніца турэцкіх янычараў, якія так шмат пралілі хрысціянскай крыві на немусульманскіх землях Асманскай (Атаманскай) імперыі. Чалавечыя, матэрыяльныя і іншыя ахвяры, што звязаны з гвалтоўным ці добраахвотным далучэннем праваслаўных беларусаў да ўніяцтва, не ідуць ні ў якое параўнанне з тым, што, да прыкладу, давялося перажыць паўднёваславянскім народам ад фанатыкаў мусульманства. Праўда, разумным і міралюбным людзям не ўдалося выратаваць многія вёскі і гарады Беларусі ад набегаў (учыняліся яны яшчэ і да Берасцейскай уніі) атрадаў запарожскіх казакоў на чале з Лабадой і Налівайкам, што ў нашу гісторыю незаслужана ўвайшлі як героі казацка-сялянскага паўстання, шчырыя абаронцы праваслаўнай веры. Ад іх агню часта гінулі не толькі дамы і маёнткі буйных каталіцкіх магнатаў, але і простых паводле свайго сацыяльнага становішча беларусаў каталіцкай веры. Вось адзін з такіх «вызваленчых паходаў» двухтысячнага казацкага войска Севярына Налівайкі ў 1595 г. на

[1] Вольтер. Философские сочинения. — М., 1988. — С. 623, 627.

Магілёў, што засведчана на старонках Баркулабаўскага летапісу: «Мѣсто славное Могилев, мѣсто побожное, домы, крамы, остроги выжгли: домов всех яко 500, а крамов с великими скарбами 400. Мещан, бояр, людзей учтивых так мужей, яко и жон, детей малых побили, порубали, попоганили, скарбов теж незличоных побрали с крамов и з домов». Праз два гады, 11 красавіка 1597 г., жорсткі кат цывільнага насельніцтва Магілёва быў чвартаваны на адной з плошчаў Варшавы.

Больш гуманнымі і памяркоўнымі аказаліся нашы продкі ў час вострых рэлігійных палемік адносна большай ці меншай вартасці той ці іншай канфесіі і наогул аб існаванні самога Бога. Смяротная кара (але не па віне беларусаў) не абмінула толькі нашага вядомага мысліцеля, ураджэнца Берасцейскага павета Казіміра Лышчынскага (каля 1634 – 1689), спаленага на кастры на плошчы Старога Мяста ў Варшаве. А вось пасля таго, як рымскі папа Сікс заснаваў суд «святой інквізіцыі» для барацьбы з перадавой, незалежнай ад рэлігійных догмаў навукай, толькі ў Іспаніі за час свайго існавання інквізіцыйныя трыбуналы спалілі на кастрах, замардавалі ў сутарэннях кляштароў каля 350 тысяч чалавек.

Горкі чужы вопыт вучыў беларусаў, як трэба было ўдумліва, разважліва ставіцца да вырашэння пытанняў рэлігійнага жыцця ў такой далёка не міралюбнай сярэдневяковай Еўропе. Таму, каб надзейна абараніць беларускі этнас ад зусім рэальнага распаду ў выніку ажыццяўлення экспансіянісцкіх планаў усходняга і заходняга суседзяў, пазбегнуць досыць магчымых у такіх неспрыяльных варунках рэлігійных войнаў, абачлівыя, высокія асобы праваслаўнага духавенства Беларусі, якіх часта беспадстаўна называлі і называюць здраднікамі, без асаблівага прымусу і пагрозы, свядома пагадзіліся на заключэнне царкоўнай уніі з каталіцкім касцёлам.

У выніку падпісання ў 1596 г. у Бярэсці такога акта практычна не давялося панесці аніякай страты ў вераваннях продкаў, бо асноўныя праваслаўныя абрады захоўваліся ж без змяненняў, а толькі ўсталёўвалася вяршэнства ўлады рымскага папы над уніяцкай царквой, які не толькі не ўмешваўся ва ўнутраныя справы яе вернікаў, а, наадварот, часта выступаў у ролі іх абаронцаў ад несправядлівасцяў з боку больш моцнага суседа ў асобе польскага каталіцкага духавенства. Вядомы шматлікія факты, калі Ватыкан строга асуджаў яго за спробы ўвесці ў набажэнства ўніяцкай царквы Беларусі польскую мову, схіліць яе вернікаў жыць паводле польскіх узораў.

Прыняццем уніі беларусы без усялякай падтрымкі звонку самі сябе выратавалі ад поўнага акаталічвання, а, значыцца, і ад поўнай паланізацыі. Шэраг жа іншых народаў грэка-славянскага абраду, у прыватнасці чэхі, якія жылі па суседстве з каталіцкімі краінамі, рана ці позна амаль цалкам перайшлі на гэтую веру, праліўшы пры гэтым шмат крыві ў выніку бітваў з войскамі германскіх імператараў — актыўных праваднікоў каталіцкай рэлігіі.

Адзінае, за што можна дакараць высокіх праваслаўных духоўных асобаў, што яны вельмі даверыліся слову каталіцкіх іерархаў і як след не настаялі, каб яно падмацоўвалася іх практычнымі дзеяннямі. Калі праваслаўныя і каталіцкія духоўнікі сабраліся ў Бярэсці, яны дамаўляліся аб аб'яднанні вернікаў гэтых дзвюх канфесій ва ўніяцтва. На справе ж ніхто і не падумаў пераводзіць у яго католікаў. Уніяцтва стваралася толькі за кошт праваслаўных вернікаў. Больш таго, як толькі надаралася магчымасць, апошніх імкнуліся павярнуць не ва ўніяцтва, а ў католікаў. Як бачым, каталіцкае духавенства адразу ж стала на шлях адкрытага здрадніцтва ў дачыненні да праваслаўнай царквы, нясе найбольшую адказнасць за ўсе тыя канфлікты, якія ўзнікалі паміж імі ў перыяд пасля падпісання уніі. Ашуканства польскага каталіцкага духавенства выклікала вялікую незадаволенасць і ва ўніяцкай царквы, таму зусім не выпадкова, што ў іх узаемадачыненнях на працягу ўсіх гадоў вельмі мала было згоды і паразумення.

Мірна і лагодна пашыралася новая вера толькі там і тады, дзе і калі гэты працэс адбываўся без асаблівых старанняў каталіцкага духавенства, рэгуляваўся праваслаўнымі святарамі. Адсутнасць якіх-небудзь сур'ёзных прымусовых захадаў свецкіх і духоўных уладаў на карысць уніяцкай царквы прызнаваў і гісторык Адам Кіркор, калі пісаў: «Унія ж прымалася народам неўсвядомлена, паводле загаду ўладальнікаў. Абраднасць, мова заставаліся ранейшыя і народ не заўважаў нават альбо не разумеў асноўнай перамены, менавіта ў прызнанні вяршэнства папы. Праваслаўнае духавенства ў той час было такім грубым і неадукаваным, што не магло ўплываць дабратворна на сельскае саслоўе, не магло сапернічаць з езуітамі і па адносінах да вышэйшых саслоўяў»[1]. У такіх умовах пашыраць сферу ўплыву ўніяцтва не ўяўлялася за вялікую цяжкасць.

---

[1] Живописная Россия… — Т. 3. — С. 306.

## § 3. ГВАЛТАМ ЦІ ПА ЗГОДЗЕ?

Здзейсненая ў 1596 г. у Бярэсці акцыя склала новую старонку ў гісторыі рэлігійнага жыцця нашага краю. Тое, што там адбылося, зусім не радавая падзея. Яна па-рознаму ўспрымалася прадстаўнікамі духоўных і свецкіх уладаў, самімі вернікамі. Прычым праявілася ўсё гэта вельмі рана. Відаць, прадбачачы, што факт заключэння уніі не ўсюды знойдзе належную падтрымку, Іпацій Пацей пастараўся ўжо ў 1597 г. у Вільні выдаць брашуру «Справядлівае апісанне пастулку і справы сінодавай ды абарона згоды і еднасці завяршоная, якая ся стала на сінодзе Берасцейскім у року 1596». Асаблівага ўздзеяння на праваслаўных брашура не магла зрабіць, бо як толькі яна трапляла ў іх рукі, дык адразу ж падлягала знішчэнню.

Хочацца звярнуць увагу на такую акалічнасць. Калі падпісаннем Берасцейскай царкоўнай уніі кіраўнікі праваслаўнага кліру Беларусі імкнуліся выратаваць яе насельніцтва ад паланізацыі і русіфікацыі, захаваць яго як самабытную этнакультурную супольнасць, дык каталіцкае духавенства Польскай Кароны разглядала гэты акт як магчымасць працягу сваёй асімілятарскай палітыкі на землях усходняга суседа. Гэта каталіцкім духоўнікам адносна не цяжка было рабіць, бо на іх баку заўсёды стаяла свецкая ўлада ў асобе самога караля. Дарэчы, найбольш незгаворлівым, агрэсіўным аказаўся якраз польскі кароль Жыгімонт III, г. зн. акурат той гаспадар, пры якім і адбылося заключэнне Берасцейскай царкоўнай уніі. Прадпісанні з булы папы Клімента VIII ім парушаліся на кожным кроку, і ўсё гэта заставалася беспакараным. Можна падумаць, што Жыгімонт III меў цвёрды характар, а рымскі папа не ўмеў у такіх выпадках ужыць у належнай ступені сваю ўладу? Але хутчэй за ўсё польскі кароль вельмі моцна жадаў ужо на першым этапе ўвядзення ўніяцтва дамагчыся адчувальных зрухаў у гэтым, таму гатоў быў ісці на любую жорсткасць супроць людзей сваёй жа дзяржавы. Так, даведаўшыся, што магістрат горада Магілёва і праваслаўнае брацтва адмовіліся падпарадкавацца ўніяцкаму мітрапаліту, Жыгімонт III адразу ж выдаў грамату аб прыцягненні іх да каралеўскага суда. Але калі таго вымушала становішча, гэты ж актыўны прыхільнік палітыкі паланізацыі і акаталічвання беларусаў

гатоў быў ужыць і такі зварот да іх: «…нашым шаноўным вернападданым, жыхарам Вялікага Княства Літоўскага — наша міласць». Калі ўзнікла вострая патрэба ў грашовых сродках на заснаванне Мінскай уніяцкай семінарыі[1], ён сабраў і перадаў на гэтыя мэты 50 тысяч злотых.

За ўжыванне пры ўкараненні уніі гвалтоўных метадаў не раз прыцягваўся ў Соймавы суд галоўны ініцыятар яе біскуп Іпацій Пацей. За гэта яму давялося заплаціць вялікую суму грошай трыбуналу ВКЛ.

Каб прадухіліць непажаданае хваляванне праваслаўнага насельніцтва з-за жорсткасці палітыкі Жыгімонта ІІІ, рымскі папа ўвесь час патрабаваў ад сваіх пасланцоў у Рэч Паспалітую трымаць пад строгім кантролем сітуацыю, уздзейнічаць на яе ў больш памяркоўным напрамку. Менавіта такой думкай прасякнута пасланая ў 1612 г. Ватыканам інструкцыя папскаму нунцыю ў Польшчы Руіні. У ёй гаварылася, што нянавісць схізматыкаў (раскольнікаў; так каталікі называлі праваслаўных) да каталікаў, а яшчэ болей да ўніятаў, куды значней «узмоцнілася ад тае пары, як кароль сваім рашэннем перадаў уніятам некалькі віленскіх цэркваў, што належалі схізматыкам, якія не спыняюцца хадайнічаць аб адмене гэтага рашэння». Нунцыю прапаноўвалася выконваць свае справы, «захоўваючы ўсяляк асцярожнасць».

Раней у нас звычайна, каб падкрэсліць гвалтоўны характар увядзення і распаўсюджвання ўніяцкай веры, чаго не было ў сапраўднасці, любілі спасылацца на жорсткасць полацкага архібіскупа езуіта Ясафата Кунцэвіча, за што праваслаўныя паўстанцы забілі яго 12 лістапада 1623 г. у Віцебску[2]. Вядома, пэўная жорсткасць была з боку архібіскупа, але ахвяры яе зусім не параўнальныя з тым, пра што пісалася многімі аўтарамі. Да таго ж яна была асуджана афіцыйнай уладай Вялікага Княства Літоўскага. Магчыма, Ясафату Кунцэвічу, які нарадзіўся і доўга жыў на Украіне, цяжкавата было разабрацца з

---

[1] Будаўніцтва семінарыі надоўга зацягнулася. Яе адкрыцця так і не адбылося: у 1655 г. будынак быў спалены ў выніку нападу на горад маскоўскага войска.

[2] Упершыню ж праваслаўныя вернікі замахнуліся на жыццё высокай духоўнай уніяцкай асобы 11 жніўня 1600 г. Ёю быў сам Іпацій Пацей, мітрапаліт кіеўскі. Забойца намерваўся нанесці шабляй удар па шыі, але прамахнуўся і адсек толькі два пальцы левай рукі мітрапаліта.

беларускім менталітэтам і там, дзе трэба было схіляць людзей у новую веру ўгаворамі, ён звяртаўся да прымусовых метадаў, чым толькі наклікаў на сябе справядлівы гнеў праваслаўных. Але калі б у нас стала практыкай пры апісанні магчымых жорсткасцяў Ясафата Кунцэвіча ў дачыненні да праваслаўных гаварыць тут жа і пра ўласнаручнае забойства расійскім імператарам Пятром I і яго паплечнікам Аляксандрам Меншыкавым у 1705 г. у Полацкім кафедральным Сафійскім саборы пяці ўніяцкіх святароў і манахаў, тады б на фоне гэтага не такім бы злосным з'яўляўся ўчынак уніяцкага архібіскупа. Адбылося ж злачынства Пятра I у час Паўночнай вайны, якая страшэнным смерчам пранеслася па беларускай зямлі. Тады ж царская кавалерыя, казакі і калмыкі ўчынілі рабаванне кляштара Святой Тройцы ў Мінску.

Парушэнне Ясафатам Кунцэвічам і яго прыхільнікамі прынцыпу добраахвотнага прыняцця ўніяцтва ніяк не ўхвалялася ні духоўнымі, ні свецкімі ўладамі. І, бадай, найбольш асуджаў такія дзеянні канцлер ВКЛ Леў Сапега, хаця ён і сам меў дачыненне да падпісання Берасцейская царкоўнай уніі 1596 г. Больш за паўтара года да забойства Ясафата Кунцэвіча буйны палітык ВКЛ пісаў яму: «…мне ніколі ў голаў не прыходзіла, што вы надумалі прыводзіць да яе (уніі. — *Л. Л.*) такімі гвалтоўнымі сродкамі… Учынкі вашы, якія вынікаюць больш з славалюбства і прыватнай нянавісці, чым ад любові да бліжняга… прычыніліся да тых небяспечных іскраў, якія пагражаюць усім нам альбо вельмі небяспечным, альбо нават усёзнішчальным пажарам… павінны вы дзейнічаць у залежнасці ад волі караля і намераў дзяржаўных, ведаючы, што воля ваша абмежавана і што замах ваш на тое, што супроць спакою і карысці грамадскай, можа па справядлівасці палічыцца за знявагу вялікасці… трэба карыстацца абставінамі, а не аддавацца безразважна свайму імкненню… Вы патрабуеце выганяць з дзяржавы тых, хто не прымае уніі: ратуй Бог нашу айчыну ад такога найвялікшага беззаконня!» У лісце да Ясафата Кунцэвіча Леў Сапега імкнецца прадказаць, да якіх узрушэнняў можа прывесці краіну гвалтоўнае ўкараненне уніі, што ўрэшце паставіць пад пытанне і само існаванне апошняй. Працяг зместу паслання такі: «Кароль загадвае царкву іх (праваслаўных. — *Л. Л.*) у Магілёве распячатаць і адчыніць, аб чым я, па яго загаду, да вас пішу, і калі вы гэтага не выканаеце, дык я сам загадаю яе распячатаць і ім аддаць: жыдам і магаметанам не забараняецца ў абласцях каралеўскіх мець свае сінагогі і мячэці, а

вы пячатаеце хрысціянскія цэрквы!.. Што датычыць палачан і іншых крамольнікаў супраць вас, дык, можа стацца, яны і на самай справе такія, але самі вы схілілі іх да смуты»[1].

Праваслаўныя вернікі дарагой цаной заплацілі за забойства полацкага архібіскупа. Вельмі востра адрэагавалі на гэтую акцыю ў Ватыкане, хаця ён не раз папярэджваў аб недапушчэнні прымусу ў распаўсюджванні уніі. У лісце ад 10 лютага 1624 г. польскаму каралю папа Урбан VIII пісаў: «…Паўстань, о цар знакаміты паражэннямі турак і нянавісцю да грэшнікаў. Вазьмі зброю і шчыт і, калі агульная карысць патрабуе, мечам і агнём вынішчы гэтую язву… дазволь уніяцкім епіскапам мець вольны доступ да палаца і ў рады каралеўскія, і каб яны ні ў чым не былі ніжэй за астатніх епіскапаў…»[2] Канцлеру ВКЛ Льву Сапегу было даручана ўзначаліць камісію для суда над забойцамі Ясафата Кунцэвіча, з чым ён на выдатна справіўся: больш за сто гараджан былі прысуджаны да пакарання смерцю, але на пласе загінула толькі 2 бургамістры і 18 гараджан, бо астатнім удалося своечасова збегчы ад расправы.

Адзначаючы агрэсіўны характар дзеянняў, своеасаблівы нораў Ясафата Кунцэвіча, імкненне любымі спосабамі паскорыць распаўсюджванне ўніяцтва на беларускіх землях, нельга не сказаць пра яго вялікія намаганні будаваць новую веру на нацыянальных традыцыях нашага краю. Іншай мовы, як беларускай, ён ніколі не ўжываў у час казанняў ва ўніяцкіх храмах. Латынню ніколі не карыстаўся, бо проста не валодаў ёю. Усе яго літаратурныя працы выдадзены на старабеларускай мове. На ёй жа быў складзены шэраг казанняў, якія даследчыкам даводзілася бачыць у канцы XIX — пачатку XX ст. у рукапісным аддзеле Віленскай публічнай бібліятэкі. Уся перапіска Ясафата Кунцэвіча з яго непасрэдным начальнікам і натхняльнікам Язэпам Руцкім таксама вялася на старабеларускай мове, а вось з канцлерам Вялікага Княства Літоўскага Львом Сапегам — на польскай. Ясафат Кунцэвіч быў аўтарам шэрагу багаслоўскіх трактатаў і, як адзначаў яго біёграф біскуп Марахоўскі, не ведаў паражэнняў у час дыспутаў. Добрая слава пакінута ім за час працы рэктарам Віленскай троіцкай уніяцкай

---

[1] Цыт. паводле кн.: Соловьев С. М. История России с древнейших времен. — Кн. V. — Т. 9–10. — С. 433–436.

[2] Тамсама. — С. 436, 437.

семінарыі. Што полацкі архібіскуп не заўсёды быў непрымірымым ворагам праваслаўя, вынікае з характарыстыкі, якую даў гэтай высокай духоўнай асобе гісторык рэлігіі П. Жуковіч: «Нягледзячы на поўнае засваенне рым.-каталіцкага дагматычнага веравучэння, ён усведамляў сябе яшчэ рускім (трэба разумець беларускім. — *Л. Л.*), а не палякам. Славяна-руская царкоўная стыхія, акаляўшая і прасякаўшая ўніяцкага архірэя ў яго богаслужбовай практыцы, яшчэ ўтрымлівала гэтага прадстаўніка першага пакалення нашых уніятаў у складзе Рускага «Русейскага народа»[1]. Ватыкан і па сёння свята ўшаноўвае памяць аб Ясафату Кунцэвічу: у 1968 г. яго прах перавезены ў Рым у папскую базіліку Св. Пятра і знаходзіцца побач з мошчамі святых Георгія Багаслова і Іаана Залатавуста.

Намнога больш стрыманы ў пашырэнні уніі на Беларусі быў пераемнік Жыгімонта III Уладзіслаў IV (1632–1648). Ужо ў год прыходу да ўлады ён праз сейм праводзіць рашэнне, што ў Літве і ў Беларусі павінны быць два мітрапаліты — уніяцкі і праваслаўны, два епіскапы ад гэтых жа канфесій (у Полацку і Магілёве), паабяцаў вярнуць праваслаўным некалькі манастыроў і храмаў, якія адабралі ў іх уніяты. І пазней ён зрабіў шэраг дзейсных крокаў па прымірэнні праваслаўных з уніятамі, усклаўшы на ўладу Рэчы Паспалітай абавязак абараняць першых. Польскі ўрад сачыў, каб на практыцы захоўвалася роўнасць у правах уніяцкіх і каталіцкіх біскупаў, папярэджваў аб недапушчальнасці фізічнай сілы да схілення праваслаўных у унію, паколькі гэтым парушалася б сама Польская Канстытуцыя.

На прыкладзе гэтых двух польскіх каралёў вельмі добра відаць, што ўзаемадачыненні паміж беларусамі-ўніятамі і беларусамі-праваслаўнымі часта ў большай ступені вызначаліся не імі самімі, а тымі, хто стаяў на чале свецкай улады ці займаў высокія месцы ў каталіцкай духоўнай іерархіі. Сярод іх заўсёды мелася нямала асобаў, якія культывавалі гвалтоўныя метады ўкаранення ўніяцтва, за што ў нас звычайна абвінавачвалася ўся гэтая канфесія ў цэлым. Што гэта было не так, сведчыць таксама і практыка арганізацыі ўніяцкіх абшчын пры крайне нецярпімым да ўсіх іншаверцаў польскім езуіцкім

---

[1] Жукович П. О неизданных сочинениях Иосафата Кунцевича // Известия Отделения русского языка и словесности Императорской Академии наук. Т. XIV. Кн. 3. — 1909. — С. 227.

каралю Жыгімонце III і яго пераемніку Уладзіславу IV: пры першым панаваў гвалт, пры другім — згода, Уладзіслаў IV распарадзіўся нават выдаць спецыяльныя «Статьи для успокоения народа русского (г. зн. беларускага. — *Л. Л.*) греческой религии…».

Схіленню беларусаў — праваслаўных да царкоўнай уніі шмат у чым пасадзейнічалі створаныя ў ВКЛ езуітамі пры поўнай падтрымцы папы рымскага розныя тыпы навучальных устаноў. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што ўніяцкія школы з'явіліся ў нас нават раней, чым была падпісана Берасцейская царкоўная унія. Рэальнасць пагрозы такіх школ яўна недагледзелі высокія праваслаўныя духоўныя асобы, якія да таго ж і самі вельмі мала што рабілі ў галіне адукацыі. Аўтар гісторыка-палітычнага даследавання «Перестрога», якое з'явілася прыкладна ў 1600–1605 гг., абвінавачвае князёў і іншых багатых беларусаў праваслаўнай веры, што яны не шкадавалі сродкаў на будаўніцтва і абсталяванне цэркваў і манастыроў, але не фундавалі патрэбы асветы, што дазволіла ўніяцкім школам істотна ўмацаваць тут свае пазіцыі. Падобнае пра іх ролю выказвалі і іншыя аўтары. Праваслаўнае духавенства са спазненнем і не дужа актыўна ўхапілася за пашырэнне асветы на сваіх рэлігійных пачатках, што абцяжарвала паспяховае супрацьстаянне распаўсюджванню ўніяцкіх ідэй.

Не сакрэт, што напярэдадні і ў першыя дзесяцігоддзі жыцця ўніяцкай царквы Беларусь не ведала недахопу ў высокаэрудзіраваных, інтэлектуальных людзях, якія мелі беспамылковыя ўяўленні пра ўсё тое, што адбывалася на іх вачах у рэлігійнай практыцы. Зразумела, у іх былі ў многім процілеглыя погляды на унію, што тлумачылася самымі рознымі прычынамі. Прычым стаўленне да яе не заўсёды заставалася нязменным нават у самых артадаксальных прыхільнікаў праваслаўнай веры.

У глыбокім і працяглым роздуме над усім тым, што адбывалася ў канфесійным жыцці Беларусі і Украіны, знаходзіўся самы заўзяты змагар з уніяцтвам, вядомы рэлігійны дзеяч, пісьменнік-публіцыст Мялецій Сматрыцкі (1572–1630). Бадай, ніхто да і пасля яго так упарта не адстойваў інтарэсаў праваслаўнай царквы ад замахаў на яе і каталікаў, і ўніятаў. Але доўжылася такое не вечна. Упершыню думку аб неабходнасці праваслаўным беларусам далучацца да уніі Мялецій Сматрыцкі выказаў у 1628 г. Немалаважную ролю тут магло адыграць глыбокае ўсведамленне Мялеціем Сматрыцкім блізкасці

ўніяцтва да нацыянальных інтарэсаў няпольскага насельніцтва Рэчы Паспалітай. Рэакцыя на гэта з боку праваслаўнага духавенства была неверагодна бурнай. Праз два гады Кіеўскі праваслаўны сабор пракляў Мялеція Сматрыцкага, у адказ на што ён прызнаў усе свае кнігі, напісаныя ў абарону праваслаўя, ерэтычнымі. Пад канец жыцця яму быў нададзены сан полацкага ўніяцкага архібіскупа. Заслугоўвае быць адзначаным, што пераходу Мялеція Сматрыцкага ва ўніяцтва папярэднічала чатырохгадовае знаходжанне ў сталіцы ўсходняга хрысціянства Канстанцінопалі, дзе ён часта сустракаўся з самім патрыярхам Кірылам Лукарысам, якога ведаў яшчэ з юнацкіх гадоў. У 1629 г. М. Сматрыцкі «ўдзельнічаў ва ўніяцкім саборы ў Львове і тут заявіў сябе самым моцным паборнікам уніі. Яго прыклад, яго гучная вядомасць як вучонага, яго красамоўства, зразумела, шмат дапамаглі справе уніі», — пісаў Адам Кіркор. На яго думку, «з вырачэннем ад праваслаўя галоўнага змагара, Сматрыцкага, справа уніі не сустракала ўжо перашкодаў да распаўсюджвання па ўсім краі»[1].

Зразумела, калі такая слынная асоба, як Мялецій Сматрыцкі, пераходзіць у грэка-рымскую царкву, рабіць нападкі на апошнюю, як гэта раней і зараз уласціва для аўтараў многіх публікацый, неабходна з вялікай асцярожнасцю, абачліва ставіцца да яе. Што сабою ўяўляла гэтая царква для беларусаў і ўкраінцаў, Мялецію Сматрыцкаму ў некалькі разоў было больш вядома, чым сёння нам. З пашанай гаварыць пра ўніяцкую веру як гістарычную з'яву ў жыцці беларускага народа абавязвае нас і той факт, што да яе належаў і наш славуты асветнік і педагог Сімяон Полацкі.

Доўгі час знаходзячыся ў фарватэры рускай гістарычнай навукі, беларускія вучоныя факт пераходу Мялеція Сматрыцкага ў унію падавалі як здраду не толькі праваслаўю, але і беларускаму нацыянальнаму інтарэсу. Дарэчы, і па сёння такога пункту погляду прытрымліваюцца праваслаўныя іерархі. Першым на зыходзе 80-х гадоў XX ст. прама процілеглы пункт гледжання па гэтым пытанні выказаў наш вядомы сучасны літаратуразнаўца Алег Лойка, слушна заяўляючы, што пераход з праваслаўя ва ўніяцтва «быў найперш абумоўлены дзяржаўнымі інтарэсамі, якія ў перакананнях М. Сматрыцкага перамаглі, прычым у дадзеным выпадку М. Сматрыцкі

---

[1] Живописная Россия. — Т. III. — С. 306, 307.

стаў на пазіцыю прызнання за сваю айчыстую дзяржаўнасць Рэчы Паспалітай, Вялікага Княства Літоўскага. Ідэя вернасці дзяржаве, у якой ён нарадзіўся, рос… абумовіла ягоны акт падтрымкі уніі — дзеля яднання Русі пад скіпетрам уладцы Рэчы Паспалітай»[1].

Вельмі рэдка ўдавалася сустрэць у беларускай літаратуры, што ўніяцтва прыняў і наш славуты асветнік-гуманіст Сімяон Полацкі. Будучы студэнтам Віленскай езуіцкай акадэміі, ён уваходзіць ва ўніяцкі ордэн Васіля (Базыля) Вялікага і становіцца «базыльянінам», праўда, канчаткова не адмаўляючыся ад праваслаўнага хрышчэння. Пераехаўшы ў 1664 г. у Маскву, ён трымаў у вялікай тайне факт сваёй прыналежнасці да ўніяцтва, бо добра ведаў, як адмоўна ставілася да грэка-католікаў Руская праваслаўная царква.

Не ўяўляла б асаблівай цяжкасці і яшчэ папоўніць лік людзей з падобнымі, як у Мялеція Сматрыцкага і Сімяона Полацкага, меркаваннямі і дачыненнямі да грэка-рымскай царквы. Усё гэта можа разглядацца ў якасці доказу, што з распаўсюджваннем уніяцтва ў Беларусі нічога трагічнага не адбылося ў яе жыцці. Таму нельга цалкам пагадзіцца з сучасным філосафам С. Падокшыным, які піша: «Вялікай памылкай дзяржавы, урада, беларускай феадальнай эліты была пераарыентацыя з ідэі рэлігійна-канфесіянальнай талеранцыі на ідэю вуніі»[2], бо ўжо і тады сапраўднай талеранцыі ў нас не існавала паміж хрысціянскімі канфесіямі і цяжка прадбачыць, ува што ўсё гэта магло выліцца, бо за кожнай з іх і асабліва праваслаўнай і каталіцкай стаялі пэўныя антыбеларускія не толькі духоўныя, але і свецкія сілы. У такіх умовах для беларусаў куды лепш было заставацца не шматканфесійным народам, а рабіць усё, каб стаць аднаканфесійным, чаго якраз і можна было дасягнуць праз унію, каб толькі да яе з належнай павагай паставілася каталіцкае духавенства, а не імкнулася выкарыстаць даны фактар для ўсё той жа паланізацыі славянскага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага. Яшчэ раз паўтаруся, што адзінай памылкай, неабачлівасцю праваслаўных іерархаў — аўтараў Берасцейскай царкоўнай уніі было толькі тое, што яны не адразу «раскусілі», чаго ад яе чакае польскае каталіцкае духавенства. Таму і не дзіўна, што сапраўднай царкоўнай уніі не адбылося ні ў час яе

---

[1] Літаратура і мастацтва. — 1989. — 17 сакавіка. — С. 7.

[2] Літаратура і мастацтва. — 1995. — 19 мая. — С. 16.

падпісання, ні пазней. Увесь час ішло пашырэнне уніі праз звычайнае далучэнне да апошняй вернікаў праваслаўнай царквы, прызнанне імі верхавенства папы пры ўмове захавання сваіх абрадаў, для чаго зусім непатрэбна было сустракацца ў Бярэсці разам з высокімі духоўнымі каталіцкімі асобамі, бо яны ж не збіраліся, накшталт праваслаўных, пераводзіць свае прыходы ва ўніяцкія.

Затое праваслаўныя вярхі вельмі хутка зразумелі, што для польскага каталіцкага духавенства перавод усходняй царквы ва ўніяцкую зусім не ёсць канчатковая мэта. Ёю з'яўлялася паступовае перацягненне ўніятаў у католікаў. Нічога з гэтым не атрымалася. Унія, нягледзячы нават на велізарныя намаганні езуітаў, не стала пераходным станам ад праваслаўя да каталіцызму. Яна заставалася сама сабой і ўсё больш і больш урастала ў жыццё беларускага народа, набываючы ўсе рысы нацыянальнай рэлігіі. Прыналежнасцю да уніі беларускі народ найлепшым чынам падкрэсліваў сваю адметнасць як ад палякаў, так і ад рускіх. Унія нават на сваім першым этапе была ўжо ў нейкай ступені беларускай з'явай. Што унія выратавала нашых продкаў ад паланізацыі і русіфікацыі, прызнавалася многімі вучонымі. Характэрнае ў гэтым плане меркаванне гісторыка Адама Кіркора. Ён лічыў, калі б езуіты «пастараліся абарачаць народ хаця паступова прама ў лацінства, дык, на працягу двух з гакам стагоддзяў, яны ўсю Беларусь зрабілі б польскаю»[1]. На шчасце, яна не стала такой, у чым немалая заслуга ўніяцтва.

Насуперак здароваму сэнсу, хрысціянскай маралі польскае каталіцкае духавенства амаль увесь час імкнулася нацкоўваць уніятаў на праваслаўную царкву. Зведалі гэта і пабудаваныя ў Мінску ў другім дзесяцігоддзі XVII ст. Петрапаўлаўскі мужчынскі манастыр, праваслаўная царква і школа. Мінская польская шляхта, якая засталася незадаволенай вынікамі барацьбы за аваладванне гэтымі ўстановамі, ужо сама ўварвалася ў 1637 г. у праваслаўную царкву і ўчыніла ёй страшэнны разгром. Падобнае паўтаралася ў 1722 і 1734 гг.

Акрамя не такіх ужо і рэдкіх выпадкаў парушэння прынцыпу добраахвотнасці пераводу праваслаўных ва ўніяцтва, што перашкаджала папулярызацыі апошняга, мелі месца і іншыя фактары, якія не садзейнічалі яго хуткаму распаўсюджванню ў нашым краі, фар-

---

[1] Живописная Россия. — Т. III. — С. 306.

маванню пазітыўнага погляду на гэтую з’яву саміх вернікаў. І гэта зусім заканамерна. Народ не мог быць абыякавым і раўнадушным да веры сваіх продкаў. Як-ніяк пад той час праваслаўю ў Беларусі ўжо налічвалася некалькі стагоддзяў. Не трэба забывацца, што адыход ад яго вельмі ўсхваляваў царкоўныя і свецкія ўлады Маскоўскай дзяржавы, у якіх мелася дастаткова магчымасцяў, каб у пажаданым для сябе напрамку ўплываць на рэлігійнае жыццё сваіх аднаверцаў у Беларусі. Іх рэлігійныя настроі пры аказіі няцяжка было пераплесці з антыфеадальнай барацьбой сялян супроць шляхты і магнатаў, пераважная частка якіх адступіла ад праваслаўя. У мяне зусім няма падстаў не давяраць сказанаму ў 1622 г. папскім нунцыем у Польшчы Торэсам: «Не паддаецца апісанню, наколькі рускі народ (так яшчэ і ў XVI–XVII стст. у Заходняй Еўропе некаторыя палітыкі і вучоныя называлі этнічных беларусаў Рэчы Паспалітай. — *Л. Л.*) ненавідзіць рымскіх католікаў. Гэтая нянавісць даходзіць да такой ступені, што, убачыўшы рымска-каталіцкага ксяндза, яны плююць на зямлю ад жаху і агіды». Далей Торэс піша, што «мала русінаў (таксама адна з сярэдневяковых назваў беларусаў. — *Л. Л.*) пераходзіць у унію і што перашкоды ў схіленні іх большыя, чым у схіленні лютэран і кальвіністаў»[1].

Гісторыі вядома, што ў падобных сітуацыях іерархі любой канфесіі пры падтрымцы самой дзяржавы гвалтам, у масавым парадку і досыць хутка навязвалі народу новую веру. У Беларусі не пайшлі на такое, у чым, на маю думку, перш за ўсё вялікая заслуга і тых, хто ўзначальваў тут уніяцтва. Калі б яны не былі аўтарытэтнымі перад Ватыканам, апошні мог бы ўжыць зусім іншыя сродкі, тым больш, што гэта было б вельмі даспадобы польскаму каталіцкаму духавенству. У дадзенай жа сітуацыі ён не бачыў іншага выйсця, апроч асцярожнасці, на якой так настойвалі папскія нунцыі ў Польшчы, у тым ліку і Торэс. Ён прапаноўваў пастsupова прызначаць уніятаў на епіскапскія кафедры, якія заняты праваслаўнымі, і, відаць, ведаючы экспансіяністцкія, асімілятарскія настроі польскай каталіцкай царквы і свецкай улады, рэкамендаваў «апостальскай сталіцы» (г. зн. Ватыкану) узяць унію пад асаблівае заступніцтва. І толькі там, дзе ў распаўсюджванне ўніяцтва ўдавалася ўключыць моладзь езуіцкіх навучальных устаноў ці іх

---

[1] Белоруссия в эпоху феодализма: сб. документов и материалов. — Т. I. — Минск, 1959. — С. 292.

нядаўніх выпускнікоў, сярод якіх было нямала і беларусаў, назіраліся розныя формы гвалту і прымусу, што магло дзе-нідзе і паспрыяць росту ліку вернікаў новай для ВКЛ хрысціянскай канфесіі.

У першыя гады пасля падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі найбольш канфліктаў з гэтай нагоды назіралася ў самой Вільні, дзе ўжо даволі моцнымі былі пазіцыі католікаў і верных ім служак — езуітаў. Усю вастрыню сваіх атак яны скіроўвалі на праваслаўнае брацтва пры Свята-Троіцкім манастыры, якое знаходзілася паблізу адзінага ў гэтым горадзе праваслаўнага храма св. Духа. Тут жа размяшчалася і брацкая школа. У 1598 г. «праваслаўныя вільняне збіраліся сустрэць Вялікдзень. У вялікую суботу натоўп нафанатызаваных студэнтаў мясцовай езуіцкай калегіі (акадэміі), у колькасці 50 чалавек, на чале з ксяндзом Геліяшэвічам, уварваўся на брацкі двор, дзе знаходзілася брацкая школа (калегіум) і царква св. Духа… Са школы буйныя шкаляры ўварваліся ў царкву, дзе ўчынілі страшныя бясчынствы ў алтары і блюзнерылі з плашчаніцы. У самае свята Вялікадня ў час набажэнства яны таксама натоўпам увайшлі ў царкву і дапусцілі тыя ж агіднасці ў дачыненні да святыняў храма і здзек з тых, хто маліўся. У той жа дзень (першы дзень Вялікадня) увечар буйныя езуіцкія выхаванцы ўжо трэцім разам уварваліся ў царкву св. Духа, але ўжо ўзброеныя.

<…>

Потым выбеглі на вуліцу, і злучыўшыся з натоўпам рымскіх католікаў, якія стаялі тут жа на вуліцы, сталі штурмаваць брацкую школу і дом, які належаў таму ж брацтву. Былі выламаны вароты і жалезныя краты, выбіты вокны, пашкоджаны сцены, паранена школьная і царкоўная прыслуга. На другі дзень група школьнікаў ізноў зрабіла свой разбойніцкі набег на брацкую Троіцкую школу»[1].

Безумоўна, такія бясчынствы ні ў якім разе нельга аднесці на рахунак радавых каталіцкіх і ўніяцкіх вернікаў, хаця яны маглі і не стаяць у баку ад усяго, што ў той дзень тварылася ў сталічным горадзе ВКЛ. Канфлікт на рэлігійнай глебе перад усім вынік умяшання ў царкоўнае жыццё Вільні высокіх духоўных асобаў каталіцкага касцёла.

Аднойчы і Канстанцінопальскі патрыярх зрабіў памылковы крок, які пасадзейнічаў масаваму прытоку праваслаўных ва ўніяцтва.

---

[1] Савич А. А. Западно-русские униатские школы XVII–XVIII веков // Труды БГУ. — 1922. — № 2–3. — С. 163.

Такім крокам было прынятае ім у 1684 г. рашэнне аб перадачы ўсіх праваслаўных Рэчы Паспалітай пад юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярха, да чаго ўвесь час і імкнуўся апошні, але чаго не хацела большасць праваслаўных беларусаў. У створанай Канстанцінопальскім патрыярхам сітуацыі многія палічылі за лепшае стаць уніятамі, чым перайсці пад юрысдыкцыю Рускай праваслаўнай царквы.

Удумлівыя, разважлівыя праваднікі ўніяцтва не апраўдвалі любыя гвалтоўныя метады, бо ведалі, што ў падобных выпадках яно не мела б падтрымкі ў народзе і пры пэўных акалічнасцях на яго месца вярталася б праваслаўе. Зусім іншыя вынікі атрымліваліся тады, калі ва ўсім зыходзілі з патрабаванняў Берасцейскай уніі. У дакументах засведчана, што на трэцім дзясятку гадоў пасля яе падпісання беларускія ўніяты вельмі моцна трымаліся за новую веру і не менш за праваслаўных супраціўляліся спробам навязаць каталіцкую рэлігію як канчатковую мэту свецкіх і духоўных улад Кароны Польскай. І так трымаліся, зразумела, таму, што новая вера не была ім навязана гвалтам і мела дзякуючы павазе да мясцовых нацыянальных традыцый яўную перавагу над праваслаўнай і каталіцкай канфесіямі.

Калі праваслаўныя святары і іх паства ішлі да ўніяцтва паступова праз усведамленне яго неабходнасці, чым у асноўным і можна растлумачыць, што гэты працэс у Беларусі зацягнуўся ажно на два стагоддзі, дык зусім іншымі меркаваннямі ўвесь час кіраваліся польскія магнаты і шляхта, служыцелі каталіцкай царквы. Яшчэ і ў XVIII ст. у шэрагу месцаў яны, нават добра ведаючы, што парушэнне прынцыпу добраахвотнасці можа пасеяць варожасць паміж мясцовым беларускім насельніцтвам, праліць кроў, ішлі на гвалтоўны перавод праваслаўных храмаў ва ўніяцкія, ад чаго несла страты не так сама гэтая рэлігія, як яе вернікі. Вядомы, напрыклад, такі факт, што ў 1723 г. праваслаўная царква св. Ільі ў Мсціславе супраць волі яе прыхаджан была перададзена ўніятам, «…а людзей праваслаўных, — чытаем у запісцы расійскіх паслоў у Рэчы Паспалітай К. і С. Далгарукавых польскаму каралю, — якія прасілі аб той царкве, шаблямі seклі, а па іншых стралялі; раніцай жа на другі дзень, забраўшы мноства ў горадзе тамтэйшых абывацеляў, да езуіцкага кляштара сагналі і там іх палкамі да смерці білі…»[1]

---

[1] Белоруссия в эпоху феодализма: сб. документов и материалов. — Т. 2. — Минск, 1960. — С. 367.

Сцвярджэнню ўніяцкага ідэалу ў Беларусі ў немалой ступені садзейнічала і тое, што ў яго заўсёды, хаця і не так багата, былі прыхільнікі і з боку заможных станаў грамадства. Дбаў пра грэка-католікаў і прадстаўнік вядомага магнацкага роду ў Беларусі паэт і эканаміст, дзяржаўны дзеяч Іяхім Літавор Храптовіч (1729–1812). У сваім маёнтку Шчорсы ён пабудаваў за ўласныя сродкі ўніяцкую царкву.

## § 4. МІЖКАНФЕСІЙНАЯ НАПРУЖАНАСЦЬ ЗАХОЎВАЕЦЦА

Рознага роду канфлікты і непаладкі, што мелі месца ў рэлігійным жыцці ў першыя дзесяцігоддзі, як пусціла свае карані ў Беларусі ўніяцкая царква, працягвалі давацца ў знакі і пазней. Практычна на працягу ўсяго перыяду існавання яна так і не стала блізкай, пажаданай ні для праваслаўнай царквы, ні для каталіцкага касцёла. Не можа не здзіўляць, адкуль толькі браліся ў грэка-рымскай царквы сілы, каб жыць і шырыць сваю дзейнасць у такіх неспрыяльных умовах? Зразумела, без падтрымкі народа ёй ніколі не ўдалося б такога. Уніяцкая царква жыла і функцыянавала не з вялікай ласкі Ватыкана, духоўных і свецкіх уладаў Рэчы Паспалітай, а дзякуючы толькі сваім уласным намаганням, што цалкам і поўнасцю адпавядала настрою і жаданням вернікаў.

У інтарэсах лепшага іх царкоўнага абслугоўвання ўніяцкае духавенства праяўляла належны клопат аб будаўніцтве новых і добраўпарадкаванні ўжо раней уведзеных у эксплуатацыю храмаў. Між іншым іх заўсёды не хапала. Па-першае, з-за бесперапынных апусташальных набегаў войскаў Маскоўскай дзяржавы і казакоў на беларускія землі, у час якіх назнарок знішчаліся ўніяцкія культавыя пабудовы, і, па-другое, з-за гвалтоўнага прысваення іх сабе каталіцкім духавенствам, звычайна самых найлепшых. Замест таго, каб дапамагаць у гэтым уніяцкай царкве, з якой разам падпарадкоўваліся Папу Рымскаму, на практыцы адбывалася паміж імі нешта зусім процілеглае. Нічым іншым, як рабаўніцтвам, ніяк нельга ў дачыненні да грэка-рымлян назваць, да прыкладу, забранне падскарбіем надворным Рэчы Паспалітай

Антоніем Тызенгаўзам у 1775 г. уніяцкага Быценскага кляштара (Івацэвіцкі раён) і перадачу яго католікам. Належаў ён ордэну базыльян і лічыўся адным з самых дыхтоўных. Пры кляштары меліся духоўная школа (навіцыят) і шпіталь, у пачатку XVIII ст. пабудавана Троіцкая царква. Праўда, часам назіраліся з'явы ў многім зусім процілеглага характару, калі высокім уніяцкім духоўным асобам удавалася паўплываць на прапольскі настроеныя палітычныя колы Рэчы Паспалітай, і тады ўжо яны пры падтрымцы апошніх рабілі неапраўданыя захады па прымусовым захопе праваслаўных храмаў, уцягненні беларусаў у грэка-рымскую веру. У якасці прыкладаў можна назваць выдадзеную ў 1635 г. польскім каралём Уладзіславам IV грамату, у адпаведнасці з якой усе цэрквы ў Віцебску, Полацку і Наваградку маглі быць толькі ўніяцкімі; прынятую ў 1669 г. польскім сеймам пастанову аб выгнанні з месцаў сталага пражывання і канфіскацыі маёмасці асобаў, што перайшлі з уніяцтва ў праваслаўе. Такой палітыкай польскія свецкія і духоўныя ўлады вельмі ўмела сеялі варожасць паміж беларусамі розных хрысціянскіх веравызнанняў.

Разам з тым шмат спрэчак з-за хрысціянскіх храмаў узнікала і паміж самімі ўніятамі і праваслаўнымі, прычым не толькі на працягу XVII ст., калі ішоў найбольш масавы перавод апошніх у грэка-рымскую веру, а разам з гэтым перадаваліся ў новыя рукі і іх цэрквы. У большасці выпадкаў гэта адбывалася мірным шляхам, а дзе-нідзе ўжывалася і сіла. Напады ўніятаў на праваслаўныя святыні не спыняліся і ў XVIII ст. Вядома, да прыкладу, што ў 1751 г. яны разрабавалі Віцебскі праваслаўны манастыр св. Марка, знішчылі яго архіўныя дакументы.

Паводле сваёй велічнасці, унутраным аздабленні ўзведзеныя ўніятамі храмы звычайна ўступалі не толькі каталіцкім, але і праваслаўным. Прычына адна: неставала матэрыяльных і фінансавых сродкаў. Заможныя ж станы беларускага народа падаліся ў каталіцызм ці пратэстантызм, а прыхаджанамі ўніяцкай царквы з'яўляўся пераважна дробны люд. Але ўсё ж і яна пакінула нямала чаго каштоўнага з культавай архітэктуры, у чым ёсць і заслуга зарубежных майстроў.

Справе ўніяцкага культавага будаўніцтва вялікае значэнне надаваў біскуп полацкі і віцебскі Ясафат Кунцэвіч. Яго вельмі непакоіў жахлівы стан Сафійскага сабора ў Полацку, у які ён прыйшоў у выніку пажару ў 1607 г. Аднаўленчыя працы доўжыліся крыху больш за дзесяць гадоў, і ўвесь гэты час праваслаўная царква і каталіцкі касцёл ваявалі за права

валодаць храмам, але ўсё ж дастаўся ён уніятам. Паводле распараджэння Ясафата Кунцэвіча быў адноўлены і багата ўпрыгожаны гэты будынак, а ў чатырох рагавых вежах непатрэбныя вярхі, якія царкве ніякай красы не дадавалі, давялося скінуць, а сярэднюю вежу, прыгожа аздобіўшы, зрабіць яшчэ больш высокай[1].

Своечасова і належным чынам паклапацілася ўніяцкая царква аб стварэнні і развіцці ўласнай сістэмы адукацыі. І тут не абышлося без таго, каб не пасягнуць на якія-небудзь праваслаўныя навучальныя ўстановы. Упершыню такія прэтэнзіі былі прад’яўлены ў 1597 г. да Берасцейскай праваслаўнай брацкай школы. Пазней да ўніятаў перайшлі Пінская, Магілёўская, Менская, Навагрудская і іншыя брацкія школы. Справай адукацыі ўніяцкай царквы кіраваў манаскі ордэн базыльян. Свае школы — падрыхтоўчыя і павышаныя — яны адкрывалі пры кляштарах, а ў шэрагу гарадоў стварылі навіцыяты, дзе рыхтавалі прапаведнікаў. З мэтай стаць бліжэй да народа, уплываць на яго ў патрэбным для сябе накірунку «ўніяты ў 1613 г. узаконілі права “уцыти всех наук” на розных мовах, у тым ліку на славянскай і рускай»[2] (г. зн. старабеларускай).

Калі ва ўніятаў не хапала ўласных навучальных устаноў, яны пасылалі сваю моладзь у каталіцкія альбо камандзіравалі за мяжу. Вядома, напрыклад, што па просьбе мітрапаліта Язэпа Руцкага некалькі юнакоў з уніяцкіх сем’яў вучыліся ў Нясвіжскай езуіцкай калегіі (заснавана ў 1584 г.).

Асаблівая ўвага арганізацыі адукацыі аддавалася ва ўніяцкіх кляштарах. Вось як пра гэта пісаў у адным з сваіх твораў, што выйшаў у 1617 г. у Вільні, пісьменнік-палеміст, архімандрыт віленскага Троіцкага манастыра Леў Крэўза: «Першая і значная выгода апошняга дзесяцігоддзя (з нечым) тая, што ў такі кароткі час (маецца на ўвазе пасля падпісання ў 1596 г. Берасцейскай уніі. — *Л. Л.*) з ласкі божай мы маем некалькі брацій, якія ці яшчэ працягваюць сваю адукацыю, ці канчаюць курс, ці закончылі ўжо; яны вывучаюць не толькі агульнаадукацыйныя навукі, але і філасофскія, і багаслоўскія. Два гады таму

---

[1] Ткачоў Міхась. Сафія Полацкая: партрэты // Спадчына. — 1991. — № 2. — С. 47.

[2] Асвета і педагагічная думка ў Беларусі са старажытных часоў да 1917 г. — Мінск, 1985. — С. 124.

назад св. айцец, Папа Рымскі, зрабіў гэткае вялікае спрыянне, што дваццаць два браты манахі могуць на яго кошт атрымліваць адукацыю ў розных хрысціянскіх краінах і да таго ж у самых галоўных гарадах, дзе могуць вывучаць і навукі і знаёміцца з чужымі краямі, што для ўсякага чалавека служыць украсай…»[1]

Словам, уніяцкая царква паступова станавілася паўнапраўнай у Беларусі рэлігіяй, набывала ўсе рысы, уласцівыя хрысціянству. З такой з'явай нельга было не лічыцца ні праваслаўю, ні каталіцызму. Ёсць звесткі, што ўніяцкую веру, дзякуючы агульнасці яе абрадаў з праваслаўнай, добраахвотна, без усялякіх ваганняў прымалі асобы, што ўцякалі з Расіі ў Беларусь. Найбольш шырокія маштабы гэтая з'ява набыла ў XVIII ст. Да падобнага перахрышчвання ўніяцкія папы вельмі прыхільна ставіліся, чым павялічвалі колькасць сваіх вернікаў. Рускай жа дзяржаве гэта зусім было не даспадобы. Пры кожным зручным выпадку яна старалася ўмешвацца ў царкоўна-рэлігійнае жыццё нашага краю. Абмяжуюся хаця б такім прыкладам: адной з умоваў пры абмеркаванні ў 1656 г. з урадам Рэчы Паспалітай выхаду з вайны павінна была яе згода на скасаванне Берасцейскай царкоўнай уніі на славянскіх землях Вялікага Княства Літоўскага. Нялёгка было тым, хто ўдзельнічаў ад Рэчы Паспалітай у перамовах, адстаяць унію, але ўсё ж яе пакінулі ў спакоі, толькі ненадоўга. На гэтую дзяржаву Масква часта напірала, калі трэба было ў чымсьці абмежаваць уніятаў. І польскім уладам даводзілася слухацца свайго грознага праціўніка. На іх дачыненне да ўніяцкай царквы істотны ўплыў зрабіла падпісанне ў 1686 г. з Расіяй «вечнага міру». У дзявятым артыкуле гэтай дамовы кароль абавязваўся не рабіць ніякага ўціску на праваслаўных вернікаў з мэтай пераводу ва ўніятаў.

Адпаведна з разумным, здаровым сэнсам уніяты, што адышлі ад праваслаўя, павінны былі б вельмі добра пачуваць сябе ва ўзаемаадносінах з католікамі, паколькі і адны, і другія знаходзіліся пад вяршэнствам адной і той жа высокай духоўнай асобы — Папы Рымскага. І трэба сказаць, што гэта і сапраўды сям-там назіралася. Як святары суседніх між сабой уніяцкіх і каталіцкіх храмаў, так і іх вернікі глядзелі адзін на аднаго, як на братоў у Хрысце. Разам з тым часта

---

[1] Савич А. А. Западно-русские униатские школы XVII–XVIII веков // Труды БДУ в Минске. — № 2–3. — С. 197.

бывала і такое, што вельмі жвавыя, сапраўдныя каталіцкія фанатыкі з ліку святароў не задавальняліся рэальным станам рэчаў і стараліся ўжо саміх уніятаў схіліць у лацінства. Праўда, шырокага размаху такая з'ява не атрымала. Нават дарэвалюцыйныя рускія гісторыкі адзначалі, што падобнага роду пераходы адбываліся «па ўгаворы паноў і ксяндзоў», г. зн. без прымусу. Прычым рабілася гэта не з ласкі паноў і ксяндзоў, а па ўказанні Ватыкана. На такі крок яму даводзілася ісці ўжо ў першыя дзесяцігоддзі пасля прыняцця Берасцейскай уніі, калі ў Рым пасыпаліся скаргі ўніяцкіх біскупаў, што ў шэрагу месцаў іх парафіян гвалтоўна пераводзяць у лацінян. Іншая справа, што да папераджальных указанняў папаў рымскіх не заўсёды прыслухоўваліся польскае каталіцкае духавенства і свецкая каралеўская ўлада, дый некаторыя з пасланцоў Ватыкана часам аказваліся бездапаможнымі ці мо проста не жадалі змяніць ход падзей. Але, бадай, ці не самым пераканаўчым сведчаннем, што каталіцкая Польшча не жадала ўсталявання братэрскіх сувязяў з беларускімі ўніятамі, была адмова вярхоўнай улады Рэчы Паспалітай «уніяцкай іерархіі ў праве прадстаўляць духавенства і ўніяцкае насельніцтва Беларусі ў вышэйшых органах дзяржаўнай улады»[1].

Шкодны ўплыў каталіцызму польскага ўзору на беларускую ўніяцкую царкву быў бы значна меншым, каб яна ўвесь час не знаходзілася ў стане канфрантацыі з Маскоўскай патрыярхіяй. Усялякага роду інтрыгі з боку апошняй падрывалі сілы беларускага ўніяцкага духавенства, што без прамаруджвання імкнуліся выкарыстаць высокія іерархі Польскай каталіцкай царквы, якія практычна ніколі не адмаўляліся шляхам укаранення ва ўніяцкія храмы польскага ладу жыцця і мовы адарваць уніятаў Беларусі ад сваіх гістарычных каранёў, духоўнай спадчыны і мовы, вырачыся саміх сябе і стаць цалкам акаталічанымі і апалячанымі. На стане ўніяцкай царквы адмоўна адбіліся рашэнні Замойскага сабора 1720 г. (Польшча), у адпаведнасці з якімі пачалі праводзіцца рэформы з мэтай яшчэ большага набліжэння яе да каталіцтва.

Дзеля захавання сябе ад акаталічвання некаторыя ўніяты часам свядома ішлі на збліжэнне з праваслаўнымі, бо не бачылі ў іх такой небяспекі, як у лацінян. Пацвердзіць гэта можна словамі, якія аднойчы

---

[1] Нарысы гісторыі Беларусі: у 2-х ч. — Ч. І. — Мн., 1994. — С. 178.

сказаў уніяцкі біскуп Шэптыцкі магілёўскаму архіепіскапу Георгію Каніскаму: «Мы за вамі яшчэ жывём, а калі каталікі вас дагрызуць, дык возьмуцца і за нас»[1].

Большасці ўніяцкіх свяшчэннікаў і вернікаў беларускай арыентацыі ніколі не падабалася імкненне каталіцкага касцёла пашырыць на іх свой уплыў. І каб у іх дастаткова было ўласных сіл, яны вялі б цалкам незалежную ад яго палітыку. Толькі сапраўдныя здраднікі ўніяцкай царквы ішлі на тыя ці іншыя формы падпарадкавання інтарэсаў сваёй паствы каталіцызму.

Словам, у вышэйшай ступені антыхрысціянскія намеры каталіцкай царквы Польшчы схіліць з цягам часу да сваёй веры ўсіх уніятаў праваліліся. Міналі не толькі дзесяцігоддзі, але і цэлыя стагоддзі, аднак лік уніятаў не змяншаўся, а, наадварот, рос. І нават у тых уніяцкіх храмах, дзе польскасці ўдавалася трохі ўмацаваць свае пазіцыі, іх прыхаджане ніяк не атаясамлівалі сябе з палякамі. Таму памылкова глядзець на ўніяцкую царкву як на сродак пераплаўкі беларусаў у палякаў, як на фактар, што садзейнічаў пераходу нашых продкаў у каталіцызм. Адмаўленню беларусаў ад сваёй нацыянальнасці садзейнічалі толькі руская праваслаўная і каталіцкая цэрквы, а не ўніяцкая. Пазіцыі апошняй былі б яшчэ больш трывалымі і яшчэ выразней вызначаліся б нацыянальнымі рысамі, калі б у дзяржаўна-палітычных адносінах Вялікае Княства Літоўскае не трапіла ў такую моцную залежнасць ад прапольскіх уладаў Рэчы Паспалітай. Там, дзе толькі можна было, чыніліся самыя сур’ёзныя перашкоды беларускай справе. Шмат беларускіх душ знявечыў каталіцызм, але поўнай перамогі так і не змог атрымаць, нягледзячы на самую актыўную падмогу з боку афіцыйных улад. Таму нельга пагадзіцца з катэгарычнай заявай добрага знаўцы ўніяцкага пытання А. Савіча, што «ўніяцкая царква ўрэшце павінна была асіміляваацца з рымскім касцёлам». Зразумела, такая тэндэнцыя назіралася, але яна не была толькі вынікам характару стасункаў гэтых дзвюх канфесій. Прычыну тут найперш трэба шукаць у самой дзяржаўнай антыбеларускай палітыцы прапольскіх колаў Рэчы Паспалітай, якія паспяхова дамагаліся таго, каб вывесці беларускую мову са службовага справаводства, пазбавіць яе носьбітаў нацыяналь-

[1] Пушкин А. С. Полн. собр. соч.: в 6-ти т. — Т. 6. — М., 1959. — С. 48.

най асветы. Без такой мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі апалячвання беларускага народа не назіралася б і акаталічванне, лацінізацыі ўніятаў, зліцця іх святыняў з каталіцкім касцёлам. Да гонару ўніяцкіх святароў у іх яшчэ і ў самым канцы XVIII — на пачатку XIX ст., калі імператары Расіі Павел I і Аляксандр I далі поўную волю пальшчызне на тэрыторыі нашай Бацькаўшчыны, былі моц і нястрымнае жаданне адстойваць сваіх прыхаджанаў ад усялякага роду спробаў рымска-каталіцкага касцёла перацягнуць іх у сваю веру.

Шырока разгалінаваная ў Беларусі сетка нацыянальнай уніяцкай царквы, дзякуючы высокаму аўтарытэту ў масах, была ў стане супрацьстаяць любому націску як польскай каталіцкай, так і рускай праваслаўнай цэркваў. Своеасаблівым актам супраціўлення паланізацыі трэба прызнаць пераход уніятаў у ХУШ ст. у мэтах захавання беларускай мовы на лацінскі алфавіт, а не польскія літары. Вучонаму Алегу Трусаву ўдалося бачыць у архівах шэраг дакументаў тае пары, падпісаных уніяцкім мітрапалітам Фларыянам Грабніцкім і кірыліцай. Калі нават дапусціць, што за перыяд існавання ўніяцкай царквы ў Беларусі нейкая частка яе карэннага насельніцтва заразілася духам пальшчызны, усё-такі гэтае ліха не ідзе ні ў якае параўнанне з тым пашырэннем пальшчызны, што адбылося пасля скасавання Берасцейскай уніі. Забягаючы трохі наперад, скажу, што тады да каталіцкай царквы прымкнула каля двух мільёнаў уніятаў, якія выракліся з цягам часу і сваёй нацыянальнасці.

Усталяванню поўнай згоды паміж католікамі і ўніятамі перашкаджала іх сацыяльная дыферэнцыяцыя ў грамадстве, на што ў свой час звярнуў увагу Фрыдрых Энгельс: «Большая частка насельніцтва ўсходніх правінцый (Рэчы Паспалітай. — *Л. Л.*) была праваслаўнай веры, у той час як уласна палякі былі рымска-каталіцкага веравызнання. Значная частка гэтых грэка-католікаў у XVI стагоддзі была вымушана прызнаць вяршэнства папы, і яны сталі называцца грэка-ўніятамі, але шмат хто з іх захаваў ва ўсіх адносінах вернасць сваёй колішняй праваслаўнай рэлігіі. Гэта былі галоўным чынам прыгонныя, у той час як іх высакародныя паны амаль усе былі рымска-каталіцкай веры; па нацыянальнасці гэтыя прыгонныя былі маларосамі»[1]. З апошнім,

[1] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. — Т. 16. — С. 165.

вядома, ніяк нельга пагадзіцца, бо імі былі і многія беларусы. Але ў той час, як Ф. Энгельс пісаў гэты артыкул («Якая справа рабочаму класу да Польшчы» — вясна 1866 г.), уніяцтва захоўвалася амаль выключна толькі ў асяроддзі ўкраінскага сялянства, што і магло прывесці вучонага да такой памылкі.

Узаемаадносіны католікаў з уніятамі цікавілі і нашага знанага гісторыка Адама Кіркора. Згоды паміж імі ён не бачыў, што вынікае з наступных слоў: «Дачыненні ўніяцкага духавенства да каталіцкага заўжды былі нацягнутымі, прымусовымі і не раз паказвалі затойванне зларадства. Уніяцкае духавенства як па сваёй беднасці, так яшчэ больш па неадукаванасці было ў пагарджанні. Самі базыльяне, якія карысталіся вялікай пашанай, звысоку і нават пагардліва глядзелі на сельскае ўніяцтва. Нарэшце ўладыкі ўніятаў ніколі не маглі забыцца, што іх пазбаўлялі сенатарскага крэсла, хаця гэта было ім урачыста паабяцана Жыгімонтам III»[1].

Пра супярэчнасць паміж уніятамі і католікамі добра ведалі і рускія палітыкі, таму сваё ўмяшанне ў справы Польшчы абгрунтоўвалі неабходнасцю абараніць уніятаў ад яе ўціску, у якіх, на мой погляд, была пэўная магчымасць і самім адстаяць сваю канфесійную прыналежнасць. Прыкладаў адданасці ёй ведае нямала наша гісторыя. Не дзеля якога-небудзь суцяшэння, а ў імя справядлівасці хочацца сказаць: калі б польскай каталіцкай царкве нават і ўдалося ў значнай ступені ажыццявіць сваю канчатковую мэту аб схіленні ўніятаў у лацінізм і, значыцца, зрабіць такіх беларусаў палякамі па самасвядомасці, усё роўна не было б аніякіх падстаў абвінавачваць беларускіх уніятаў нібыта ў слабахарактарнасці, адсутнасці волі да супраціўлення асімілятарскай палітыцы, бо на працягу некалькіх стагоддзяў ім даводзілася жыць у надзвычай цяжкіх умовах, пры якіх лягчэй страціць этнічную самасвядомасць, вырачыся матчынай мовы, чым іх захаваць. Значыцца, было жывое ядро ў нашых далёкіх продкаў, толькі шкада, што за цяперашняе апошняе пяцідзесяцігоддзе яго няшчадна стачылі чарвякі і стачылі так, што беларусы ніяк не ў стане ўзняцца з каленяў на свае аслабелыя ногі.

І калі б у канцы XVIII ст. не адбыліся падзеі, у выніку якіх Беларусь супроць сваёй волі апынулася пад уладай Расійскай імперыі,

---

[1] Живописная Россия. — Т. III. — С. 308.

думаецца, пазіцыі ўніяцтва, нягледзячы на паланізацыю, былі б яшчэ больш трывалымі. Не выключана, што з ростам агульнай культурнасці, этнічнай самасвядомасці беларускага народа пэўная частка яго, што вызнавала каталіцкую ці праваслаўную веры, адышла б да ўніяцтва, таму што толькі яно будавала набажэнства з улікам нацыянальнага, беларускага. Гістарычны ж шлях беларускага народа пайшоў у зусім іншым напрамку. Без усялякай згоды Беларусі яна была ўключана ў склад Расійскай імперыі, што карэнным чынам паўплывала на вырашэнне ўсіх найважнейшых пытанняў арганізацыі рэлігійнага жыцця, у тым ліку і мовы набажэнства.

Не заўжды ўдавалася дамагацца поўнай згоды паміж католікамі і ўніятамі на ўзроўні міжасобасных кантактаў, унутры сям'і паміж яе членамі. Вядомы такі факт: слынны сын Беларусі Тадэвуш Касцюшка па волі маці быў ахрышчаны ва ўніяцкай царкве і атрымаў імя Андрэй. Бацька яго, католік па веравызнанні, у гэты час адсутнічаў. Прыехаўшы дадому, ён тут жа перахрышчвае сына ў касцёле і дае яму імя Тадэвуш[1]. Як бачым, і шараговыя вернікі не ставілі знака роўнасці паміж католікамі і ўніятамі, аддавалі перавагу то адной, то другой канфесіі ў залежнасці ад сваіх асабістых поглядаў.

Такім чынам, грэка-рымскай царкве ўвесь час даводзілася жыць у самых напружаных адносінах як з праваслаўнай царквой Рускай дзяржавы, так і каталіцкай — Польшчы. Належнага міру і згоды не было ва ўзаемадачыненнях уніятаў з самімі братамі-беларусамі праваслаўнай і каталіцкай веры, хаця і жылі з імі на тэрыторыі адной і той жа дзяржавы. Затое беларускія ўніяты заўсёды мелі вялікую прыхільнасць да сваіх украінскіх аднаверцаў, падтрымлівалі з імі самыя цесныя і раўнапраўныя кантакты, ішлі ахвотна на дапамогу адзін аднаму, калі да гэтага вымушалі абставіны. У якасці прыкладу можна спаслацца на ўтойванне ўкраінскіх уніятаў у кляштарным комплексе Быцені (знаходзіцца на тэрыторыі сучаснага Івацэвіцкага раёна) падчас паўстання Багдана Хмяльніцкага.

Адсутнасць нармальных умоў для вядзення грэка-рымскай царквой рэлігійнай дзейнасці не стала сур'ёзнай перашкодай для распаўсюджвання ў нашым краі гэтай веры і напэўна ж таму, што яна не ўспрымалася народам як штосьці далёкае і чужое. Уніяцкае духа-

---

[1] Спадчына. — 1994. — № 1. — С. 18, 19.

венства мела права ганарыцца тым месцам, якое займала гэтая вера ў жыцці Вялікага Княства Літоўскага. Напярэдадні першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у 8 уніяцкіх епархіях Княства знаходзілася 9337 парафій, у т. л. у мітрапаліцкай епархіі — 2490, полацкай — 598, пінскай — 238. На гэты час у Віленскім біскупстве каталіцкае насельніцтва абслугоўвалі 491 парафіяльны касцёл (у параўнанні з XVI ст. іх лік падвоіўся) і 136 філій, у Жэмайцкім — 94 і 66, Смаленскім — 3 і 3. З праваслаўных парафій засталася толькі адна — Магілёўская (яе называлі яшчэ і «Беларускай»), у якую ўваходзілі 264 царквы[1]. Колькасная перавага ўніяцтва над каталіцызмам і праваслаўем пераканаўча сведчыць пра яго жывучасць і папулярнасць сярод беларусаў.

## § 5. ВЕРНАСЦЬ НАРОДНЫМ ТРАДЫЦЫЯМ. МОВА НАБАЖЭНСТВА

Практычна ўсё ж мірныя метады, а не гвалтоўнае ўкараненне ўніяцтва, захаванне за ім асноўных праваслаўных абрадаў, рытуалаў, атрыбутыкі і дазволілі апошняму з цягам часу стаць самай масавай канфесіяй у Беларусі. Тайна задуманая каталіцкай царквой Польшчы канчатковая мэта аб паступовым перацягванні на свой бок усіх уніятаў і іх апалячванні з вельмі і вельмі вялікай цяжкасцю ажыццяўлялася нават і ў самыя апошнія дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай, а ў большасці выпадкаў такая палітыка выявіла амаль поўную сваю бесперспектыўнасць. Пры ўсіх стараннях абсалютная большасць беларускіх уніятаў так і заставалася ўніятамі, а сям-там імі станавіліся вернікі, бацькоў ці дзядоў якіх некалі ўдалося далучыць да каталіцкай паствы.

За рэлігійным жыццём у Вялікім Княстве Літоўскім вельмі пільна сачыла Руская дзяржава. Яе высокім духоўным і свецкім асобам не падабалася распаўсюджванне на беларускіх землях як каталіцтва, так і ўніяцтва. Крайне адмоўнае, варожае стаўленне Маскоўскага патрыярха да ўніяцтва вымушала апошняе свядома ісці на далейшае

---

[1] Настаўніцкая газета. — 1995. — 26 красавіка.

павелічэнне адрозненняў, якія яшчэ раней існавалі паміж Беларускай заходнеправаслаўнай і Рускай праваслаўнай цэрквамі. Так, уніяцкія іерархі дазволілі ў цэрквах ставіць лавы, выкарыстоўваць арган, а ў 1720 г. перайшлі і на каталіцкую дагматыку.

На першым часе пераходу праваслаўных беларусаў ва ўніяцтва, як вядома, не заўважалася амаль ніякіх асаблівых перамен у дзейнасці іх храмаў. Па-ранейшаму ў набажэнстве чулася царкоўнаславянская мова, хаця пазіцыі яе год ад году слабелі. Пра памяркоўныя дачыненні высокіх уніяцкіх духоўных асобаў да царкоўнаславянскай мовы можна меркаваць і па тым, што на ёй кіеўскі мітрапаліт Язэп Руцкі чытаў абедню ля труны караля Польшчы Жыгімонта III.

Але ж жыццё не стаяла на месцы. Уніяцкае духавенства бачыла, як цяжка разумеюць вернікі царкоўнаславянскую мову. Да таго ж не хацелася праз яе, мову, мець штосьці агульнае з Рускай праваслаўнай царквой, якая вельмі раўніва назірала за метамарфозай у рэлігійным жыцці беларусаў. Ёсць меркаванні вучоных, што ўжо нават у часы Францішка Скарыны людзьмі Русі літоўскай слаба разумелася царкоўнаславянская мова, што якраз і з’явілася прычынай перакладу нашым першадрукаром і яго паслядоўнікамі рэлігійных тэкстаў на жывую мову простага народа.

Не бачыў іншага шляху далучэння беларусаў да царкоўнаславянскай мовы, як выкарыстанне ў гэтых мэтах сродкаў народнай лексікі, Лаўрэнцій Зізаній. Якраз у год падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі ў 1596 г. ён паспеў выдаць у Вільні «Лексис», у якім у перакладзе на старабеларускую мову дадзена больш за тысячу царкоўнаславянскіх слоў. Патрэба ў растлумачэнні незразумелых слоў з царкоўнаславянскай мовы яшчэ больш узрасла ў пасляскарынаўскі час, паколькі адбылося значнае звужэнне сферы ўжывання гэтай мовы, за выключэннем рэлігійнага жыцця.

Зусім іншыя, чым у беларускай, былі суадносіны паміж рускай і царкоўнаславянскай мовамі. Ёсць вучоныя, якія схільныя цалкам не заўважаць ці бачыць толькі зусім нязначныя адрозненні паміж той і другой. Вось, да прыкладу, погляд Івана Ласкова: «Расейская — гэта фактычна царкоўнаславянская, лагічны вынік яе шматгадовага развіцця, у той час як беларуская ды ўкраінская — вынік змагання мясцовых, заходнеславянскіх гаворак (да іх ён адносіць беларускую і ўкраінскую. — *Л. Л.*) супраць царкоўнаславянскай мовы».

І ўсё ж на нейкі час у Беларусі абставіны склаліся так, што царкоўнаславянскай мове замест далейшага заняпаду наканавана было ў пэўных сферах яе ўжывання ўступіць у паласу часовага росквіту. Найперш за ўсё гэта выклікана было шырокім выкарыстаннем яе ў рэлігійна-палемічнай літаратуры, калі праваслаўная царква стала перад неабходнасцю ахаваць душы сваіх вернікаў ад уплыву ідэй каталіцызму. «У барацьбе з каталіцкім Захадам, — справядліва пісаў вучоны-філолаг Леў Шакун, — яна (царкоўнаславянская мова. — *Л. Л.*) стала сродкам змагання за спрадвечную веру, за «чысціню праваслаўных рыз». Важна было ўзвысіць прэстыж гэтай мовы, надаць ёй гнуткасць і выразнасць, зрабіць яе баяздольнай, здатнай для адстойвання ў палеміцы з католікамі і ўніятамі праваслаўных догматаў»[1]. Дзякуючы клопатам праваслаўных брацтваў, з'явіліся царкоўнаславянскія дапаможнікі, якія павінны былі дапамагчы людзям лепш разумець мову праваслаўнай царквы. Што для многіх гэта было нялёгкай справай, сведчыць частае ўжыванне беларускай ці ўкраінскай моваў пры тлумачэнні правілаў царкоўнаславянскай мовы. Магчыма, пры такім старанні не адбылося б адлучэння беларускага народа ад апошняй, але распаўсюджванне сярод яго ўніяцтва і каталіцтва несла ў наш край зусім іншыя духоўныя каштоўнасці і мову. Да таго ж усе гэтыя дапаможнікі, як слушна заўважае Леў Шакун, «арыентавалі пісьмовую мову на ўстарэлыя кніжныя ўзоры», што, зразумела, не магло забяспечыць ёй будучыню.

Жадаючы заставацца адрозным як ад праваслаўнай, так і рымска-каталіцкай цэркваў, уніяцтва, каб замацаваць такую дыферэнцыяцыю, рана ці позна павінна было адмовіцца ад царкоўнаславянскай ці лацінскай моваў у набажэнстве і выкарыстоўваць дзеля гэтага нейкую новую мову. Зразумела, ёю павінна была стаць мясцовая, старабеларуская мова, як мова дзяржаўная на ўсёй тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага і добра зразумелая абсалютнай большасці яго насельніцтва. Да таго ж яшчэ яна была і добра ўнармаванай літаратурнай мовай, з багатым лексічным матэрыялам, зусім дастатковым для перакладу кніг Свяшчэннага Пісання, літургічных тэкстаў. Гэтае несумненнае багацце старабеларускай мовы імкнулася максімальна паставіць сабе на службу ўніяцкае духавенства.

---

[1] «Слова». Спецвыпуск газеты «Звязда». — Май 1990. — С. 9.

Да выкарыстання царкоўнаславянскай мовы негатыўна ставіліся і тыя духоўныя органы каталіцкага Захаду, якія садзейнічалі пранікненню ідэй уніяцтва ў Беларусь. Не дарэмна ж у тых уніяцкіх храмах, дзе не ўдавалася нейкі час укараніць беларускую мову, Ватыкан і польская каталіцкая царква ўсяляк намагаліся ўвесці латынь альбо польскую мову, якую не так і цяжка, пры жаданні, было засвоіць, зразумець карэннаму насельніцтву Беларусі. Справядлівую ацэнку месца царкоўнаславянскай мовы ў тагачасным рэлігійным жыцці Беларусі знаходзім у гісторыка праваслаўнай асветы К. Харламповіча: «Зняважлівае стаўленне да славянскай мовы, якое выявілі правадыры уніі ад самага пачатку, садзейнічала таму, што праз якія-небудзь сто гадоў яна стала зусім незразумелай нават духавенству ўніяцтва». Народ Беларусі «быў настолькі адчужаны ад славянскай мовы, што даводзілася ўводзіць рускую (г. зн. старабеларускую. — *Л. Л.*) нават у набажэнства, што ўзаконіла віленская кангрэгацыя ў 1636 годзе»[1].

Аднак асноўнай прычынай непрыняцця любых моваў, акрамя беларускай, ва ўніяцкіх храмах была пазіцыя саміх духоўных асобаў, якія добра разумелі небяспеку асіміляцыі свайго народа як з боку ўсходняга, так і заходняга суседзяў. Нежаданне бачыць сваю паству асімілянай абавязвала ўсяляк бараніць яе мову, ужываць апошнюю не толькі ў царкоўна-рэлігійным, але і свецкім жыцці. У літаратуры дастаткова фактаў, якія сведчаць, што ад самага пачатку свайго існавання ўніяцкая царква і ва ўрадавай перапісцы карысталася беларускай мовай, г. зн. дзяржаўнай ва ўмовах Вялікага Княства Літоўскага. Каб не варожая палітыка свецкай і духоўнай уладаў Рэчы Паспалітай і Рускай дзяржавы да ўніяцтва, яно магло б, трывала абапіраючыся на мясцовыя духоўныя традыцыі, даволі хутка ператварыцца на беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага ў сапраўдную дзяржаўную, нацыянальную рэлігію. На жаль, знешнепалітычны фактар увесь час не спрыяў усталяванню нармальнага нацыянальна-рэлігійнага жыцця ў Беларусі. Таму, калі ва ўніяцтва былі дасягненні, дык іх цалкам трэба звесці да ўнутраных прычын: вялікага жадання духоўнікаў, шараговых вернікаў-беларусаў мець царкву, якая абслугоўвала б іх на зразумелай для ўсіх беларускай мове, шанавала б іх мясцовыя традыцыі. Праўда, часам

---

[1] Харлампович К. Западнорусские православные школы XVI и начала XVII века, отношение их к инославным. — Казань, 1898. — С. 520.

даводзілася адступаць ад іх. Чаму? Адказ на гэтае пытанне знаходзім у нашага вядомага мовазнаўцы Я. Карскага: «…беларуская інтэлігенцыя пад гэты час (канец XVII ст. — *Л. Л.*) канчаткова паланізавалася, уніяцкае духавенства ішло па тым жа шляху, ужываючы нярэдка нават у палемічных творах, напісаных у абарону праваслаўя і беларускай народнасці, польскую мову, як больш зразумелую і распаўсюджаную сярод чытачоў»[1].

Было б несправядлівым строга судзіць уніяцкае духавенства за такое стаўленне да чужой беларускаму народу мовы. Тут трэба ўлічваць, што замацаванне беларускіх этнакультурных пачаткаў у рэлігійным жыцці ўніяцкай царквы абцяжарвалася тымі зусім неспрыяльнымі ўмовамі, у якія трапіў наш край у выніку падпісання ў 1569 г. Люблінскай уніі. Выклікае да сябе павагу ўніяцкае духавенства тым, што і ў тых нялёгкіх варунках яно не апускала рук, а як магло бараніла сваіх вернікаў ад чужародных уплываў. Яскравым прыкладам гэтага можа быць праведзеная ў 1636 г. у Вільні кангрэгацыя «ўніяцкага Касьцёла, на якой, з прычыны частай замены ў сьвятынях мовы беларускай мовай польскай, было пастаноўлена, каб казаньні ва ўніяцкіх сьвятынях у нашым Краі духоўнікі гаварылі па-беларуску»[2]. На абарону роднага слова беларусаў быў скіраваны і выдадзены ў 1682 г. загад віленскага біскупа Ст. Паца «ў нядзелі і сьвяты выясьняць Эвангелію або выкладаць катэхізм “папросту”», што, як справядліва заўважае цвёрдай беларускай нацыянальнай арыентацыі ксёндз, аўтар шматлікіх публікацый Адам Станкевіч, азначала вучыць вернікаў па-беларуску ці па-літоўску.

Высока цаніў пашану ўніяцкай царквы да роднай культуры і мовы нашага народа пісьменнік Максім Гарэцкі. Як і шэраг іншых даследчыкаў, ён лічыў, што і пасля забароны польскімі ўладамі ўжываць беларускую пісьмовую мову ў службовым справаводстве, яна цалкам не страціла сваіх сацыяльных функцый. «У іншым ужытку наша старая кніжная мова, — пісаў М. Гарэцкі, — існавала і далей, аж да канца 18-га веку. Найперш ва ўніяцтве. Амаль не ўсё наша ніжэйшае вясковае духавенства к канцу 18-га веку было ўніяцкае, не было такога сяла, дзе не было б уніяцкай царквы (як аб гэтым пісаў з беларускага падарожжа

---

[1] Карский Е. Ф. Белорусы. — Т. III. — Ч. III. — Пг., 1922. — С. 3.

[2] Станкевіч Адам. Родная мова ў святынях // Спадчына. — 1992. — № 1. — С. 62.

маскоўскі вучоны В. Севяргін у 1803–1804 гг.). Уніяцкія ж духоўнікі, хоць і дужа падпалі пад уплыў польскай мовы, цвёрда дзяржаліся мовы свае паствы, казанні казалі і навуку ў школах выкладалі па-беларуску. Ад царкоўнаславяншчыны ўніяты аддаліліся так, што ўжо к часу сабору ў Замосці (1720 г.) з новавысвечаных духоўнікаў хіба толькі соты разумеў па-славянску, і ўніяцкім мітрапалітам Львом Кішкам (1668–1728) быў выдадзены патрэбны слоўнік (1722 г.). Вось жа ўніяцкія рэлігійныя пісьменнікі, апрача лацінскай і польскай мовы, карысталіся ў сваіх творах і сваёю роднаю моваю»[1].

Уніяцкае духавенства, бадай, больш за ўсіх было незадаволена афіцыйнай забаронай у 1696 г. прапольскімі ўладамі Рэчы Паспалітай ужываць беларускую мову ў службовым справаводстве, бо ведала, што гэта не зможа абмінуць і царкоўна-рэлігійнае жыццё. Не ўхвалялі такой антычалавечай пастановы ў дачыненні да беларускай мовы і ў Ватыкане, таму адтуль паступалі ўказанні, што ўніяцкія святары пры вызначэнні мовы казанняў павінны кіравацца інтарэсамі і пажаданнямі сваіх вернікаў. Відаць, маючы такую падтрымку з боку апостальскай сталіцы, віленскі біскуп у лютым 1742 г. на пасяджэнні дыяцэзіяльнага Сінода «пастанавіў гаварыць да народу навукі паводле старога звычаю ў народнай мове. З другой паловы XVIII в. дайшлі да нас таксама беларускія рэлігійныя паасобныя песьні, як "О, мой Божа, веру Табе", а таксама зборнік такіх песьняў пад загалоўкам "Kantyczka"» (Полацк, 1774)[2]. Адам Станкевіч з цвёрдым перакананнем сцвярджае, «што Уніяцкі Касьцёл у канцы XVIII ст. яшчэ не пакідаў цалкам роднай мовы народу ў жыцьці рэлігійным», што «…Касьцёл Уніяцкі беларускай мовай карыстаўся, як мовай роднай».

Надзейным памочнікам царквы ў гэтай справе сталі ўніяцкія школы, роля якіх аб'ектыўна раскрыта даследчыкам К. Харламповічам: «Становішча рускай мовы (г. зн. старабеларускай. — *Л. Л.*) павінна было быць ва ўніяцкіх вучылішчах некалькі лепшым у параўнанні са славянскай ужо з прычыны таго, што без ведання яе нельга было наладжваць сувязь з тым простым народам, які і складаў галоўным

---

[1] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. — Мн., 1992. — С. 148, 149.

[2] Станкевіч Адам. Родная мова ў сьвятынях // Спадчына. — 1992. — № 1. — С. 63.

чынам уніяцкую царкву… Зрэшты, факт школьнага выкарыстання рускай мовы як мовы выкладання даказваецца ўжо тым, што ўніяцкія вучылішчы часта называюцца рускімі; на ёй мелі выкладацца свяшчэнныя навукі нават у праектаванай на кобрынскім саборы мінскай семінарыі; ёй жа (г. зн. мове. — *Л. Л.*) дадзена ў ёй (г. зн. у семінарыі. — *Л. Л.*) аднолькавае месца з лацінскай і па пастанове мінскай кангрэгацыі 1652 г.»[1].

Добра паклапаціліся кіраўнікі ўніяцкай царквы і аб выданні патрэбнай для яе літаратуры, прычым і тут нярэдка ўжывалася старабеларуская мова. Так, у 1628 г. манахі Віленскага Траецкага манастыра выдалі ўніяцкі катэхізм «Наука, яко верити маеть каждый» (пасля скасавання Берасцейскай царкоўнай уніі ён трапіць у бібліятэку Маскоўскага друкарскага двара). З каштоўных беларускамоўных уніяцкіх выданняў можна назваць зборнік казанняў біскупа Уладзімерскага і Берасцейскага, мітрапаліта Кіеўскага Іпацiя Пацея. З’явіўся гэты зборнік у свет у 1674 г., г. зн. праз 61 год пасля смерці яго аўтара. Шырока пранікла старабеларуская мова і на старонкі нерэлігійнай, пераважна палемічнай, літаратуры. Да яе можна аднесці творы мітрапаліта Л. Кішкі «Аб сакрамэнтах» (Полацк, 1697), «Сабранне прыпадкаў, духоўным асобам патрэбнае» (Супрасль, 1722), «Парафіяльныя навукі», «Катэхізмы капланскія» і інш. Вядомы беларускі этнограф Павел Шпілеўскі ў сваёй кнізе «Путешествие по Полесью и Белорусскому краю» згадвае такі факт, што сярод выдадзеных на старабеларускай мове ў XVII ст. кніг, якія захоўваліся ў бібліятэцы Нясвіжскага замка, меўся твор пад назвай «Спорка (спор) меж униатами и католиками папскими…».

На працягу XVII–XVIII стст. асабліва шмат зрабіў для распаўсюджання ўніяцкай рэлігіі і нацыянальнай асветы закладзены ў 1498 г. Аляксандрам Хадкевічам Супрасльскі манастыр. У заснаванай пры ім з дапамогай Карла Радзівіла і мітрапаліта Кіпрыяна Жахоўскай друкарні з 1698 г. пачалі выходзіць кнігі для ўніяцкага набажэнства. Да канца XVII ст. былі надрукаваны «Страсти Христовы», «Служэбнік», «Мінея Агульная», «Последование постригу в малый ионический образ». У пачатку XVIII ст. у ёй, акрамя выдання кніг на славянскай мове, сталі ў гэтых мэтах карыстацца лацінскай, польскай і старабеларускай.

---

[1] Харлампович К. Западнорусские православные школы… — С. 520, 521.

Супрасльскі ўніяцкі манастыр захоўваў прагрэсіўныя традыцыі XVI ст. тым, што ён, як справядліва пісаў вядомы беларускі гісторык У. Пічэта, друкаваў «кнігі для царкоўнага набажэнства ў мове блізкай і зразумелай для народных мас». І такой мовай, бясспрэчна, была старабеларуская.

У той час, калі пасля афіцыйнай забароны ў 1696 г. ужываць беларускую мову ў справаводстве, а пазней — у друкаванні кніг, яе сацыяльныя функцыі звузіліся да крайнасці. Практычна толькі адно ўніяцкае духавенства не адступілася ад роднага слова карэннага насельніцтва нашай Бацькаўшчыны. А паколькі, па-першае, яно тут колькасна пераважала ўсіх астатніх жыхароў і, па-другое, уніяцкую рэлігію вызнавала абсалютная большасць беларусаў, дык няцяжка зразумець, якую велізарную ролю адыгрывала гэтая канфесія ў захаванні этнічнай самасвядомасці ў час, калі пад такі моцны ўплыў польскай культуры і мовы падпалі беларуская культура і мова. Толькі за 1771–1792 гг. уніяцкае духавенства выдала на беларускай мове лацінкай шэраг папулярных у народзе рэлігійных зборнікаў і песнапенняў, у тым ліку «Кантычка», «Радуйся Божы народзе», «Нова радасць стала», «Цару Хрысту малю», «Кажуць людзі». На беларускай мове працягвалі прамаўляцца пропаведзі ва ўніяцкіх храмах аж да самага далучэння нашага краю да Расійскай імперыі. Улічваючы, што ўніяцкая царква была распаўсюджана пераважна сярод простага беларускага люду і так прыхільна абараняла яго культуру, выкарыстоўвала яго родную мову, многія, у іх ліку і паэт Максім Багдановіч, зусім слушна глядзелі на гэтую канфесію, як на сапраўдную нацыянальную з’яву. Вельмі дасведчаны ў пытаннях гісторыі царкоўна-рэлігійнага жыцця Беларусі ксёндз Адам Станкевіч пісаў, што унія — гэта «найбольш дапасаваная да душы народу форма хрысціянскай рэлігіі». Паводле вядомага нашага мовазнаўцы Янкі Станкевіча, «яна сталася ў Беларусі народнаю вераю з дадатковым беларускім набажэнствам у царкве, з беларускімі песьнямі, пропаведзямі і г. п.»[1].

Падобную пазітыўную ролю некалі адыграла ўніяцкая царква і ў лёсе ўкраінцаў Галіцыі, якая раней належала Польшчы, а затым пасля яе падзелу ўвайшла ў склад Аўстрыі. Прыхільнымі адносінамі да беларускай і ўкраінскай культур і моваў уніяцкая царква заслужыла

[1] Спадчына. — 1992. — № 1. — С. 64; — № 4. — С. 81.

вялікую павагу ў гэтых народаў, помнілася апошнімі і пасля яе прымусовага скасавання.

Уніяцкая царква ў Беларусі заваявала сабе права называцца нацыянальнай не толькі дзякуючы выкарыстанню ў час набажэнства роднай мовы яе карэннага насельніцтва, але і ўсебаковай падтрымцы, вялікай павазе да яго духоўных традыцый у цэлым. Народ любіў, цягнуўся да гэтай самай таннай царквы яшчэ і таму, што яна не абцяжарвала яго вялікімі падаткамі. У гэтым яна асабліва адрознівалася ад каталіцкай царквы, якая ахвотна выкарыстоўвала любую нагоду, каб толькі сваімі багаццямі і раскошай уразіць чалавека. Вядомы ў Беларусі гісторык каталіцызму Я. Мараш прыводзіць такі выпадак, што ў час пахавання ў Мінску маршалка Ігната Завішы каля катафалка гарэлі чатыры тысячы свечак і дзесяць тысяч аліўкавых лампад.

Праціўнікі ўніяцтва заяўляюць, што, акрамя павагі да беларускай мовы, яно нічога вартага не дало для духоўнай культуры нашага народа і ў гэтым значна ўступае праваслаўнай і каталіцкай цэрквам. Бясспрэчна, магчымасці ў апошніх для стваральнай, творчай дзейнасці былі непараўнальна лепшыя, чым у беднай уніяцкай царквы, паколькі яны ўвесь час падтрымліваліся дзяржавай, мелі для гэтага неабходныя фінансавыя і грашовыя сродкі, таленавітых у розных сферах духоўнага мастацтва людзей. Але ж усе створаныя імі для праваслаўных і каталіцкіх храмаў мастацкія творы не ідуць ні ў якое параўнанне з тым, што зроблена ўніяцкай царквой для захавання мясцовых традыцый, беларускай мовы, а значыцца, і для ўсведамлення яе носьбітамі сябе як самабытнага этнасу.

Знаёмячыся з літаратурай па пытаннях гісторыі рэлігіі ў Беларусі, прыходзіш да высновы, што і праваслаўная, і каталіцкая цэрквы найбольш за ўсё ненавідзелі ўніяцкую рэлігію менавіта за выкарыстанне ёю хоць эпізадычна беларускага слова ў час асноўнага набажэнства. Лепшыя магчымасці для барацьбы з ёю былі ў каталіцкай царквы, паколькі яна разам з уніяцкай знаходзілася ў межах адной і той жа федэратыўнай дзяржавы — Рэчы Паспалітай. А найбольш дзейсным сродкам для такой барацьбы прызнавалася любымі праўдамі і няпраўдамі прапхнуць ва ўніяцкія святары асобаў прапольскай арыентацыі, выхаваных у польскай культурна-моўнай стыхіі. Кепскае валоданне мовай набажэнства ўніяцкай царквы, а не дык і проста знявага да яе слова з’явіліся прычынай, што сярод такіх святароў

траплялiся асобы, якiя не супраць былi ўвесцi ў лiтургiю нават латынь, а ў павучаннях да народа i ў навучаннi яго малiтвам ужывалi польскую мову, што, зразумела, выклiкала вялiкi пратэст у вернiкаў, паколькi такое разглядалася iмi як парушэнне нацыянальных традыцый унiяцкай царквы.

Вышэйзазначаная катэгорыя ўнiяцкiх святароў хутчэй за ўсё была выключэннем, чым правiлам. У асноўным жа ўнiяцкi клiр складаўся з асобаў, думкi i ўчынкi якiх цалкам падпарадкоўвалiся, адпавядалi нацыянальным iнтарэсам беларускага народа. Нiхто так, як яны, не клапацiўся ў той час аб захаваннi яго этнiчнай самасвядомасцi. I захаванне яе найперш дасягалася праз шанаванне роднага слова вернiкаў. Ужыванне ўнiяцкай царквой беларускай мовы нараджала вялiкую павагу да апошняй з боку прыхаджан, аб чым засведчыў нават самы люты яе вораг лiтоўскi мiтрапалiт I. Сямашка: «Увесь грэка-ўнiяцкi народ размаўляе мовай беларускай альбо маларасiйскай (г. зн. украiнскай. — *Л. Л.*), — дзецi ўнiяцкага духавенства ў доме сваiх бацькоў i па-за iм амаль выключна чуюць гэтую мову, — яны забываюцца на яе ўжо ў польскiх школах».

З прыведзенай цытаты вынiкае, што беларускае слова панавала ў сем'ях унiяцкiх святароў, што надавала яму жыццёвасць, рабiла ўстойлiвым ад асiмiляцыi. Таму не дзiва, што ў такiх сем'ях, а таксама ў школах, дзе настаўнiчала ўнiяцкае духавенства, выгадавалася шмат асобаў, якiя пакiнулi прыкметны след у гiсторыi i культуры беларускага народа, вызначалiся высокiм узроўнем нацыянальнай самасвядомасцi. Дакументальна пацверджана, што ў шляхецкай унiяцкай сям'i паблiзу Оршы нарадзiлася мацi Тадэвуша Касцюшкi Тэкля Ратомская. Вернай гэтай рэлiгii засталася яна i пасля пераезду ў вёску Даўгалiскi Берасцейскага (цяпер Люблiнскага) ваяводства, у якой была ўнiяцкая царква. Менавiта гэтай царкве Т. Касцюшка ахвяраваў у 1785 г. атрыманы з рук самога амерыканскага прэзiдэнта Д. Вашынгтона ордэн Цынцыната.

Цалкам пагаджаюся з меркаваннем сучаснага беларускага гiсторыка Георгiя Штыхава, што ў канцы XVIII ст. «унiяцкая царква наблiжалася да нацыянальна-беларускiх пазiцый, ва ўсякiм разе не ў меншай меры, чым гэта можна гаварыць пра дзейнасць праваслаўных брацтваў»[1]. Роля ўнiяцтва ў духоўным жыццi нашага краю з асаблiвай сiлай

---

[1] Звязда. — 1992. — 25 верасня.

праявілася пасля таго, як у выніку падзелу Рэчы Паспалітай Беларусь трапіла пад уладу Расійскай імперыі, і грэка-рымскай царкве трэба было адстойваць свае канфесійныя і нацыянальна-культурныя інтарэсы беларускага народа не толькі ад акаталічвання і апалячвання, але і ад усялякіх спробаў з боку свецкіх і духоўных расійскіх уладаў зрусіфікаваць яго, прымусіць адрачыся ад сваёй уніяцкай веры і прыняць праваслаўную. А такія спробы распачаліся адразу ж пасля падзення Рэчы Паспалітай. У ход былі пушчаны і прымус, і падман.

## § 6. ЧУЖАЯ СЯРОД СВАІХ

Самыя трагічныя для ўніяцтва дні надышлі з далучэннем Беларусі да Расіі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай. Цяпер у вернікаў гэтай канфесіі замест аднаго злосніка — каталіцкага касцёла — з’явіўся другі, не менш небяспечны, — магутная дзяржаўная праваслаўная царква. Першы злоснік не мірыўся з уніяцтвам за захаванне ім усходняга абраду, а другі — за яго адданасць заходнім догмам. Дзівішся, адкуль толькі моц бралася ва ўніятаў у адстойванні сваіх рэлігійных традыцый, на якія рабілі замах такія дзве магутныя канфесіі? Прычыну такой з’явы трэба шукаць у адданасці вернікаў уніяцтва рэлігіі сваіх бацькоў. Не было б такой адданасці, уніяцтва не дайшло б да падзелаў Рэчы Паспалітай, а дажыўшы, не працягнула б і аднаго-двух дзясяткаў гадоў, ужо апынуўшыся пад уціскам дзяржаўнай Рускай праваслаўнай царквы.

Расійская імператрыца Кацярына II і самыя блізкія да яе прадстаўнікі высокіх свецкіх і духоўных колаў разумелі, што такую масавую і даволі ўжо традыцыйную для беларусаў і ўкраінцаў з’яву, як уніяцтва, ніяк нельга было ігнараваць. Выступаць адкрыта і рашуча супраць яго не выпадала з-за рэзка адмоўнай рэакцыі Еўропы на факт падзелаў Рэчы Паспалітай трыма самымі магутнымі на той час імперыямі.

Каб выпрацаваць ва ўсіх адносінах прадуманую палітыку ў дачыненні да ўніятаў, Кацярына II распарадзілася даць указанне вядомаму рускаму дваранскаму гісторыку і археографу, кіраўніку маскоўскага архіва Калегіі замежных спраў Мікалаю Бантыш-Каменскаму (1737–1814) сабраць аб гэтым неабходныя звесткі. У жніўні

1796 г. такія звесткі ўжо былі сістэматызаваны і ўхвалены, «але толькі праз 10 год пасьля сьмерці царыцы паступіў “найвышэйшы дазвол” на выданьне працы Бантыш-Каменскага з гісторыі вуніі з наданьнем брыльянтавага пярсьцёнка ад імператара»[1].

Відаць, не спяшаліся з надрукаваннем такой кнігі таму, што не ўсе лічылі крайне неабходным бавіць марна час на вывучэнне з’явы, якую можна вырашыць адным росчыркам пяра. Гэта калі ўніяты жылі ў іншай дзяржаве, тады меліся цяжкасці схіліць іх адмовіцца ад сваёй веры і прымкнуць да чужой. Цяпер жа становішча карэнным чынам змянілася. Нягледзячы на сваё абяцанне шанаваць мясцовыя звычаі, Кацярына ІІ з велізарнай згоды і пры падтрымцы праваслаўнага духавенства ўчыніла такі націск на ўніятаў, што да 1794 г. ужо больш за тры мільёны ўкраінцаў і беларусаў было далучана да ўсходняй царквы. За гэта яе кіраўнікі гатовы былі ўзвесці імператрыцу ў ранг святых. Вядомыя і такія факты, што толькі за паўтара года пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у праваслаўе ўдалося вярнуць 1,5 мільёна беларускіх уніятаў. Без уціску і гвалту з боку свецкіх і царкоўных уладаў Расіі такога пераходу з адной канфесіі ў іншую ніколі б не назіралася. Гэта былі зусім не тыя падыходы, што ўжываліся ў дачыненні да праваслаўных ва ўсе часы пасля падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі. І ўсё ж, каб не наклікаць на сябе гневу, Кацярына ІІ у 1794 г. прымае ўказ з вельмі дыпламатычнай назвай: «Аб устараненні ўсялякіх перашкод к звяртанню ўніятаў да праваслаўнай грэчаскай царквы». Такую перашкоду вельмі лёгка можна было знайсці ва ўсім, што не задавальняла Рускую праваслаўную царкву. Віноўніку падобнай перашкоды пагражала суровае пакаранне, бо нават самая нязначная з іх кваліфікавалася як крымінальнае злачынства. Звяртае на сябе ўвагу і такі факт, як прыняцце дзяржавай шэрагу прадпісанняў аб забароне ўніяцкім святарам схіляць у сваю веру праваслаўных. Відаць, такое мела месца, бо інакш навошта ўводзіць забарону? А вось што і з далучэннем беларускіх земляў да Расіі здараліся выпадкі пераходу праваслаўных ва ўніяцкую веру, лішні раз даказвае, што для такой канфесійнай метамарфозы не характэрны быў прымус. Лагічна падумаць, што забаронай схіліць праваслаўных ва ўніяцтва царскі ўрад

---

[1] Дзьмітры Караў. Пачаткі беларускага крыніцазнаўства // Спадчына. — 1994. — № 1. — С. 4.

своечасова паклапаціўся аб тым, каб не дапусціць распаўсюджвання такой непажаданай для яго з’явы ўжо на карэнных рускіх землях.

Азнаямленне з літаратурай аб умовах дзейнасці грэка-каталіцкай царквы ў канцы XVIII — першых дзесяцігоддзях XIX ст. ставіць пад вялікае сумненне сцвярджэнні некаторых рускіх дарэвалюцыйных гісторыкаў, што ў той час назіраўся добраахвотны, прычым яшчэ і масавы пераход беларускіх уніятаў у праваслаўе. Зразумела, ён не мог ажыццяўляцца скрозь толькі пад прымусам, але што перамене веравызнання папярэднічала сур’ёзная, да дробязяў прадуманая ідэалагічная апрацоўка праваслаўнымі святарамі людзей уніяцкай веры — гэта неаспрэчны факт. Сітуацыю, якая склалася неўзабаве пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, так характарызуе добры знаўца гісторыі рэлігіі Мікалай Нікольскі (1877–1959): «Сярод сялян была пушчана чутка, што за прыняцце праваслаўя іх адбяруць ад паноў (польскіх. — *Л. Л.*) і перададуць у казну, — а становішча дзяржаўных сялян было лягчэй за памешчыцкіх. Паноў папярэджвалі афіцыйна, што ўсялякае супрацьдзеянне з іх боку будзе кваліфікавана як крымінальнае злачынства і выкліча за сабой аддачу пад суд і секвестр маёнткаў. Свецкім уладам — генерал-губернатару, губернатарам і земскай паліцыі — было прадпісана (указам Кацярыны II ад 22 красавіка 1794 г. — *Л. Л.*) аказваць духоўным уладам “усялякую дапамогу і абарону”… Губернатары дзейнічалі проста, праз “пераканаўчую параду” ўніяцкаму духавенству далучыцца разам з прыхаджанамі да праваслаўя, а нязгодных папоў арыштоўвалі і высылалі; у адных мясцовасцях уніяцкія папы дыпламатычна згаджаліся і затым займалі пазіцыю чакання, а ў іншых месцах, як, напрыклад, у некаторых прыходах Магілёўскай і Полацкай губерняў, разам з памешчыкамі арганізоўвалі сялянскія бунты, што прымусіла начальства прызадумацца»[1].

У больш спакойны час, калі не вялі франтальнай кампаніі па далучэнні грэка-рымскай царквы да праваслаўя, шырока ўжывалася і індывідуальная растлумачальная размова з вернікамі, аднак усё ж найчасцей з самімі ўніяцкімі святарамі, паколькі ад асабістых поглядаў, паводзін іх амаль цалкам залежала стаўленне паствы да сваёй царквы. Але і ў падобных выпадках не абыходзілася без падману і шантажу, а сям-там і прымусу. Таму, калі пагадзіцца з меркаваннямі

[1] Никольский Н. М. История русской церкви. — Минск, 1990. — С. 289.

тых вучоных, што пісалі пра масавы добраахвотны пераход уніятаў у праваслаўе, тады зусім нельга вытлумачыць прычыну, чаму пазней, калі Павел І прызнае супрацьзаконным акт тонка, хітра ажыццёўленага пераводу ўніятаў у праваслаўе, амаль усе яны выкажуць жаданне адысці ад апошняга. Праўда, на гэтым шляху ўзнікнуць досыць сур'ёзныя перашкоды: волю імператара зусім не пажадае выконваць праваслаўнае духавенства. Сярод яго іерархаў заўсёды было шмат прыхільнікаў самых жорсткіх метадаў абыходжання з грэка-католікамі. Такімі прыкладамі багата гісторыя рэлігійнага жыцця ў Беларусі.

Так, калі задумалі ўніятаў вёскі Нача на Барысаўшчыне перавесці ў праваслаўныя, сюды 23 чэрвеня 1795 г. прыслалі прыстава Барысаўскай акругі Івана Цісава, двух праваслаўных папоў і некалькі жаўнераў. Натуральна, не паслухацца іх ніяк не выпадала: такая сілішча на баку праваслаўных! Не даў запалохаць сябе толькі ўніяцкі святар Аляксандр Самовіч, які пасля забароны збірацца ў царкве стаў правіць службу ў гумне аднаго з недалёка размешчаных ад Начы засценкаў. Неўзабаве сюды сталі сыходзіцца ўсе яго былыя ўніяцкія парафіяне. Давялося ўмяшацца суду, якому ад сялян было заяўлена, што іх гвалтам навярнулі да праваслаўя. Вось чаму на перыяд судовага разгляду справы ў сем'ях прымусова далучаных да праваслаўнай царквы сялян мелася 29 нехрышчоных дзяцей і 9 чалавек пахавана без адпявання ў храме. Суду не ўдалося выбіць у сялян згоду зноў вярнуцца ў праваслаўе. Як у адказ на такое супраціўленне 9 сялян і ўніяцкага святара Аляксандра Самовіча арыштавалі, а над ахрышчанымі паўніяцку дзецьмі здзейснілі аналагічны праваслаўны абрад. Праўда, неўзабаве арыштаваных па ўказанні Мінскага губернскага праўлення вызвалілі, чаму садзейнічалі адпаведныя дэмакратычныя перамены ў рэлігійным жыцці краіны. Уніяты так асмялелі, што нават скаргу на імя самога цара Паўла І паслалі ў снежні 1796 г. Пазней у іх з'явілася нагода ўвайсці ў непасрэдны кантакт з імператарам, калі ён у час наведвання Беларусі завітаў 8 мая 1797 г. разам з сынамі Аляксандрам і Канстанцінам на начлег у Начу. Але цар у самой падачы заявы ад імя прыхаджан убачыў небяспечнае злачынства і аддаў загад арыштаваць трох сялян, а ў Начу накіраваць роту «гренадер для прекращения беспокойств, происходящих от прежде бывших униатов противу благочестивой церкви, после того как они раньше присоединились было к

оной»[1]. Кожнаму з трох арыштаваных сялян прысуджалася нанесці па пяцьдзесят удараў бізуном і выразаць ноздры. Пасля гэтага жыхары Начы згадзіліся далучыцца да праваслаўнай царквы, што дало падставы мінскаму гарадскому суду вызваліць ад усялякай адказнасці ўніяцкага святара Аляксандра Самовіча.

Актывізацыя дзейнасці праваслаўнага духавенства на толькі што далучаных да Расійскай імперыі беларускіх землях абавязвала і ўніяцкіх святароў штосьці такое канкрэтнае рабіць, каб не даць сваім парафіянам збіцца з правільнага шляху. У гэтых мэтах выкарыстоўваліся розныя формы вусных і пісьмовых зваротаў да народа, што, зразумела, не падабалася ні праваслаўнай царкве, ні самому імператару. Каб пакласці гэтаму канец, цар Павел I 17 сакавіка 1797 г. паслаў на імя ўніяцкага мітрапаліта Тэадоса Растоцкага рэскрыпт наступнага зместу: «Пан Растоцкі. Я атрымаў ад генерал-лейтэнанта Бекляшова данясенні, што ў губернях, яму даверaных, пачалі ўніяты публічна ўчыняць розныя шаленствы, разбэшчванне і нават нахабнасці, як яны найбольш узбуджаны прамоваю, нібыта вамі сказанаю і ў многіх месцах на польскай мове спісам рассеяным. Дадаючы пры гэтым адну з такіх, я загадваю вам у абвяржэнне лжывасці гэтага выдаць і неадкладна туды накіраваць угаворны ліст да ўніятаў духоўнага і свецкага звання, якога копіі прышліце да мяне, каб яны, застаючыся ў межах паслушэнства законнай улады, устрымаліся ад усялякіх непрыстойнасцяў і самавольстваў, за якое ставяць сябе пад строгае і непазбежнае пакаранне»[2]. На наступны дзень гэты ж цар выдаў маніфест, у адпаведнасці з якім памешчыкам і іншавернаму духавенству забаранялася тайна ці адкрыта бунтаваць праваслаўных, перашкаджаць людзям пераходзіць у праваслаўную веру. Заяўлялася аб недапушчэнні ўгаворамі ці гвалтам далучаць праваслаўных да ўніяцкай царквы, што назіралася ў некаторых месцах. У далейшым за такія ўчынкі прапаноўвалася ўжываць «пакаранні па ўсёй строгасці закона»[3].

---

[1] Працы і матар’ялы да гісторыі і археолёгіі Беларусі. — Т. V. — Менск, 1927. — С. 146.

[2] Тамсама. — Т. 7. — С. 150.

[3] Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссией. — Т. XVI. — Вильно, 1889. — С. 14, 15.

Асабліва актыўна падтрымліваў пасля першага і другога падзелаў Рэчы Паспалітай лінію на безагаворачнае вяртанне ўніятаў у праваслаўе ўкраінскі і беларускі пісьменнік, прафесар філасофіі і палітыкі, магілёўскі архіепіскап Георгій Каніскі (1717–1795, г. Нежын), які прыехаў у Беларусь з Кіеўскай духоўнай семінарыі, дзе пэўны час працаваў прафесарам, а з 1751 па 1755 г. быў яе рэктарам. Ад Магілёўскай праваслаўнай епархіі Г. Каніскі ездзіў у 1762 г. у Маскву на каранацыю Кацярыны II і прынёс ёй, пісаў А. Пушкін, «сетования народа, издревле нам родного, но отчужденного от России жребиями войны»[1]. Тут, як бачым, у магілёўскага архіепіскапа не хапіла сціпласці, бо як можна было гаварыць ад імя народа, да якога ты этнічна не належыш, скардзіцца, прасіць у імператрыцы заступніцтва, што яна і пастаралася зрабіць з дапамогай тонкай, хітрай дыпламатыі і ваеннай сілы. У сваіх працах Г. Каніскі вельмі перабольшваў ролю адміністрацыйных фактараў у распаўсюджванні ў Беларусі ўніяцтва, затое не хацеў заўважаць іх у дачыненні да вернікаў грэка-рымскай царквы пасля далучэння Магілёўшчыны да Расійскай імперыі. А тады ж дзеля вяртання ўніятаў у праваслаўе гэтым фактарам надавалася надзвычай важнае значэнне. Дарэчы, Магілёўская губерня, як ніякая іншая, вельмі хутка дасягнула істотнага абмежавання ўніяцтва на сваёй тэрыторыі, у чым, несумненна, перш за ўсё заслуга самога архіепіскапа Г. Каніскага. Яго зусім не хвалявала, што такія змены ў канфесійным жыцці вернікаў адбываліся не без падману і гвалту з боку праваслаўнага кліру і мясцовай адміністрацыі, паслухмянай цэнтру.

Ужо на першым часе пасля далучэння беларускіх земляў да Расіі некаторыя храмы ўніятаў перайшлі да праваслаўных. Так здарылася ў 1794 г. і з храмам Уваскрошання Хрыстова (Мінск), які пасля выкананага ў наступныя два гады рамонту стаў называцца Кацярынінскім праваслаўным саборам.

Зусім не палепшала ўніятам, калі рускія імператары Павел I і Аляксандр I з-за боязі распаўсюджвання ў краіне прагрэсіўных ідэй Французскай буржуазнай рэвалюцыі 1789–1794 гг. свядома пайшлі на зближэнне з каталіцызмам, шукаючы ў ім надзейную для сваёй палітыкі апору. У канцы снежня 1800 г. уніяцкая царква перадаецца практычна ў поўную залежнасць ад каталіцкай, што вельмі садзейнічала схіленню

---

[1] Пушкин А. С. Полн. собр. соч.: в 6-ти т. — Т. 6. — М. — С. 43.

вернікаў ад першай да другой. У такіх варунках уніяцкаму духавенству куды цяжэй было ахоўваць сваіх вернікаў ад лацінства, чым у горшыя часы перыяду Рэчы Паспалітай, дзяржаўныя ўлады якой не заўсёды так актыўна, як урад Расіі, умешваліся ў рэлігійнае жыццё. Затое цяпер на далучаных да імперыі беларускіх землях польскія каталікі і іх ударная сіла — езуіты з небывалай напорыстасцю праводзілі эксперымент па канфесійнай пераарыентацыі ўніятаў, не спыняючыся нават перад тым, каб перацягнуць на свой бок і каго-небудзь з праваслаўных, асабліва моладзь і асобаў жаночага полу, чаго ўжо не мог дараваць Аляксандр І. Празмерная стараннасць пайшла на шкоду каталіцызму: высылаюць за межы Расіі езуітаў, зачыняюць Полацкую езуіцкую акадэмію… Каталіцкім святарам давялося згарнуць усялякую дзейнасць па перацягванні на свой бок праваслаўных вернікаў, а вось у дачыненні да ўніятаў такая палітыка працягвалася, толькі больш асцярожна, дыпламатычна.

Адначасова аднаўляецца, набывае колішнія памеры наступ на ўніяцтва з боку праваслаўнай царквы. Бадай, ніхто, як уніяты, так не зведаў зменлівай палітыкі рускіх імператараў у пытаннях рэлігіі. Калі Кацярына II, як адзначана вышэй, не толькі прыхільна ставілася да пераводу вернікаў грэка-рымскай царквы ў праваслаўе, але нават і гвалтам прымушала апошніх да такіх крокаў, дык Павел І і Аляксандр І, наадварот, гэтую канфесію на нейкі час падпарадкоўваюць каталіцкай, што неўзабаве прыняло непажаданы для Рускай праваслаўнай царквы абарот, і таму былі прыняты захады адваротнага характару. Прыдушаныя з двух бакоў уніяты ў масавым парадку адмаўляюцца ад веры сваіх бацькоў. Але не скрозь. Дзесьці яны толькі для блізіру прыстасоўваліся, згаджаліся з новымі ўмовамі, ідучы на рознага роду хітрыкі. Каб утаіць ад пільнага вока расійскіх духоўных і свецкіх чыноўнікаў факт выкарыстання ва ўніяцкіх бажніцах беларускай мовы, даводзілася патрэбную для вядзення ў іх службы літаратуру пісаць не кірыліцай, а лацінкай.

Калі таго патрабавалі ўмовы, уніяцкае духавенства дзеля выратавання сваёй веры звярталася па дапамогу да высокіх дзяржаўных уладаў. У некаторых пытаннях яму ўдавалася выкарыстаць дзеля сваіх мэтаў не ўласцівую Кацярыне II талерантнасць Паўла І і Аляксандра І у рэлігійным жыцці. Вялікім дасягненнем тут можна лічыць адкрыццё ў 1806 г. у Полацку Беларускай грэка-ўніяцкай семінарыі.

Блізка да сэрца бралі страту ўніяцкай царквой сваёй былой магутнасці не толькі святары, але і яе самыя інтэлігентныя вернікі. Добра разумела і студэнцкая моладзь уніяцкага веравызнання, што можа чакаць іх царкву ў выніку нядобразычлівага стаўлення да яе з боку духоўных і свецкіх уладаў Расійскай імперыі, польскага касцёла. Каб у чымсьці дапамагчы сваёй царкве ў нялёгкі для яе час, у Віленскім універсітэце па ініцыятыве студэнта з Радашкавічаў Антона Марціновіча (сын святара) засноўваецца студэнцкі ўніяцкі гурток. Роля апошняга яшчэ больш узрасла, калі да кіраўніцтва яго прыйшлі выдатныя арганізатары і здольныя да вучобы студэнты Міхаіл Баброўскі і Ігнат Даніловіч, якія паходзілі з сем'яў уніяцкіх святароў. Пазней, у 1823 г., абодва яны атрымалі званне прафесара.

Страты ва ўніяцкай царквы былі б не такімі адчувальнымі, калі б супроць антыталерантнай палітыкі праваслаўных іерархаў яна выступала адзіным фронтам з каталіцкім касцёлам. Трэба сказаць, што і ў гэты нялёгкі перыяд зусім непадобнымі на брацкія былі дачыненні паміж католікамі і ўніятамі, у чым часам вінаватымі станавіліся ўлады Расійскай імперыі. Гэта не хто іншы, як яны, далі дазвол на стварэнне рымска-каталіцкай калегіі ў Пецярбургу і пазбавілі такога права ўніятаў. Даведаўшыся аб указе імператара Паўла І аб скарачэнні ліку базыльянскіх кляштароў, якія належалі ўніяцкай царкве, католікі тут жа пастараліся падпарадкаваць іх сабе. І ўвогуле трэба сказаць, што рэлігійная палітыка Расіі на далучаных да яе беларускіх землях доўгі час вызначалася пэўнай спрыяльнасцю для каталіцкай і ўзвядзеннем featurerознага роду перашкодаў для ўніяцкай цэркваў, што вельмі ўдала выкарыстала першая. Вось што мы пра гэта знаходзім у вядомага беларускага гісторыка М. Доўнар-Запольскага: «…фактычна ўніяцкая царква была ў поўным заняволенні ад рымскай царквы. Рымска-каталіцкая калегія старанна дзейнічала ў сэнсе зліцця абедзвюх цэркваў. Яна часта аддавала ўніяцкія кляштары каталіцкім манахам…» Высокія духоўныя асобы гэтай канфесіі дамагліся таго, што базыльяне сталі «галоўнымі праваднікамі каталіцкага ўплыву ва ўніяцкай царкве»[1]. Не выключана, што такая варожасць з боку рымскай царквы магла

[1] Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. — Мінск, 1994. — С. 293, 294.

падштурхоўваць уніяцкіх іерархаў да зблiжэння з праваслаўем, у чым вельмі былі зацікаўлены духоўныя і свецкія ўлады Расійскай імперыі.

Агрэсіўнасць каталіцкага касцёла да ўніяцкай царквы набыла ў першай чвэрці XIX ст. такі пагрозлівы характар, што яе галоўны ідэолаг прафесар-славіст Віленскага ўніверсітэта Міхаіл Баброўскі разам з сваімі аднадумцамі вымушаныя былі звярнуцца па дапамогу да Масквы. «Гэта быў момант, — піша А. Цвікевіч, — калі правадыры вуніі імкнуліся зрабіць яе незалежнай ад каталіцтва і на вуніяцкай рэлігійнай самастойнасьці падняць да жыцця заняпалую старабеларускую культуру. Спроба скончылася няўдачай. Мікалай I і Блудоў скарысталі зварот да сябе вуніяцкіх правадыроў у сваіх мэтах і замест дапамогі іх імкненьням сапхнулі яго на рэйкі праваслаўя. У малым маштабе паўтарылася нешта падобнае да гісторыі з Багданам Хмяльніцкім, які ў змаганьні з Польшчай спрабаваў абаперціся на маскоўскага князя і даў апошняму магчымасьць прыбраць Украіну да сваіх рук»[1].

Двухбаковыя варожыя ўплывы на ўніяцкую царкву з боку рускага праваслаўя і каталіцызму польскага ўзору часта абцяжарвалі ёй выпрацаваць, праводзіць адзіную лінію па тым ці іншым прынцыпова важным пытанні. Неадназначна ўспрыняло ўніяцкае духавенства і паўстанне 1830–1831 гг. Адна частка святароў, асабліва тая, што знаходзілася пад уплывам базыльянаў, жадала паражэння царскай Расіі за яе непрыязныя дачыненні да грэка-каталіцкай царквы, другая, наадварот, усе свае спадзяванні на выратаванне ўскладвала на канчатковы разгром палякаў, якія не спыняліся займацца акаталічваннем і апалячваннем беларусаў-уніятаў. Пазіцыю гэтай часткі духоўнікаў уніяцкай царквы падзяляў і вядомы прафесар Віленскага ўніверсітэта Міхаіл Баброўскі, які, «ачышчаючы унію ад лацінскага ўплыву, — справядліва заўважае Алег Латышонак, — аб’ектыуна садзейнічаў яе збліжэнню з праваслаўем»[2]. Але канчаткова зліваць унію з праваслаўем ён не згаджаўся нават і пад вялікім прымусам.

Трэба аддаць належнае, што пры ўсіх хістаннях уніяцкай царквы ці ў бок праваслаўя, ці ў бок каталіцызму яна ніколі не збіралася здраджваць карэнным інтарэсам беларускага народа і, як толькі магла,

---

[1] Цьвікевіч Аляксандр. «Западно-руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. — Мінск, 1993. — С. 151.

[2] Спадчына. — 1992. — № 1. — С. 13.

шанавала яго традыцыі, быт і мову. У гэтую небяспечную для грэка-католікаў часіну адданым беларускай справе заставаўся полацкі ўніяцкі арцыбіскуп Якуб Адам Акело-Мартусевіч. У 1824 г. ён выдаў «загад вучыць у сьвятынях народ беларускі ў яго роднай мове…»[1]. За два гады да прымусовага скасавання ўніяцкай царквы (1839) яна яшчэ паспела выдаць беларускі катэхізіс.

Факты сведчаць, што з усіх прадстаўнікоў уніяцкага духавенства ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. найбольш трымаліся беларускасці яго вышэйшыя колы, бо яны менш за астатніх паддаваліся паланізацыі, мелі адносна высокі ўзровень этнічнай самасвядомасці. На жаль, гэтага нельга было сказаць аб пераважнай большасці шараговых ксяндзоў, якіх польскаму касцёлу рознымі шляхамі ўдалося разбавіць адданымі яму асобамі. Гэта часта вымушала вышэйшую духоўную ўніяцкую ўладу папярэджваць па-прапольску настроеных сваіх святароў аб неабходнасці ўжываць беларускую мову ў час казанняў і катэхізацыі насельніцтва. На бяду, такія папярэджванні не заўсёды давалі пажаданы эфект. Але як бы цяжка ні было з уратаваннем беларускай мовы, яна ўсё ж, як пісаў Адам Станкевіч, яшчэ і на пачатку XIX ст. «у Касьцёле Уніяцкім мела мейсца»[2]. Праўда, у дадзенага аўтара наконт гэтага ёсць і выказванні мінорнага плана. Уніяцкую царкву першай чвэрткі XIX ст. ён называе польскай цвярдыняй, «спольшчанай часьцінай лацінскага Касьцёла»[3], хаця гісторыі вядомыя факты вельмі энергічнага супраціўлення беларускіх грэка-католікаў палітыцы іх латынізацыі. Калі б у Беларусі ўсё жыццё скіравалася ў нармальнае нацыянальнае рэчышча, уніяты без усялякай дапамогі збоку скінулі б з сябе польскую апратку. Але гэтага не давалі ім свецкія і духоўныя ўлады Расійскай імперыі, інтэнсіўна культывуючы ў Беларусі пасля задушэння паўстання 1830–1831 гг. свае нормы жыцця, у тым ліку і рэлігійнага.

У зусім не падобнай да вышэйапісанай сітуацыі апынулася ўніяцтва Беластоцкай акругі, якая на працягу 1795–1807 гг. знаходзілася ў складзе Прусіі. У гэты час тут грэка-католікі не зведвалі такога магутнага польскага ўплыву, бо скрозь пераважала ўсё нямецкае. Акруга налічвала

---

[1] Спадчына. — 1992. — № 1. — С. 66.

[2] Тамсама. — С. 63.

[3] Тамсама. — С. 65.

некалькі дзясяткаў тысяч уніятаў, якія мелі 70 цэркваў, 3 манастыры (Супрасль, Драгічын, Кузніца), дзве школы (дэканальная ў Малой Бераставіцы і адна з самых старадаўніх у Кляшчэлях). «Прускія ўлады з дазволу папы рымскага стварылі ў 1796 г. самастойную супрасльскую ўніяцкую епархію са сваім капітулам і духоўнай семінарыяй. Нешматлікае духавенства супрасльскай епархіі вызначалася выключнай згуртаванасцю (было яно сапраўды адной вялікай сям'ёй), рашучасцю ў змаганні за свае правы (ціск з боку рымска-каталіцкай царквы быў тут заўсёды большы, чым на іншых беларускіх землях) і самастойнымі поглядамі на унію…» Невыпадкова на падлеглай Супрасльскай уніяцкай епархіі тэрыторыі нарадзіліся і выраслі людзі, якія, стаўшы прафесарамі Віленскага ўніверсітэта, увайшлі ў нашую гісторыю як пачынальнікі, носьбіты беларускай нацыянальнай ідэі. Гэта Міхаіл Баброўскі і Платон Сасноўскі (абодва з-пад Кляшчэляў), Ігнат Даніловіч і Язэп Ярашэвіч (абодва з-пад Бельска Падляшскага) і Ігнат Анацэвіч (Малая Бераставіца).

Дасягнуты шляхам прымусу перавод даволі значнай колькасці ўніяцкіх цэркваў у праваслаўныя не мог адразу стварыць для духоўных і свецкіх уладаў Расійскай імперыі колькі-небудзь надзейную апору для ажыццяўлення імі на беларускіх землях сваёй антынацыянальнай палітыкі. Убраныя ў рызу праваслаўнага папа былыя ўніяцкія святары ў душы па-ранейшаму заставаліся прыхільнікамі старой веры. Мо таму многія новыя прадстаўнікі кліру праваслаўнай царквы ў Беларусі, г. зн. колішнія ўніяты, пасля ўварвання сюды ўлетку 1812 г. войскаў Напалеона так ветліва віталі іх, бо ведалі, што ў Францыі ў пытаннях рэлігіі ўжо даўно трывала запанавала талерантнасць і, значыцца, нішто цяпер не будзе пагражаць апальнай у Расіі ўніяцкай царкве.

Такія паводзіны ўніятаў да сваёй веры вымусілі Найсвяцейшы Сінод пасля выгнання з Беларусі напалеонаўскіх войскаў істотным чынам перагледзець сваё стаўленне да расфармавання дадзенай канфесіі. Цяпер ужо у такой палітыцы галоўнае ён бачыць не ў ідэалагічнай апрацоўцы простых людзей, радавых уніяцкіх святароў, а ў стварэнні сабе трывалай апоры ў асяроддзі самай высокай эліты гэтай канфесіі. Праблема вырашана на выдатна. Знайшлося нямала ўніяцкіх біскупаў, якія гатовы былі за добрую ўзнагароду аддана служыць расійскаму імператару і Найсвяцейшаму Сіноду, але ўсё ж першае месца ў здрадзе ўніяцтву належала біскупу Іосіфу Сямашку, якога ўдалося праваслаўю

перацягнуць на свой бок у пачатку 20-х гадоў XIX ст. Ніхто не можа параўнацца з ім па той напорыстасці, з якой ён культываваў рускія пачаткі і найперш рускую мову ва ўсё, што было звязана з дзейнасцю ўніяцкіх храмаў і іх навучальных устаноў. Правядзеннем такой палітыкі русіфікацыі ўніяцкай рэлігіі ён разлічваў дасягнуць яе хутчэйшага зліцця з Рускай праваслаўнай царквой.

Памылкова было б думаць, што такім адпетым змагаром за ўкараненне рускага слова на чужой для яго тэрыторыі Іосіф Сямашка з'яўляўся таму, што мо сам вельмі добра валодаў ім. Не. Духоўную адукацыю ён атрымаў на польскай мове і доўгі час карыстаўся ёю не толькі пры выкананні царкоўнай службы, але і ў зносінах са сваімі блізкімі і знаёмымі. Свае слабыя веды па рускай мове Іосіф Сямашка нават не раз будзе выкарыстоўваць як падставу адысці ад актыўнай рэлігійнай дзейнасці, але ўжо тады, калі ўніятаў адлучаць ад іх веры. За год адліку самай актыўнай дзейнасці Іосіфа Сямашкі супраць грэка-каталіцкай рэлігіі можна прызнаць 1827-ы, калі ён на імя цара паслаў запіску «Аб стане ўніяцкай царквы ў Расіі і аб спосабах вяртання ўніятаў ва ўлонне праваслаўнай царквы». Прыдрацца да прапанаваных ім спосабаў амаль немагчыма было, таму іх не маглі не ўзяць на ўзбраенне.

Важным крокам на гэтым шляху з'явіўся вывад уніяцкага дэпартамента са структуры рымска-каталіцкай калегіі і ператварэнне яго ў грэка-ўніяцкую калегію з беспасрэдным падпарадкаваннем апошняй дэпартаменту замежных веравызнанняў. Урад Расіі таксама ўмела выкарыстаў удзел некаторых уніятаў у паўстанні 1830–1831 гг. для ўвядзення рэпрэсіўных захадаў супраць найбольш важных устаноў гэтай канфесіі. Як толькі высветлілася, што ў некаторых месцах грэка-каталіцкае духавенства стала на бок змагароў за нацыянальную незалежнасць, тут жа ў якасці пакарання было вырашана зачыніць шэраг уніяцкіх кляштараў. Без прамаруджвання пастараліся таксама закрыць і разрабаваць Жыровіцкую ўніяцкую семінарыю, настаўнікі якой падтрымалі паўстанцаў. Пазбаўленае такой установы ўніяцкае духавенства ўжо не мела магчымасці ў належнай ступені забяспечваць свае патрэбы ў служыцелях царквы.

Шмат гора прынёс грэка-рымскай царкве Беларусі 1832 г., калі паводле загаду з Пецярбурга «пачалася акцыя адбірання старых вуніяцкіх служэбнікаў і іншых кніжак і замены іх на расейскія праваслаўныя кнігі. З цэркваў і манастыроў цэлае Беларусі ў Полацкую духоўную

кансысторыю звозіліся для паленьня выданьні беларускіх вуніяцкіх друкарняў. У дадатак да тых кніг у беларускай мове друкаваліся арыгінальныя навукова-тэалагічныя й мастацкія, галоўна вершаваныя, творы беларускай літаратуры: усе яны, за рэдкімі выключэньнямі, беззваротна загінулі ў агні, разам з багаслужбовымі кнігамі. Вуніяцкія сьвятары спрабавалі ратаваць іх: ведамы выпадак, калі 2 красавіка 1834 году ў Наваградку на рукі яп. Язэпа (Сямашкі) 56 сьвятароў злажылі пратэст, але, на загад цара, усе былі пакараныя за гэта годам манастырскай турмы»[1].

Такая палітыка моцна падрывала асновы ўніяцкай царквы, але, на здзіў яе ворагам, яна ўсё яшчэ жыла. Таму працягваўся пошук новых сродкаў барацьбы з ёю. Вельмі неабходным лічылася перацягнуць на бок праваслаўя ўніяцкае прыходскае духавенства. Дзеля гэтага епіскапа Іосіфа Сямашку ставяць у 1833 г. на чале Літоўскай епархіі (сядзіба ў Вільні). Разам з полацкім праваслаўным епіскапам Смарагдам пачалі «аб’езды епархій; уніяцкім папам прапаноўвалася добраахвотна даць падпіску аб далучэнні да праваслаўя; тыя, што далі згоду, атрымлівалі аднаразовую грашовую дапамогу, пераводы на больш выгодныя ганаровыя месцы, асабліва ў гарадскія цэрквы і саборы, а таксама ўзнагароды скуф’ямі[2], камілаўкамі[3], залатымі нагруднымі крыжамі і ордэнамі. Насупраць, папы, з боку якіх сустракаліся ўпартыя «претыкания», пераводзіліся ў горшыя месцы альбо, паводле рэкамендацыяў архірэяў, пазбаўляліся прыходаў і высылаліся ўнутр імперыі ў манастыры. Над памешчыкамі быў устаноўлены неаслабны нагляд, і да тых, хто вёў агітацыю супраць далучэння, ужываліся таксама розныя адміністрацыйныя меры ўздзеяння»[4].

На гэты раз апрацоўка ўніяцкага духавенства прайшла больш паспяхова. Праз чатыры гады ўжо каля 2/3 прыходскага кліру і ўсе епіскапы далі згоду на далучэнне да праваслаўя. У 1837 г. у адпаведнасці з ука-

---

[1] Калубовіч Аўген. Крокі гісторыі. — Беласток; Вільня; Менск, 1993. — С. 191.

[2] Спічастая шапка з чорнага або фіялетавага аксаміту ў праваслаўнага духавенства, манахаў.

[3] Высокі цыліндрычны галаўны ўбор з аксаміту, які даецца праваслаўным папам як знак узнагароды.

[4] Никольский Н. М. История русской церкви. — С. 292, 293.

зам цара Мікалая І уніяцкая царква падпарадкавана Найсвяцейшаму Сіноду.

І ўсё ж працэс далучэння ўніятаў да Рускай праваслаўнай царквы адбываўся не так мірна і спакойна, як таго жадалі Найсвяцейшы Сінод, мясцовыя духоўныя асобы. Прычына: адданасць вернікаў сваёй уніяцкай рэлігіі. Гэтая ж адданасць была і сур'ёзнейшай перашкодай на шляху правядзення ўвогуле русіфікацыі карэннага насельніцтва беларускай зямлі. Без перабольшвання актыўней за ўсіх супраціўляліся такой палітыцы самі служыцелі ўніяцкага кліру. Вынікае гэта і з таго, што ў некаторых школах, якія ствараліся нават у пачатку XIX ст. уніяцкай царквой, мовай выкладання па-ранейшаму была беларуская.

Вялікая прыхільнасць пераважнай большасці ўніяцкага духавенства да ўсяго беларускага станоўча ўплывала таксама на захаванне, шанаванне народных традыцый сярод насельніцтва ўсяго прыходу, а найперш — непасрэдна ў сем'ях святароў. Невыпадкова адсюль выйшла нямала людзей, якія сваёй дзейнасцю гэтак багата зрабілі для развіцця культуры, узняцця аўтарытэту роднага краю. Сярод іх можна назваць і прафесара права Віленскага ўніверсітэта Ігната Даніловіча (1788–1843). Працаваць яму даводзілася доўгі час у розных універсітэтах па-за межамі Бацькаўшчыны, але ўсюды лічыў сябе, паводле заяў сучаснікаў, «патрыётам-літвінам» (адна з назваў у мінулым беларусаў. — *Л. Л.*). Чым бы ні займаўся вучоны, ён увесь час думаў пра гаротны стан беларускай культуры і мовы на іх гістарычнай тэрыторыі. Шмат клопатаў у яго было аб тым, як захаваць некранутай мову Літоўскага Статута 1588 года, бо ў многіх яго тагачасных польскіх і рускіх перакладах мелася багата істотных памылак. Каб у будучым надзейна ўхіліцца ад такіх хібаў, ён прапанаваў пры перавыданні агульнаімперскіх законаў «замест небяспечнага перакладу статута на цяперашнюю велікарускую мову перадрукаваць без аніякіх адмен сучасным грамадзянскім шрыфтам Віленскае выданне 1588 г.». Гэтая прапанова не знайшла падтрымкі, што вельмі расчаравала Ігната Даніловіча, але не прымусіла адмовіцца ад задуманага. Да канца жыцця шукаў — праўда, марна — падтрымкі ва ўплывовых людзей. У данясенні ад 8 верасня 1828 г. на імя міністра народнай асветы князя Лівена ён пісаў: «Самыя далёкія патомкі літоўскіх плямёнаў будуць благаслаўляць в. с., калі гэты найкаштоўнейшы для іх заканадаўчы помнік будзе выратаваны ад пагібелі з належным

стараннем і спраўнасцю… калі першапачатковая думка заканадаўца не будзе заменена друкарскімі памылкамі, памылковаю арфаграфіяю або невуцкімі знакамі прыпынку»[1].

З сем'яў уніяцкіх святароў паходзяць прафесар статыстыкі Віленскага ўніверсітэта Ігнат Анацэвіч (1780–1845), які шмат зрабіў для вывучэння гісторыі Беларусі і Літвы, добра вядомы археолаг, этнограф, гісторык і выдавец Адам Кіркор (1819–1896)[2], працы якога садзейнічалі фармаванню гістарычнай свядомасці ў беларускага народа, абуджэнню павагі да свайго мінулага, духоўнай спадчыны. У жахлівы час, калі не толькі не прызнавалася, але і адкрыта зневажалася ўсё беларускае (тады яно яшчэ многімі атаясамлівалася і з літоўскім) вучоны не без гонару пісаў у 1861 г. сваёй жонцы: «Ты не ведаеш ні Літвы, ні яе гісторыі. Літва — гэта той цудоўны юнак, які нарадзіўся ў аддаленую невядомую ці прынамсі малавядомую эпоху, які вырас на цвёрдым падмурку, з чыстай, высакароднай душой, з ахвяраваннем, з натхненнем; як шалёны, кінуўся ён у вялікі свет… Я літвін, — ніколі не знішчожыць у мне гэтага пачуцця. Я люблю сваю радзіму з усім натхненнем юнака, з усёй адданасцю мужчыны»[3].

Уніяцкае духавенства ёсць падставы пахваліць за тое, што ў 1791 г. у сям'і святара Бялавіцкай Ільінскай царквы (Слонімшчына) Лявона Гамаліцкага нарадзіўся сын, названы Міхаілам, які ў 1815 г. стаў доктарам медыцыны, з 1824 па 1827 г. узначальваў кафедру фізіялогіі ў Віленскім універсітэце. Вялікую славу здабыў сабе як выдатны спецыяліст па пераліванні крыві. Выйшаўшы па стану здароўя на пенсію, ён цалкам аддаўся вывучэнню археалогіі Беларусі і гісторыі Вільні і стаў у 1857 г. адным з першых членаў арганізаванай у гэтым горадзе археалагічнай камісіі.

Гонар уніяцкаму духавенству робіць і той факт, што адзін з яго святароў даў для нацыянальна-патрыятычнага беларуска-польскага руху такую славутую асобу, як Франц Савіч (1815–1846; родам з вёскі

---

[1] Биографический словарь профессоров и преподавателей имп. Университета св. Владимира (1834–1884). — Киев, 1884. — С. 155–157.

[2] Некаторыя даследчыкі лічаць, што яго бацькі паходзілі з даўно аселай у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губерні татарскай шляхты.

[3] Революционная Россия и Революционная Польша (вторая половина XIX в.). — М., 1967. — С. 17, 18.

Віляцічы Пінскага павета Мінскай губерні). Ён не пайшоў па слядах свайго бацькі і мо таму, што не бачыў перспектывы ва ўніяцкай царквы з-за настойлівага наступу на яе рускага праваслаўнага духавенства. Малады Франц падаўся ў Ваенную медыка-хірургічную акадэмію ў Вільні і, ужо будучы студэнтам трэцяга курса, стварыў патаемную арганізацыю «Дэмакратычнае таварыства». Шавіністычная пазіцыя Расійскай імперыі да народаў былой Рэчы Паспалітай не зрабіла з Франца Савіча ненавісніка да ўсяго рускага. Яго крэда: «…усе нацыі роўныя, і ніхто не павінен адчуваць нянавісць адзін да аднаго, нягледзячы на нацыянальныя адрозненні (рускі, паляк або яўрэй)».

Мог ганарыцца сваім сынам Янам і ўніяцкі святар з Лепельшчыны Трафім Хруцкі. Пасля вучобы на факультэце вольных мастацтваў у Полацкай езуіцкай акадэміі (20-я гады XIX ст.) малодшы Хруцкі — Іван (1810–1885) паступае ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў і становіцца ў 1839 г. яе акадэмікам. Пад уплывам тых падзей, што адбываліся ў рэлігійным жыцці Расіі, ён адыходзіць ад уніяцкіх традыцый бацькі і, відаць, падтрымаў скасаванне ў 1839 г. Берасцейскай царкоўнай уніі, бо ў адваротным выпадку не стварыў бы ў 1850 г. партрэта мітрапаліта Літоўскага Іосіфа Сямашкі.

У сем’ях уніяцкіх святароў нарадзіліся і такія слынныя сыны нашага народа, як першы консул Расіі ў Японіі, аўтар кнігі «Аб каранях японскай мовы» Іосіф Гашкевіч (1814–1875), адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, аўтар чатырохтомнага зборніка «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (на польскай мове) Ян Баршчэўскі (1794 ці 1790–1851).

Хочацца звярнуць увагу і на такі факт, што і дзед рускага пісьменніка Фёдара Дастаеўскага быў уніяцкім святаром. Якія-небудзь звесткі аб магчымым уплыве дзеда на ўнука ў мяне адсутнічаюць, затое на сыне святара, г. зн. бацьку будучага пісьменніка, Міхасю Дастаеўскім, лекару па спецыяльнасці, напэўна ж мог станоўча адбіцца прыстойны сямейны ўклад жыцця паводле ўніяцкіх традыцый, бо ў адваротным выпадку наўрад ці з’явіўся б на свет геній Фёдара Дастаеўскага.

І такія прыклады можна было б доўжыць, што яшчэ больш выявіла б станоўчую ролю ўніяцкіх святароў у захаванні і прымнажэнні духоўных традыцый беларускага народа, паказала б вялікую адпаведнасць гэтай канфесіі яго нацыянальна-культурным запатрабаванням. Прыведзеных фактаў, думаю, больш чым дастаткова, каб паверыць наступным сло-

вам нашага выдатнага гісторыка Мікалая Улашчыка: «Наколькі многа высунула навуковых дзеячаў вясковае ўніяцкае духавенства, настолькі бедным сталася праваслаўнае, хаця ўмовы для іх былі нязмерна больш спрыяльныя». Паводле А. Цвікевіча, у Берасцейскай царкоўнай «вуніі захоўвалася стыхія беларушчыны …інтэлігентныя вуніяцкія сем'і былі носьбітамі ідэі беларускай самабытнасьці. На грунце вуніі як асаблівай "мужыцкай веры" беларуская інтэлігенцыя першай паловы XIX в. імкнулася збудаваць будучыню Беларусі, — ці то разам з Польшчаю, ці асобна ад яе. На вунію мясцовыя работнікі ласьне і глядзелі, як на мост да захаду — мост, які іх адначасова адлучаў ад усходняга маскоўска-праваслаўнага сьвету»[1].

Аднак было б памылкай думаць, што з сямей уніяцкіх святароў выходзілі толькі такія карысныя для беларускай справы людзі. Зразумела, маглі назірацца і з'явы адваротнага характару, калі ў сем'ях уніяцкіх свяшчэннікаў панаваў польскі ці рускі дух, і іх дзеці, стаўшы дарослымі, усяляк садзейнічалі ўмацаванню і распаўсюджванню чужых для беларускай зямлі пачаткаў. Вось зусім процілеглы ўсім апісаным вышэй прыклад, які датычыць рэдактара рэакцыйнага часопіса «Вестник Западной России» Ксенафонта Гаворскага (1811–1871), сына ўніяцкага свяшчэнніка з Віцебшчыны. Толькі дзякуючы старанням К. Гаворскага, рэдакцыйны калектыў гэтага часопіса, які з 1864 г. па 1871 г. выдаваўся ў Вільні, паспеў так шмат нарабіць па прапагандзе сярод беларускага насельніцтва ідэй аб непадзельнасці Расіі, аб нібыта спрадвечным яго імкненні да зліцця з рускай народнасцю, па абароне праваслаўя ад «варожых нападкаў» каталіцызму. Вядомы рускі гісторык і этнограф А. Пыпін пісаў, што ў Заходне-Рускім краі гэты часопіс «на справе стаў адным з тых сяброў, якія бываюць горш за ворагаў»[2]. У «заслугу» К. Гаворскаму могуць быць пастаўлены разгром Віленскага археалагічнага музея, зрыў планаў па адкрыцці Віленскай духоўнай семінарыі, прапаганда неабходнасці міграцыі ў Паўночна-Заходні край рускіх землеўладальнікаў у мэтах русіфікацыі яго насельніцтва. К. Гаворскі наўмысна ўхіляўся ўжываць у сваіх публікацыях назву Беларусь.

---

[1] Цьвікевіч Аляксандр. «Западно-руссизм»... — С. 149.

[2] Пыпин А. История русской этнографии. — Т. IV. — СПб., 1892. — С. 91.

Даволі цікавая асоба паходзіць з сям'і незаможнага ўніяцкага свя-шчэнніка з Сакольскага павета Гродзенскай губерні. Маю на ўвазе гісторыка і этнографа Міхаіла Каяловіча (1828–1891). Як вучоны ён быў вельмі таленавітым і пладавітым. Толькі, на жаль, паддаўся ўплыву рускіх буржуазных гісторыкаў і, каб дагадзіць афіцыйным уладам, пайшоў на адмаўленне за беларусамі, украінцамі і літоўцамі права на незалежнае нацыянальнае развіццё. Такое негатыўнае стаўленне да гісторыі і лёсу свайго народа ўсё ж вельмі здзіўляе, бо ў доме Каяловічаў, як і ў кожнай уніяцкай сям'і таго часу, «захаваўся амаль у незакранутым выглядзе стары беларускі быт, беларуская мова, старадаўнія звычаі, успаміны»[1]. Відаць, можна пагадзіцца з думкай Аляксандра Цвікевіча, што «хваравітае замілаванне да Расіі» ўзнікла ў Каяловіча таму, што ён глядзеў на апошнюю, як на абаронцу беларусаў, украінцаў і літоўцаў «ад гістарычнага польскага ўціску». І ўсё ж здрада М. Каяловіча нацыянальным інтарэсам свайго народа — гэта, на маю думку, ужо і вынік разлажэння ўніяцкага духавенства, што з цягам часу пачало адбывацца ў яго асяроддзі пад уплывам антыбеларускай палітыкі Рускай праваслаўнай царквы і мясцовых свецкіх улад.

Вельмі далёкім ад нацыянальных патрэб беларусаў заставаўся вядомы чарнасоценец, дэпутат Дзяржаўнай думы 2–4-га скліканняў Уладзімір Пурышкевіч, гэты, паводле характарыстыкі Максіма Багдановіча, «адростак беларускага ўніяцкага духавенства». Усё гэта тлумачыцца тым, што пад уплывам Рускай праваслаўнай царквы многія былыя знакамітыя ўніяцкія кланы адыходзілі ад традыцый, карэнным чынам мянялі ў адваротны бок свае дачыненні да беларускай культуры і мовы, што ў такім жа накірунку адбівалася і на сямейным выхаванні дзяцей.

У цэлым жа ўніяцкая царква, нягледзячы на ўсе падкопы да яе як з боку польскага каталіцкага, так і рускага праваслаўнага духавен-ства, моцна трымалася беларускіх нацыянальных традыцый. Яна была ў той час адзінай канфесіяй, якая будавала сваю дзейнасць у адпаведнасці з карэннымі інтарэсамі беларускага народа, ахоўвала яго і ад паланізацыі, і ад русіфікацыі, за што вельмі не паважалася ідэолагамі гэтай антыгуманнай палітыкі. З усіх хрысціянскіх канфесій

---

[1] Цьвікевіч Аляксандр. Западно-русская школа і яе прадстаўнікі // Полымя. — 1924. — № 4. — С. 115.

толькі ўніяцкая не ставіла перад сабой мэту асіміляваць беларусаў ці далучыць іх да якой-небудзь дзяржавы, чым выклікала да сябе вялікую непрыязнасць як з боку каталіцкага касцёла, так і Рускай праваслаўнай царквы.

## § 7. СКАСАВАННЕ БЕРАСЦЕЙСКАЙ ЦАРКОЎНАЙ УНІІ

Заўзятых праціўнікаў грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі зусім не задавальнялі ні ў першыя гады пасля яе далучэння да Расіі, ні пазней маштабы і вынікі барацьбы з гэтай канфесіяй і тэмпы распаўсюджання праваслаўя. Ніяк не спраўджваліся надзеі, што ўніяты самі масамі, стыхійна пацягнуцца да праваслаўнай веры. Калі штосьці і дасягнута было ў гэтай справе, дык толькі коштам вялікіх угавораў, розных абяцанняў, падману, а дзе-нідзе і гвалту. Бачачы, што адсутнічаюць рэальныя магчымасці для добраахвотнай уніі паміж грэка-католікамі і праваслаўнымі, Найсвяцейшы Сінод пры падтрымцы свецкай улады Расійскай імперыі вырашыў дасягнуць такога з дапамогай тыповых для іх адміністрацыйных захадаў. Была ўведзена сістэма заахвочвальных мер для губернатараў і іншых кіруючых асобаў, а таксама памешчыкаў за схіленне ўніятаў у праваслаўе. Дзеля атрымання як мага большай грашовай прэміі многія чыноўнікі проста не ведалі меры ў сваіх дзеяннях. Заўважу, што за Рэччу Паспалітай рэнегаты праваслаўя з боку маёмных класаў куды слабей насядалі на сваіх супляменнікаў, якія не жадалі прымаць каталіцкую веру.

За адыход ад традыцыйнай рэлігіі бацькоў сёе-тое часам перападала і радавым вернікам. Аб гэтым ёсць звесткі ў біёграфа мітрапаліта Іосіфа Сямашкі Г. Кіпрыяновіча. Ён, да прыкладу, прыводзіць факт, як мяшчанам Вілейкі за адмову ад уніяцкай веры «давалі грошы і гарэлку, чаму некаторыя згаджаліся і слепа прысягалі на прынящце праваслаўя».

Планы канчатковага, франтальнага знішчэння ўніяцтва распрацоўваліся ў вялікай тайне ад народа, для чаго быў створаны спецыяльны сакрэтны Камітэт па ўніяцкіх справах на чале з біскупам Іосіфам Сямашкам, які пасля старannай апрацоўкі яго высокімі асобамі праваслаўнага духавенства і царскай адміністрацыі станавіўся ўсё

больш сваім для іх чалавекам. У той час ужо, па сутнасці, ад гэтых структур залежала прызначэнне таго ці іншага духоўніка на пасаду ўніяцкага біскупа.

Погляды І. Сямашкі на веру сваіх бацькоў карэнным чынам сталі мяняцца з таго часу, калі ён у 1822 г. уладкаваўся на працу ва ўніяцкі дэпартамент Рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу. Адкрыта ж спрыяць ліквідацыі і далучэнню беларускіх уніятаў да праваслаўнай царквы ён пачаў у канцы 20-х гадоў, будучы асэсарам грэка-ўніяцкай царквы, а затым прэлатам. Самай важкай падставай пайсці на такое зліццё ён лічыў існаванне нібыта рэальнай пагрозы канчатковага паглынання ўніятаў польскім касцёлам, масавае іх апалячванне, чаго, зразумела, ніяк не збіраліся дапусціць духоўныя і свецкія ўлады Расійскай імперыі, якія лічылі беларусаў спрадвеку рускім па культуры і мове народам, г. зн. сваім. Адсюль, значыцца, яго трэба ўсяляк ратаваць ад польскай асіміляцыі. Да таго ж яе ў пэўнай ступені праводзілі і тыя ўніяцкія цэрквы, дзе былі моцныя пазіцыі польскага элементу.

У сваіх даносах І. Сямашка не шкадаваў фарбаў, каб пераканаць Найсвяцейшы Сінод, адміністрацыю Расійскай імперыі, што над уніяцкай царквой згушчаюцца хмары каталіцызму і таму яе вернікаў трэба неадкладна ратаваць ад поўнай паланізацыі. Так, у яго запісцы ад 5 лістапада 1827 г. паведамлялася: «Уніяцкае духавенства, у час Польшчы некалькі рымскаму (г. зн. каталіцкаму. — *Л. Л.*) варожае, цяпер узаемнасцю карысці амаль з ім злучылася». На думку І. Сямашкі, тагачаснае ўніяцкае духавенства больш правільным называць «хутчэй ніжэйшым разрадам рымскага, як самабытным саслоўем… яно ўвяло замест старажытных грэчаскіх абрадаў — большую частку рымскіх, замест выразнага для народа богаслужэння — ціха чытаныя мшы… Засталася адзінаю амаль вызначальнаю рысаю славянская мова, у богаслужэнні ўжываемая — але і гэтая пастаўленая з рымлян святарамі, а нават прыроднымі ўніятамі штодзённа скажаецца і неахвотна выкарыстоўваецца — у павучанні народа па большай частцы ўжываецца польская мова, для яго незразумелая; а нават чуў, што па многіх месцах вучаць яго самым важным малітвам на гэтай мове». Каб прыцягнуць увагу да праблемы, І. Сямашка прадракае: «Мо даволі аднаго спрыяльнага выпадку, і паўтара мільёна рускіх па крыві і мове сваёй (г. зн. беларусаў. — *Л. Л.*) адчужанымі будуць ад старэйшых

сваіх братоў»[1]. Хто разумеўся пад «старэйшымі братамі», думаецца, чытачу вядома і без маіх тлумачэнняў.

Магчыма, дзесьці І. Сямашка і перабольшыў ступень паланізацыі ўніяцкай царквы (асабліва ў сцвярджэнні, што і тут у час пропаведзяў польская мова пераважала над беларускай), з мэтай паскорыць прыняцце адміністрацыйных захадаў па далучэнні яе вернікаў да праваслаўя. Аднак пагроза страты імі сваёй беларускасці і сапраўды з кожным годам павялічвалася. Цяпер ужо беларуская мова, мясцовыя народныя звычаі, праваслаўныя абрады займалі зусім не тое месца ва ўніяцкай царкве, як гэта было да далучэння нашага краю да Расіі. Але ж І. Сямашка замест таго, каб заняцца адраджэннем беларускага элемента ва ўніяцкім набажэнстве, вяртаннем статусу нацыянальнай гэтай царкве, найперш заклапочаны, як зліць яе вернікаў з праваслаўем, практычна цалкам пабудаваным на рускіх пачатках, г. зн. хацеў уніятаў выгнаць з агню ды ў полымя. Гэта, на яго думку, і не такая ўжо і складаная справа: «…варта іх толькі аддаліць некалькі ад рымлян… варта даць пры дапамозе выхавання належны напрамак грамадскай думцы духавенства, якое займае 1500 уніяцкіх прыходаў… і народ лёгка пойдзе шляхамі, якія паказваюцца сваімі пастырамі. Няхай паспяшаецца добразычлівае начальства з правядзеннем да дзеяння адзіна да гэтага сапраўды разважліваю найвысачэйшаю воляю ўказанай меры — заснаваннем вучылішчаў для ўніяцкага духавенства».

Акцэнт І. Сямашкі на спецыяльныя вучылішчы для ўніятаў трэба прызнаць вельмі і вельмі слушным, бо без пераканання нельга схіліць чалавека прыняць душой і сэрцам тую ці іншую ідэю. Стварацць жа іх і па форме, і па змесце меркавалася паводле ўзораў рускіх праваслаўных вучылішчаў. Мала хто, як І. Сямашка, гэтак добра разумеў ролю рускай мовы ў размыванні менталітэту беларусаў і іх асіміляцыі ў рускім асяроддзі, што відаць з наступных яго слоў: «Нішто больш не збліжае людзей паміж сабой, як выкарыстанне ў супольным жыцці адной мовы, а таму і трэба ўвесці ва ўсіх духоўных вучылішчах выкладанне навук замест польскай на рускай мове — адразу або пастунова»[2].

---

[1] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі (1772–1903 гг.). — Т. ІІ. — Мінск, 1940. — С. 309, 310.

[2] Тамсама. — Т. ІІ. — С. 310.

І. Сямашка ўмела выкарыстаў для барацьбы з уніятамі ўдзел многіх з іх у паўстанні 1830–1831 гг. Не абмяжоўваючыся прапановамі чыста практычнага плана, ён, карыстаючыся сваімі магчымасцямі, узмацніў антыўніяцкую дзейнасць на тэарэтычным фронце, імкнучыся як мага больш зганьбіць гэтую веру, выклікаць да яе непавагу з боку вернікаў іншых канфесій. У датаванай 26 ліпеня 1832 г. запісцы аб становішчы ўніяцкай царквы пасля паўстання 1830 г. ён, насуперак праўдзе, сцвярджаў: «…Унія ніколі не мела ўласнай самастойнасці — гэта была толькі мера для перараджэння рускіх праваслаўных у рымлян-палякаў; і ўніяты ў дзвюхвяковай барацьбе гэтых наймагутных праціўнікаў прымушаны былі заўсёды пакарацца мацнейшаму». Зразумела, такую меру польскае каталіцкае духавенства ставіла, але ёй вельмі ўпарта і часта даволі паспяхова супраціўляліся ўніяты, якія ўсё ж не атаясамліваліся з палякамі, а найчасцей называлі сябе «ліцьвінамі» («літвінамі»). Гэта толькі тыя з праваслаўных, што напрамую прыйшлі ў каталіцкую веру, у большасці лічылі сябе палякамі. Уніяцтва ж, наадварот, дазваляла захоўваць сваю этнічную прыналежнасць. Калі б гэта было не так, міністр унутраных спраў Расіі Блудаў не пісаў бы І. Сямашку: «Гасудар імператар, у бацькоўскай клапатлівасці аб шчасці ўсіх верных яго падданых, звяртаючы сталую ўвагу і на асаблівае становішча ўніятаў, што знаходзяцца ў імперыі… заўсёды выказваў цвёрдую сваю волю, каб гэтая народнасць іх, якая не змянілася на працягу гэтакага доўгага часу (падкрэслена мною. — *Л. Л.*), была ва ўсіх адносінах ахоўваемай…» Як бачым, не змяніліся ж!

Праўда, куды цяжэй было ўніятам заставацца самімі сабой, калі яны яшчэ і з усходу, г. зн. з боку Рускай праваслаўнай царквы, адчулі ўціск, несправядлівасць да сябе. У такім становішчы яны і сапраўды маглі пацягнуцца да палякаў, з якімі мелі так шмат гадоў супольнага жыцця ў складзе Рэчы Паспалітай. Між іншым, гэта добра прадбачыў і І. Сямашка, пішучы: «…уніяцкая справа, пазбаўленая, з аднаго боку, апоры ў агульным поглядзе і садзеяння рускіх праваслаўных, а з другога, знаходзячыся пад самым магутным супрацьдзеяннем палякаў-рымлян, лёгка зноў можа пахіснуцца»[1].

Сваімі канкрэтнымі справамі па службе, антыўніяцкімі публікацыямі І. Сямашку ўдалося паўплываць на многіх высокіх асобаў, у тым ліку

[1] Дакументы і матэрыялы… — Т. II. — С. 311.

і на далучаных да кіравання дзяржаваю. Не без яго заслуг, як адзначалася вышэй, быў створаны спецыяльны сакрэтны Камітэт па ўніяцкіх справах. З сакрэтнага паведамлення міністра ўнутраных спраў Блудава І. Сямашку ад 29 мая 1835 г. вынікае, што галоўнай функцыяй дадзенага Камітэта з'яўлялася абарона ўніятаў ад польска-рымскага ўплыву і ўсё большая інтэграцыя іх у праваслаўе. Прадбачачы, што такая інтэграцыя магла выклікаць супрацьдзеянне, і вырашылі стварыць асобы Камітэт, у дзейнасці якога актыўны ўдзел браў І. Сямашка. Ад грэка-расійскай царквы ў яго ўвайшлі мітрапаліт Ноўгарадскі Серафім, мітрапаліт Маскоўскі Філарэт і архіепіскап Цвярскі Грыгорый, ад грэка-ўніяцкай — мітрапаліт Ясафат Булгак, ад свецкіх дзяржаўных саноўнікаў — міністр унутраных спраў Блудаў, генерал ад інфантэрыі граф Талстой, правадзейны тайны саветнік князь Галіцын, статс-сакратар Танееў і сінадальны обер-пракурор Нячаеў. Ужо па асабовым складзе Камітэта можна меркаваць, якую вялікую ўвагу сам імператар Расіі аддаваў уніяцкаму пытанню.

Паколькі ўсе захады па вырашэнні ўніяцкай справы рабіліся на такім высокім дзяржаўна-рэлігійным узроўні, яны не маглі не быць заўважанымі польскім каталіцкім духавенствам і мясцовымі панамі рымскага веравызнання. На адпаведныя крокі і яны пайшлі, каб толькі не страціць свайго ўплыву на беларускіх уніятаў. У выніку сям-там становішча крайне абвастрылася і знаходзілася на валасок ад сур'ёзных канфліктаў. Нават не ўсе губернскія прадвадзіцелі дваранства падтрымлівалі палітыку Найсвяцейшага Сінода ў адносінах да ўніяцкай царквы. Што да мясцовых паноў каталіцкай веры, дык, паводле сцвярджэнняў І. Сямашкі, больш за палова іх знаходзілася ў апазіцыі да афіцыйнай палітыкі па ўніяцкім пытанні.

Відаць, не спадзеючыся, што некалі можна будзе істотна змяніць міжканфесійнае становішча шляхам ідэалагічнай апрацоўкі вернікаў, у высокіх колах свецкай і духоўнай уладаў вырашылі правесці далучэнне ўніятаў да праваслаўных чыста адміністрацыйным парадкам. Гэта ўжо добра вынікае са зместу складзенага 26 студзеня 1839 г. Камітэтам палажэння аб мерапрыемствах па ліквідацыі уніі. Не выключаючы «супрацьдзеянняў як з боку паноў, так і з боку рымскага духавенства» на далучэнне ўніятаў, прапаноўвалася забяспечыць генерал-губернатараў «інструкцыяй і асобым паўнамоцтвам, з дапамогаю якога самыя нязначныя беспарадкі, калі б яны і здарыліся раптам

у некалькіх месцах, былі б неадкладна спынены ў самым іх пачатку». У Палажэнні не выключалася і магчымасць звароту па дапамогу да вайскоўцаў, таму ў адным з яго пунктаў гаварылася: «Генерал-губернатарам павінна быць дадзена звязацца з ваенным міністрам аб змяшчэнні для належнай перасцярогі пад добрапрыстойнай падставай войскаў у тыя паветы, якія знаходзяцца ў падазроным становішчы, і з тым разам назіраць, каб гэтыя без неабходнасці не ставіліся ў вёскі, населеныя ўніятамі».

У мэтах не дапусціць масавыя пратэсты з боку ўніяцкіх свяшчэннікаў аўтары Палажэння лічылі патрэбным усяляк ісці ім насустрач, калі толькі гэта асабліва не будзе пярэчыць на першым часе інтарэсам праваслаўнай царквы. Таму ў Палажэнні вырашылі запісаць наступнае: «Паколькі большая частка ўніяцкіх святароў дала падпіскі аб гатоўнасці сваёй далучыцца да праваслаўя з умовай, што ім дазволена было застацца пры мясцовых звычаях сваіх, не супярэчных праваслаўю, а, з другога боку, хуткае змяненне такіх, як галенне барады і нашэнне цяперашняга плацця, пазбавіла б іх уплыву на народ, дык трэба засведчыць, што не будзе патрабавацца змянення былых, вякамі ўсталяваных звычаяў.

Такое засведчанне ад найвысачэйшай улады зручней паведаміць сакрэтнымі адносінамі гр.-уніяцкім епіскапам, каб яны прад’явілі гэта святарам разам з абвяшчэннем ім сінодскага ўказа».

Зразумела, не ўсіх уніяцкіх святароў мог задаволіць і такі памяркоўны тон Палажэння. Сярод іх мелася нямала цвёрдых прыхільнікаў веры бацькоў і дзядоў. Таму давялося зафіксаваць і такое ў Палажэнні: «Калі духоўныя акажуць супраціўленне начальству, дык іх можна пераводзіць альбо ва ўніяцкія манастыры паўднёвых губерняў, абкружаных праваслаўнымі прыходамі, альбо праваслаўныя манастыры велікарускіх губерняў».

Напярэдадні аб’яднання ўніятаў з праваслаўнымі ўсё большы страх агортваў каталіцкае духавенства, бо вельмі ж не хацелася траціць па многіх параметрах блізкіх яму грэка-католікаў, хаця ў мінулым далёка не ўсё ў іх дачыненнях вызначалася справядлівасцю. Каталіцкую царкву ва ўсім падтрымлівалі памешчыкі і мясцовыя цывільныя чыноўнікі лацінскага веравызнання, імкнучыся ўтрымаць уніятаў у іх веры, а тых, хто ўжо перайшоў у праваслаўе, перацягнуць у каталіцтва. У такіх умовах у некаторых уніяцкіх святароў на нейкі

час нават з'явілася надзея выстаяць супраць палітыкі Сінода і цара на зліццё з праваслаўнымі. Але яна не спраўдзілася, бо ў лістападзе 1838 г., як піша епіскап І. Сямашка, выйшаў найвысачэйшы ўказ, каб непаслухмяных святроў накіроўваць у вялікарасійскія манастыры. Каб спыніць далейшае паглыбленне канфліктнай сітуацыі, І. Сямашка ў сваёй запісцы ад 1 снежня 1838 г. просіць урад прыступіць да самых рашучых дзеянняў па ўз'яднанні ўніятаў з праваслаўнымі. І свецкія ўлады не супраціўляліся гэтаму, наадварот, усяляк садзейнічалі скасаванню Берасцейскай царкоўнай уніі. Яе гісторыя адлічвала апошнія месяцы і дні.

У І. Сямашкі ніколі не было недахопу ў аднадумцах з ліку ўніяцкіх духоўнікаў адносна зліцця грэка-рымскай і праваслаўнай цэркваў праз прыняцце адпаведных адміністрацыйных захадаў. Маючы надзейную апору ў асяроддзі ўніяцкіх біскупаў, ён нікольні не сумняваўся, што ад іх вельмі лёгка ўдасца дамагчыся згоды на скасаванне ўніяцкай царквы. Так яно і адбылося. Але, бадай, найбольшую ўпэўненасць у перамозе выклікалі ў І. Сямашкі тыя крокі, якія рабілі самыя высокія органы дзяржаўнай улады па развязванні дадзенага пытання. А ўзяліся яны за гэта надзвычай рашуча і капітальна. Спецыяльна створаны сакрэтны Камітэт па ўніяцкіх справах даў дырэктывы і духоўнаму, і грамадзянскаму начальству, у адпаведнасці з якімі «апошняе павінна было папярэдзіць памешчыкаў, што ўсялякая спроба з іх боку да супраціўлення і агітацыі супроць маючага адбыцца акта (скасавання уніі. — Л. Л.) пацягне за сабой высылку і нават канфіскацыю маёнткаў; у распараджэнне губернатараў былі пасланы казацкія атрады, расквартараваныя ў Полацку, дзе павінен адбыцца сабор»[1]. Таму няма аніякага дзіва ў тым, што, перапужаныя гэтымі акцыямі грамадзянскага начальства і моцна падлеглыя ўладзе Найсвяцейшага Сінода, 25 прадстаўнікоў вышэйшых структур уніяцкага духавенства, якія з'ехаліся ў Полацк, без усялякага супраціўлення падпісалі 12 лютага 1839 г. «Саборны акт аб уз'яднанні». Уніяцкім іерархам не давялося ламаць галаву над складаннем яго тэксту. Пра гэта загадзя паклапаціўся згаданы вышэй сакрэтны Камітэт.

Змест гэтага дакумента ад пачатку і да канца быў прасякнуты вернападданіцтвам і да кіраўніцтва Рускай праваслаўнай царквы, і да

[1] Никольский М. М. История русской церкви. — С. 294.

імператара Расіі, чаму ніхто не адважыўся працівіцца. Па ўсім відаць, што ўся праведзеная ў папярэднія гады праца з духоўнікамі ўніяцкай царквы з мэтай яе далучэння да праваслаўнай не была марнай. Ва ўнісон з палітыкамі Расіі, вучонымі афіцыйнага толку аўтары Акта таксама заяўлялі, што «продкі нашы, па мове і паходжанні, заўжды складалі непадзельную частку Рускага народа»[1]. Проста не верыцца, што сярод падпісантаў Акта не мелася асобаў, якія не ведалі, што ўжо ў сярэднявеччы істотна адрозніваліся паміж сабой дзяржаўныя мовы Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскага княства, што іх асноўнае, карэннае насельніцтва ў дачыненні да самога сябе карысталася зусім рознымі этнонімамі. Інакш, як маткаю, не называецца ў гэтым дакуменце Расія, хаця многімі пад той час памяталася, якім шляхам былі прыдбаны ёю беларускія землі, як жорстка распраўлялася яна з тымі, хто падаваў голас у абарону нацыянальных інтарэсаў іх жыхароў.

У той жа дзень Іосіф Сямашка разам з епіскапамі Аршанскім Васілём і Берасцейскім Антоніем падпісалі вельмі падобнае па змесце да «Сабornага акта аб уз'яднанні» прашэнне на імя расійскага імператара аб дазволе ўніятам «далучыцца да іх прабацькоўскай Праваслаўнай Усерасійскай царквы». Да прашэння былі прыкладзены яшчэ 1305 подпісаў асобаў астатняга грэка-ўніяцкага духавенства[2].

Сярод тых, хто паставіў свой подпіс пад «Саборным актам…», было нямала добра вядомых, аўтарытэтных ва ўніяцкім свеце людзей. Засведчыў сваю згоду на ўз'яднанне і сын грэка-ўніяцкага святара, рэктар Жыровіцкай духоўнай семінарыі Антоній Зубко. Сваю прыхільнасць да гэтай ідэі ён выказваў яшчэ раней, калі ў сане протаіерэя браў удзел у пасяджэннях рымска-каталіцкай калегіі па ўніяцкім аддзяленні ў Пецярбургу. Трошкі пачакаўшы, Найсвяцейшы Сінод усё гэта добра ўлічыць і прызначыць Антонія Зубко ў 1840 г. епіскапам мінскім і бабруйскім. Яму належыць твор «Аб грэка-ўніяцкай царкве ў Заходнім краі». Не ўсведамлялі сваёй віны перад вернікамі таксама ўніяцкія біскупы Езафат Жарскі, Васіль Лужынскі, подпісы якіх стаяць пад дакументам аб скасаванні Берасцейскай царкоўнай уніі. Як справядліва пісаў ксёндз Адам Станкевіч, «было ім ужо ўсё роўна, каму служыць — ці польскаму магнату, ці расейскаму цару.

---

[1] Акты… — Т. XVI. — С. 138.

[2] Тамсама. — С. 141.

Важным было ім служыць таму, дзе пахвалы, сіла, слава, адзначэньні, кар’ера!..»[1] У Рускай праваслаўнай царквы, расійскіх органаў улады ўсяго гэтага было значна болей, чым у польскага каталіцкага касцёла. Апошняга нібыта сам Бог пакараў за яго традыцыйна варожую палітыку ў дачыненні да беларускай уніяцкай царквы, бо, каб яе кіраўнікі не былі так моцна спольшчанымі, яны так лёгка не пайшлі б на ўгаворы Найсвяцейшага Сінода скасаваць царкоўную унію.

Рэнегаты ўніяцтва святкавалі перамогу, найбольшы ўклад у дасягненне якой, як адзначалася вышэй, унёс І. Сямашка. Ён быў галоўнай асобай з тых грэка-ўніяцкіх біскупаў, што падпісалі «Саборны акт аб уз’яднанні» ўніятаў з праваслаўнай царквой. Паводле трапнай характарыстыкі А. Бялецкага, Іосіф Сямашка — гэта «першы сур’ёзны абрусіцель заходняга краю, у самым высокім, шляхетным значэнні гэтага слова»[2].

Добра ведаючы пра надзвычай істотнае размыванне этнічнай самасвядомасці беларусаў у выніку такой працяглай паланізацыі, высокія ўніяцкія духоўнікі нават і не падумалі ім у чымсьці дапамагчы. Насуперак рэальным фактам яны пераконвалі сваіх вернікаў у тым, што спрадвеку ў іх культуры, мове, звычаях усё было агульнае з рускім народам. У гісторыі ўсялякае здараецца. Час жа складання акта — XIX ст., таму, на маю думку, важным было гаварыць не толькі аб сівой мінуўшчыне, а і аб тым, як стварыць рэальныя перадумовы для адраджэння так моцна зняважаных у выніку паланізацыі беларускіх духоўных традыцый. Пра іх цяпер ужо ніхто не думаў. Кіраўнікі ж Рускай праваслаўнай царквы ставілі сабе ў вялікую заслугу, што літаральна ад першых дзён скасавання уніі пачалося развіццё рускага жыцця сярод яе былых вернікаў на асновах праваслаўя і заснаванай у імперыі сістэмы асветы.

Падпісаны ў Полацку акт з вялікай лёгкасцю, даволі хутка прайшоў сваё зацвярджэнне ў высокіх інстанцыях царскай улады. 1 сакавіка цар Мікалай I сваім указам Найсвяцейшаму Сіноду даручыў апошняму разгледзець дадзенае пытанне і прыняць па ім адпаведную пастанову, што і было выканана 23 сакавіка. Яно было вырашана станоўча. Калі

---

[1] Спадчына. — 1992. — № 1. — С. 65.

[2] Белецкий А., Иосиф М. Литовский, как первый поборник русских интересов в Северо-Западном крае // Виленский Календарь. — 1886. — С. 218.

аб гэтым імператар атрымаў складзены 23 сакавіка Усепадданейшы Сінадальны даклад, ён зрабіў такі лаканічны запіс «Дзякую Богу і прымаю». Пасля ўсяго гэтага Найсвяцейшы Сінод 30 сакавіка прыняў «Сінадальную грамату да ўз'яднаных епіскапаў і духавенства», у якой выказвалася вялікая падзяка ім за старанні быць разам з Рускай праваслаўнай царквою. Заяўлялася, што дадзеная акцыя «павінна скласці векапомны прыклад у Царкоўных летапісах»[1]. У гэты ж дзень грамату Найсвяцейшага Сінода падпісаў Мікалай І, чым юрыдычна было завершана аб'яднанне ўніяцкай царквы Беларусі з Рускай праваслаўнай царквою.

Аднак адразу аб'явіць пра яго ўніятам пабаяліся. Хто як умеў, той так і рыхтаваў іх да такіх крутых перамен у рэлігійным жыцці. Адзінае, што можна ўпэўнена сказаць: людзям ён не прынёс аніякай радасці, пра якую пазней, насуперак праўдзе, будуць вельмі ахвотна заяўляць праваслаўныя свяшчэннікі. Нават вялікі прыхільнік праваслаўя Г. Кіпрыяновіч пісаў, што «простыя людзі сустрэлі маўчаннем вестку аб сконе папства» (уніяцкая царква падпарадкоўвалася рымскаму папу. — *Л. Л.*), не разумелі адрозненняў паміж рымскаю і праваслаўнаю цэрквамі. У адзнацы гэтай падзеі папам Георгіем XVI, што яна перасягнула ўсе бядоты, якія перажыла царква, мо больш праўды, чым у высечаных на адвароце медаля ў гонар уз'яднання праваслаўных з уніятамі словах: «Торжество православия». Амаль праз два дзесяцігоддзі пасля скону уніі рускі дэмакрат А. Герцэн у газеце «Колокол» (1858) напіша, што Мікалай І «всекал униат в православие». Калі глянуць аб'ектыўна на ход рэчаў, тут у самы пярэдадзень і ў час падпісання Акта панавалі не ўрачыстасць і справядлівасць, а сіла, хітрасць і інтрыгі, ад якіх не адмаўляліся і пасля скасавання Берасцейскай царкоўнай уніі. Сама ж гэтая акцыя была не чым іншым, як вынікам сумеснай, узгодненай дзейнасці царкоўнай і свецкай уладаў Расійскай імперыі, якія не мелі паміж сабой разыходжанняў у правядзенні русіфікацыі Беларускага краю, якая пасля задушэння паўстання 1830–1831 гг. ужо стала афіцыйнай палітыкай, дзеля правядзення якой у жыццё старанна працавала і Руская праваслаўная царква. Усяму гэтаму на пачатку XX ст. даў вельмі трапную характарыстыку адзін з выдатных змагароў за Беларускае нацыянальнае Адраджэнне Вацлаў Ластоўскі: «Даўней

---

[1] Акты… — Т. XVI. — С. 142–145.

многа было сярод беларусаў уніятаў, якія прынялі царкоўную еднасць, але царкоўную унію збурыў Маскоўскі ўрад, хочучы абмаскаліць беларусаў».

Ліквідацыю ўніяцтва ні пры якіх акалічнасцях ніяк нельга разглядаць толькі з канфесійных пазіцый, бо ў ёй свецкага было не менш, чым духоўнага, чаго не маглі не прызнаваць і некаторыя дарэвалюцыйныя рускія гісторыкі рэлігіі. Наконт гэтага ёсць вельмі слушныя меркаванні ў протаіерэя Г. Шавельскага: «…барацьба, якая вялася ў гэтым краі (Паўночна-Заходнім. — *Л. Л.*) на працягу некалькіх стагоддзяў паміж праваслаўем і каталіцызмам, да апошняга часу непаспяховая для першага, не была толькі спаборніцтвам паміж двума веравызнаннямі, яна не менш датычыла дзвюх народнасцяў — рускай (натуральна, да яе Г. Шавельскі адносіў і беларусаў. — *Л. Л.*) і польскай, а ўз’яднанне 1839 года, што вырвала з рук каталіцкай царквы асуджаных на акаталічэнне, а значыцца і на апалячванне больш за 1 1/2 мільёна рускіх уніятаў, было ўдарам не толькі для каталіцкай царквы, але і для нацыі польскай»[1]. І сапраўды, пазіцыі палякаў у нашым краі значна аслабелі пасля таго, як з-пад іх уплыву вырвалі і далучылі да праваслаўя абсалютную большасць уніятаў.

## § 8. ЦЯЖКІЯ ПАСЛЕДКІ ДЭУНІЗАЦЫІ

Тое, што адбылося ў 1839 г. у лёсе велізарнай колькасці беларусаў, ніяк не назавеш шараговай падзеяй. Ні ў якім разе нельга адносіць яе і да катэгорыі радасных. Наша зямля яшчэ не ведала такога буйнамаштабнага і кароткага па часе пераходу (у абсалютнай большасці выпадкаў прымусовага) людзей з адной веры ў другую. Некалі, каб навярнуць язычнікаў у хрысціянскую веру, не хапіла і цэлага стагоддзя. Жаданне прыхаджан-уніятаў далучыцца да праваслаўя зусім не лічылася абавязковай умовай, што не магло не парадзіць сярод іх масавага незадавальнення. Нямала з тых, хто не жадаў прыняць ні праваслаўя, ні каталіцызму, з болем у сэрцы пакідаў Бацькаўшчыну

---

[1] Шавельский Г. Последнее воссоединение с православною церковью униатов Белорусской епархии (1833–1839 гг.). — СПб., 1910. — С. 380.

і эміграваў у розныя краіны свету. Некаторыя сяляне-ўніяты з самай заходняй часткі Беларусі дабраліся нават да Бразіліі.

Забароненае Найсвяцейшым Сінодам уніяцтва для многіх яго вернікаў стала пасля гэтага нават яшчэ больш дарагім і блізкім. Аляксандр Герцэн яшчэ ў 27-м нумары газеты «Колокол» за 1858 г. прыводзіць факты пасылкі ў гэтым годзе віленскім генерал-губернатарам У. Назімавым войскаў для дапамогі праваслаўнаму духавенству схіліць у лона сваёй царквы незгаворлівых уніятаў. Дух уніяцтва і надалей працягваў жыць, асабліва ў тых мясцінах, куды цяжка было дайсці праваслаўю, царскім чыноўнікам. Згодна з даследаваннямі рускага географа і этнографа Аляксандра Рыціха, грэка-ўніяцкая рэлігія захоўвалася на пачатку другой паловы XIX ст. і ў Аўгустоўскай губерні Царства Польскага, хаця тут панавала каталіцтва, якое традыцыйна з непавагай ставілася да ўніятаў.

Пакуль у Беларусі існавала ўніяцтва, царскай уладзе вельмі цяжка было, выкарыстоўваючы рэлігійны фактар, раскалоць яе народ з мэтай яго поўнага падпарадкавання. З праваслаўнымі радавыя ўніяты лёгка ішлі на збліжэнне і прымірэнне дзякуючы агульнаму як для першых, так і другіх усходняму царкоўнаму абраду, а з каталікамі іх яднала падначаленне адзінаму ў Рыме папу. Са скасаваннем у 1839 г. Берасцейскай царкоўнай уніі беларусы ў канфесійным плане — гэта амаль што толькі праваслаўныя і каталікі, за спінай якіх стаялі два буйныя народы — рускі і польскі — з традыцыйна ўсталяванай паміж імі варожасцю. Натуральна, беларусы-праваслаўныя пачалі цяпер усё больш і больш арыентавацца на Расію, а беларусы-каталікі — на Польшчу, што вяло да раз’ядноўвання адзінага беларускага народа, у шэрагу выпадкаў стварала нават канфліктныя сітуацыі. І калі справа не дайшла да рукапашнай схваткі, дык толькі таму, што ў яго хапіла розуму, вытрымкі не давесці самога сябе да кровапраліцця. Адным з першых звярнуў увагу на такую акалічнасць Ян Станкевіч, пішучы: «Беларусы, на думку маскоўскага ўраду, павінны былі стацца разьдзеленымі на два непрыяцельскія табары, янычарамі, якія, б’ючыся паміж сабою, мусілі самі сябе зьніштожыць»[1].

У выніку ліквідацыі ўніяцкай царквы наш народ стаў яшчэ больш раз’яднаным у рэлігійным плане. У вялікай роспачы сотні тысяч

---

[1] Спадчына. — 1992. — № 4. — С. 82.

беларусаў-уніятаў, каб як мага больш дапячы рускаму праваслаўнаму духавенству за такую акцыю, кінуліся ў абдымкі да каталіцызму, з якім яны да гэтага бесперастанку ваявалі, бо не жадалі здраджваць уніяцкай царкве, стаць лёгкай здабычай паланізацыі. Цяпер жа яны вымушаны былі самі ісці ў палон да каталіцызму. Нягледзячы на аднаабраднасць грэка-католікаў з праваслаўнымі, адкрыты прымус з боку маскоўскага ўрада, усё ж значная частка з першых пераходзіла ў лацінства. Бадай, ніколі яшчэ так хутка не расла колькасць беларусаў-католікаў, як пасля скасавання Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 г. Сёй-той з высокіх прадстаўнікоў рускага праваслаўнага духавенства разумеў усю згубнасць прынятага ў 1839 г. царкоўнага акта, але не пярэчыў і строга выконваў волю Найсвяцейшага Сінода, мала ці зусім не задумваючыся над тым, як гэта адбіваецца на настроі велізарнай масы людзей. А ён жа быў вельмі азмрочаным.

Каб найлепш усвядоміць трагізм уніятаў, адданых рэлігіі сваіх бацькоў, давайце хоць на хвіліну ўявім сабе, як невыносна цяжка пачувалася многім з тых, хто з прычыны патрабаванняў колішняга веравызнання не меў ужо цяпер магчымасці паводле здаўна ўсталяваных традыцый ахрысціць дзяцей ці стаць пад вянец у храме, пахаваць каго-небудзь з членаў сям'і і г.д. Пераканаўчым доказам моцнай далучанасці беларусаў да ўніяцкай царквы з'яўляецца тое, што дзясяткі тысяч з іх добраахвотна выбралі эміграцыю ў чужыя, нават і далёкія па адлегласці краіны, замест таго, каб прыняць праваслаўную ці каталіцкую веры. Але як бы цяжка ні было рабіць выбар паміж імі, рана ці позна былым уніятам давялося ўсё ж вызначыцца. Без веры ў Бога людзі ў той час не маглі жыць.

Так адзіны беларускі этнас не па сваёй волі, а ў выніку адміністрацыйнага скасавання яго рэлігіі стаўся падзеленым у канфесійным плане на дзве часткі: праваслаўных (большая) і католікаў (меншая). Разумныя людзі вельмі хутка ўсвядомілі ўсю трагедыю такога канфесійнага падзелу беларусаў і сталі настойліва заклікаць іх не парываць канчаткова з уніяцтвам, імкнуцца да таго, каб мець, як рускія і палякі, сваю ўласную нацыянальную рэлігію. На царкоўную унію як сродак паглыблення этнічнай кансалідацыі, пераадолення рэлігійнага расколу беларускага народа глядзеў кіраўнік паўстання 1863–1864 гг. Кастусь Каліноўскі. Ёй шмат месца было прысвечана ў шостым нумары газеты «Мужыцкая праўда». Паводле меркаванняў правадыра

паўстання ва ўмовах Беларусі найбольш паспяхова з функцыяй нацыянальнай царквы можа спраўляцца толькі ўніяцкая. І з гэтым ніяк нельга не пагадзіцца, бо ў той час праваслаўная царква Беларусі ва ўсім залежала ад Найсвяцейшага Сінода Расіі, а каталіцкая — ад польскага духавенства, таму ў іх намерах анічога добрага не мелася ў дачыненні да беларускай ідэі. Невыпадкова адмена забароны ўніяцкай царквы ў Беларусі — адно з найважнейшых патрабаванняў шэрагу праграмных дакументаў, выпрацаваных напярэдадні паўстання 1863–1864 гг. І ў адным з польскіх патрыятычных гімнаў «Божа, які Польшчу…», перакладзеных лацінкай на беларускую мову, меліся «куплеты, прысвечаныя барацьбе беларусаў-уніятаў супраць гвалтоўнага пераводу іх у праваслаўе»[1].

Добрая частка ўніяцкіх святароў, чые цэрквы сталі праваслаўнымі, імкнуліся знайсці службу ўсё ж не ў гэтай канфесіі, а ў каталіцкай. Іх прыход сюды ў пэўнай ступені тлумачыць, чаму ксяндзы, а не папы прымкнулі да паўстанцкага руху ў 1863–1864 гг. Апошнія, як вядома, нават дапамагалі рускім войскам вылоўліваць паўстанцаў, што хаваліся ў лясах, заклікалі ў час малебнаў сваіх вернікаў не далучацца да атрадаў Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў. Дарэчы, першым, каго ў Вільні публічна пакаралі смерцю за ўдзел у паўстанні, быў вікарны ксёндз з Лідскага павета Станіслаў Ішора. Праз два дні такі лёс напаткаў ксяндза Раймонда Зямацкага[2].

Знаходзячыся ў апазіцыі да паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, некаторыя папы пакідалі свае прыходы і падаваліся на ўсход. Такую нагоду многа дзе выкарысталі для таго, каб аднавіць у хрысціянскіх храмах уніяцкае набажэнства. З гэтым настроем народных мас даводзілася лічыцца і кіраўнікам паўстання 1863–1864 гг., таму ў шэрагу выпрацаваных тады дакументаў гаварылася аб адмене праведзенай па волі Найсвяцейшага Сінода ў 1839 г. забароны ўніяцкай царквы.

Вялікую павагу да сябе выклікаюць нашыя продкі тым, што ў той надзвычай складаны час, калі іх лёсам распараджаліся, зыходзячы з уласных інтарэсаў, чужыя народы, у нас не ўзнікла братазабойчая барацьба. Дарэвалюцыйныя рускія гісторыкі занадта ўжо перабольшвалі сутычкі паміж уніятамі і праваслаўнымі, стараючыся гэтым апраўдаць

---

[1] Беларускі гістарычны часопіс. — 1993. — № 3. — С. 51.

[2] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. — Т. 2. — С. 523, 524.

валявы акт па гвалтоўным адлучэнні першых ад сваёй веры. І ў час падпісання ў 1596 г. Берасцейскай царкоўнай уніі, і ў час скасавання яе ў 1839 г. беларусы паводзілі сябе як цывілізаваны народ, не аддаўшы ў ахвяру канфесійнаму фактару свае нацыянальныя вартасці, што мелі вялікую і багатую гісторыю.

Распачатыя ў Беларусі перамены на рэлігійнай глебе адразу выявілі востры колькасны недахоп featured розныга роду духоўных чыноўнікаў, якім належала праводзіць тут лінію Найсвяцейшага Сінода. «Дапамога» не прымусіла сябе доўга чакаць. Прысланыя ў Беларусь з цэнтральных губерняў Расіі праваслаўныя святары з такой напорыстасцю цягнулі ў сваю веру ўніятаў, з якой некалі нават езуіты не праводзілі ў нас палітыку рымскага папы. Тады многія з іх, як вядома, прыходзілі з місіянерскімі мэтамі ў чужыя краі, толькі папярэдне вывучыўшы мовы, атрымаўшы хоць элементарныя ўяўленні аб культуры іх карэннага насельніцтва. Менавіта такі падыход часта быў найважнейшым фактарам паспяховага дасягнення пасланцамі Ватыкана сваёй мэты па хрысціянізацыі іншаверцаў. Праваслаўным жа свяшчэннікам для поспеху зусім неабавязкова было прыстасоўвацца да мясцовай нацыянальна-культурнай спецыфікі, бо місію сваю яны разлічвалі выканаць, абапіраючыся на ўсебаковую падтрымку афіцыйных уладаў Расійскай імперыі, паколькі ў пытаннях асіміляцыі вернікаў гэтага няшчаснага краю ў іх існавала поўная ўзгодненасць.

Магчыма, вынікі скасавання уніі не былі б такімі цяжкімі і трагічнымі, каб усё, што гаварылася вышэй, датычыла толькі перамен у канфесійным жыцці мільёнаў беларусаў. Справа ж далёка не абмежавалася гэтым. Тэрмінова выдалі царскі ўказ аб забароне ўжываць беларускую мову ў храмах, у масавым парадку сталі замяняць уніяцкія беларускамоўныя служэбнікі такой жа літаратурай маскоўскага выдання на рускай мове. Таму наш вядомы гісторык У. Ігнатоўскі меў рацыю пісаць: «Прымусовае скасаваньне вуніі з болем адбілася на народным сумленьні». Пры непасрэдным удзеле Іосіфа Сямашкі і яму падобных вынішчалася беларуская мова якраз з таго адзінага грамадскага месца — уніяцкіх цэркваў, дзе яна мела прытулак на працягу ўсяго перыяду існавання Рэчы Паспалітай і не адно дзесяцігоддзе пасля падзелу апошняй. І ўсё ж з ходу, адным махам нельга было адлучыць былых уніятаў ад беларускай мовы, на якой яны такі доўгі час гаварылі

з Богам. З іх любасцю да матчынага слова яшчэ не раз давядзецца палічыцца высокім духоўным і свецкім асобам царскай імперыі.

Цяжкасці з пераводам простых вернікаў-уніятаў у праваслаўе былі поўнай нечаканасцю для Найсвяцейшага Сінода. Памылка яго заключалася ў тым, што гэта даволі складаная справа распачалася да таго, як была падрыхтавана неабходная колькасць праваслаўных святароў з карэннага насельніцтва беларускіх губерняў, якія добра ведалі б яго культуру і мову. На прысланых з цэнтра папоў з іх падкрэслена чыстай рускай гаворкай уніяты-беларусы глядзелі як на чужых людзей, не давяралі ім. Калі ў храмах на чужой мове загучала малітва, вернікі з вялікім болем у грудзях прыгадвалі зусім недалёкі шчаслівы час, калі яны разам са сваім святаром звярталіся да Бога праз роднае, матчынае слова.

З неверагоднай цяжкасцю прапіхалася рускае слова ў тыя ўніяцкія цэрквы, у якія ў выніку розных абставін удалося некалі моцна ўтрываліць польскую мову. Для значнай часткі такіх храмаў зусім звычайнай з'явай было выкананне рэлігійных гімнаў і псалмоў выключна толькі на польскай мове, што супярэчыла духу палітыкі свецкіх і царкоўных уладаў Расійскай імперыі і таму не магло быць пакінутым па-за ўвагай. Гэта да такой ступені напалохала Іосіфа Сямашку, што ён, каб толькі непісьменнае ў рускай мове духавенства Літоўскай епархіі не вяло казанні і катэхізічныя размовы па-польску, дазволіў ужываць мясцовую рускую мову[1]. Такіх святароў стараліся як мага хутчэй забяспечыць узорнымі пропаведзямі на рускай мове. Праўда, у якасці часовага і вымушанага кроку ўсё ж давялося пайсці на пераклад на польскую мову праваслаўнага падрабязнага катэхізіса.

Пераймаючы вопыт польскіх каталіцкіх біскупаў у зніштажэнні ўсяго таго, што звязана з уніяцтвам, і рускія епіскапы пакінулі ў гэтым ганебны след. Прычым пракладваць яго пачалі даўно, у першыя дзесяцігоддзі пасля далучэння Беларусі да Расіі. Да болю шкада, што адукаваныя праваслаўныя духоўнікі праявілі сябе сапраўднымі рабаўнікамі ў дачыненні да рукапіснай і друкаванай спадчыны — у шэрагу месцаў досыць багатай — грэка-рымскіх храмаў. Зразумела,

[1] У дадзеным выпадку пад мясцовай рускай мовай патрэбна разумець беларускую. І. Сямашка, відаць, свядома пазбягаў называць яе сваім іменем, хаця ў яго сям-там сустракаецца выраз «беларуская мова».

што яшчэ ў большых маштабах глумілі ўніяцкія кнігі пасля скасавання царкоўнай уніі. З ініцыятывы і ўхвалы самога Іосіфа Сямашкі масавае спальванне рукапісаў і кніг былых уніяцкіх цэркваў і кляштараў распачалося яшчэ з 1841 г. І доўжылася гэтая варварская акцыя ажно да 1859 г., пакуль, як здавалася яе ініцыятарам, ужо не было чаго аддаваць агню. Па ўказанні праваслаўнага мітрапаліта Іосіфа Сямашкі для гэтай мэты спачатку выкарыстоўвалі ў Жыровічах манастырскія печы, але, паколькі такім спосабам вельмі марудна зніштажаліся кнігі, было вырашана паліць іх проста на вогнішчах на манастырскім пляцы.

Нядобрую ролю знішчальніка ўніяцкіх кніг давялося ўзяць на сябе Полацкай духоўнай кансісторыі, куды яны ў 30-я гады XIX ст. звозіліся з усёй велізарнай тэрыторыі Беларускай епархіі. На той час да апошняй адносіліся парафіі Віцебшчыны і Магілёўшчыны, Дзісненскага, Барысаўскага, Ігуменскага, Бабруйскага, Рэчыцкага і Мазырскага паветаў Міншчыны, Жытомірскага і Аўруцкага — Валыншчыны, Радамысльскага, Свірскага і Махноўскага — Кіеўшчыны, Зэльбургскага — Курляндшчыны і чатырох паветаў Херсоншчыны. З дастаўленых у Полацкую духоўную кансісторыю кніг ад агню маглі ўцалець толькі тыя, якія кінуліся ў вочы, чымсьці выклікалі да сябе цікавасць з боку полацка-віцебскіх архірэяў, якія бралі ўдзел у іх спальванні.

Не такі жахлівы лёс напаткаў літаратуру, што мелі ўніяцкія навучальныя ўстановы. На яе звычайна накладваўся арышт з тым, каб добра прыгледзецца і вызначыць, куды яна павінна быць вывезена. Пасля ліквідацыі Берасцейскай царкоўная уніі спыніла сваё існаванне і бібліятэка Полацкай уніяцкай семінарыі. Усяго тут налічвалася больш за 10 тыс. тамоў розных кніг, у тым ліку і старадрукаў. Новым гаспадаром самых каштоўных з іх стала Кіеўская духоўная акадэмія.

Каб у Беларусі заставалася як мага менш чаго-небудзь такога, што нагадвала б аб колішнім існаванні тут грэка-рымскай царквы, у 1845 г. вывозіцца ў Пецярбургскі Сінадальны архіў архіў уніяцкіх мітрапалітаў, у якім захоўвалася шмат каштоўных дакументаў. Сярод іх былі і такія, што датычылі 1470 г.

Моцна памыляліся тыя, хто лічыў, што можна знішчыць усе сляды ўніяцтва ў Беларусі. Яны ж з цяжкасцю змываліся толькі таму, што ў гэтай веры была надзейная падтрымка ў масах. На працягу многіх гадоў праваслаўнае духавенства страшэнна непакоіла наяўнасць у Беларусі вялікай колькасці ўніяцкіх служэбнікаў, адпраўнікаў, іншай

літаратуры. Як толькі не палілі іх, але пры праверках амаль заўсёды знаходзілі ў тайніках храмаў забароненую рэлігійную літаратуру. Выходзіць, што не ўсе былі знішчаны паводле неаднаразовых спецыяльных указанняў мітрапаліта Іосіфа Сямашкі. Святары, што прынялі праваслаўе, усё ж не хацелі развітвацца з дарагімі для іх душы і сэрца духоўнымі выданнямі, значная частка якіх друкавалася на роднай мове. Ведаючы пра ўсё гэта, І. Сямашка рэгулярна выклікаў да сябе ў Вільню тых свяшчэннікаў і благачынных, у каго ўдавалася знайсці ці якія падазраваліся, што захоўваюць у сябе ўніяцкія богаслужэбныя кнігі.

Ліквідацыя уніі, акрамя таго, што пазбавіла вернікаў іх ужо ў поўным сэнсе слова традыцыйнай рэлігіі, вельмі адмоўна адбілася на лёсе беларускай мовы, адкрыла шырокую прастору да руска-польскай асіміляцыі яе носьбітаў. Гэта вельмі трапна заўважыў Ян Станкевіч, пішучы: «Касуючы унію, расійскі ўрад адначасна забараніў ужываць беларускую мову ў каталіцкіх касьцёлах і праваслаўных цэрквах і гэтым маскалячы адных у праваслаўнай царкве, другіх аддаваў пад полёнізацыю польскай каталіцкай царкве, бо беларуская мова была забаронена. <…> Скасаваннем уніі і забаронаю ў касьцёлах і цэрквах беларускае мовы маскоўскі ўрад Мікалая І зрабіў над Беларускім Народам праступленьне, роўнага якому няма ў гісторыі Беларусі. Праступленьне гэнае навет шмат вялікшае за тое, якое было зроблена Маскалямі над Беларусамі ў 1915 г. перад наступленьнем немцаў, калі звыш мільёну беларускага насяленьня Горадзеншчыны, Віленшчыны і Меншчыны былі імі выгнаны ў далёкую маскоўскую чужыню, дзе ўміралі масамі ад голаду, сьцюжы й пошасьцяў…»[1]

Ліквідацыя ўніяцкай царквы прывяла і да павелічэння ў нас «імёнаў лацінскага тыпу, бо шмат якія вуніяты, баронячыся ад залічэння іх маскоўскай адміністрацыяй да праваслаўных, прыкідваліся рымскімі каталікамі і патай пераходзілі ў лацінства»[2]. У часы ж самага масавага распаўсюджвання ў нашым краі грэка-рымскай рэлігіі яе вернікі карысталіся даўніяцкімі імёнамі.

У дарэвалюцыйнай гістарычнай літаратуры і тым больш па праблемах рэлігіі ўнікалі пісаць пра ценявыя бакі прымусовага ўз'яднання

---

[1] Крывіч. — 1923. — № 2. — С. 33.

[2] Станкевіч Ян. Хрышчоныя йімёны вялікалітоўскія (беларускія) // Спадчына. — 1992. — № 6. — С. 98.

ўніятаў з праваслаўнымі, але што такое было, відаць, многія добра разумелі. Нездарма ж нават у кнізе Г. Кіпрыяновіча, прысвечанай жыццю Іосіфа Сямашкі і скасаванню уніі ў 1839 г., так было сказана пра асноўнага віноўніка гэтай падзеі: «…ніякія паасобныя цёмныя штрыхі не могуць азмрочыць агульнага бляску і велічы ствараемай намі асобы». Значыцца, цёмныя штрыхі былі, проста пра іх не хацелася гаварыць. Дый як ім не быць, калі ўжо па адным адмоўным стаўленні Іосіфа Сямашкі да беларускай мовы відаць, якую ён шкоду прычыніў этнічнай самасвядомасці, духоўнай культуры людзей нашага краю. І не толькі беларускай мове.

З мэтай давядзення русіфікацыі да лагічнага канца Руская праваслаўная царква вельмі добра пастаралася аб пашырэнні свайго ўплыву ў галіне народнай асветы. У русіфікацыі яе духоўнікі часта ішлі паперадзе мясцовай адміністрацыі. Так, калі ў 1857 г. па хадайніцтве міністра народнай асветы ў гімназіях Віленскай навучальнай акругі былі адноўлены ліквідаваныя ў 1839 г. кафедры польскай мовы, мітрапаліт Іосіф Сямашка ўсё зрабіў, каб не ўвесці яе нават у якасці паасобнага прадмета ў прыходскіх вучылішчах Віленскага генерал-губернатарства, таму што гэта, на яго думку, «затармазіла б рускі патрыятызм сярод нядаўна далучаных да праваслаўя».

Русіфікацыя навучэнцкай моладзі аказалася не такой ужо і лёгкай справай, але не з прычыны цвёрдага ўсведамлення беларусамі сваёй этнічнай прыналежнасці, а галоўным чынам з-за вялікага польскага каталіцкага ўплыву на настрой, паводзіны людзей нашага краю. Ці ж не пра гэта сведчыць факт, што ў 1864 г. з агульнай колькасці 390 начальнікаў і настаўнікаў навучальных устаноў Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў Міністэрства народнай асветы рускіх праваслаўных было толькі 113, а католікаў — 239.

Стан выхавання моладзі духоўных семінарый і вучылішчаў быў прадметам пастаяннай увагі і сумнавядомага ў Беларусі «вешальніка» М. Мураўёва. У час сустрэчы з вучнямі Літоўскай духоўнай семінарыі (11 красавіка 1864 г.) ён проста адкрыта ўпрошваў іх не гаварыць па-польску ні ў сваёй навучальнай установе, ні ў бацькоўскіх дамах. Пасля падаўлення паўстання 1863–1864 гг. яму ўдалося ўгаварыць імператара Расіі вывесці польскую мову з усіх навучальных устаноў, скрозь засноўваць толькі рускія школы, істотна абмежаваць прызначэнне палякаў на розныя адміністрацыйныя пасады ў Заходнім краі.

Трэба сказаць, што ў пытаннях мовы і датычна саміх духоўных асобаў праваслаўная царква была куды больш патрабавальная, чым гэта рабілася свецкімі ўстановамі, якія функцыянавалі на тэрыторыі Беларусі, у адносінах да сваіх чыноўнікаў. Сярод іх можна было пачуць і рускую, і польскую, і беларускую мовы, што якраз асуджалася ў дзейнасці і нават ва ўзаемаадносінах царкоўнікаў. Вядомы такі факт, што ў кастрычніку 1862 г. Іосіф Сямашка даручыў усім сваім благачынным паведаміць яму, у якіх былых уніяцкіх цэрквах свяшчэннаслужыцелі арганізуюць спевы па-польску. Ён быў вельмі незадаволены, што такіх асобаў і сапраўды шмат мелася, асабліва сярод прыходаў Драгічынскага, Скідзельскага, Шарашоўскага благачынняў. Не знайшло ў яго паразумення і тое, што ў некаторых цэрквах прыхаджане спяваюць некалі вывучаныя імі гімны на славянскай мове, набліжанай да простанароднай гаворкі. Калі ж разабрацца, дык у кіраўнікоў Рускай праваслаўнай царквы ў Беларусі не было важкіх падстаў патрабаваць, каб былыя ўніяцкія свяшчэннікі так хутка перайшлі на рускую мову. Сам жа Іосіф Сямашка прызнаваў, што ў выніку паланізацыі і акаталічвання насельніцтва заходнерускіх земляў «не толькі некаторыя асобы, пераважна адукаваныя, але цэлыя прыходы і акругі па розных мясцовасцях забыліся на свае штодзённыя малітвы і сталі ўжываць малітвы на польскай мове». Для таго, каб зрабіць такіх святароў здольнымі весці службу па-руску, патрэбны былі час і немалыя намаганні, з чым якраз і не жадалі лічыцца праваслаўныя русіфікатары.

Вось такімі «дабрачыннікамі» завіталі ў наш край рускія праваслаўныя папы. Іх зусім не цікавілі крэўныя інтарэсы беларусаў. Галоўнае — адарваць апошніх ад уніяцкай рэлігіі, якая за шмат гадоў ператваралася ў народную, нацыянальную, і распаўсюдзіць усялякімі праўдамі і няпраўдамі праваслаўе чыста рускага вялікадзяржаўнага ўзору. На практыцы зусім не сустракалася таго, што абяцалі грэка-католікам мітрапаліты Ноўгарадскі і Санкт-Пецярбургскі, Кіеўскі і Галіцкі, Маскоўскі і Каломенскі, а таксама іншыя высокія духоўныя чыны ў сваёй Сінадальнай грамаце ад 30 сакавіка 1839 г. да далучаных уніяцкіх епіскапаў і духавенства, што «да разнастайнасці ж некаторых мясцовых звычаяў, якія не датычаць догматаў і Таінстваў, мы пастанавілі паказаць Апостальскую ласку і да старадаўняй

аднастайнасці вяртаць іх праз свабоднае перакананне з лагоднасцю і доўгацярплівасцю»[1].

У нашай гістарычнай літаратуры вельмі часта ледзь не адзінай віноўніцай русіфікацыі Беларускага краю прызнаецца царская адміністрацыя, а праваслаўная царква паказваецца нібы нейкім неістотным даважкам да яе. Сярод канкрэтных асобаў русіфікацыі прыгадваецца галоўным чынам М. Мураўёў (з 1826 г. віцэ-губернатар у Віцебску, з 1828 г. — магілёўскі губернатар, з 1831 г. — гродзенскі губернатар, у 1831–1850 гг. мінскі ваенны губернатар, у 1863–1865 гг. — начальнік Паўночна-Заходняга краю), а мітрапаліт Іосіф Сямашка знаходзіцца дзесьці ў самых апошніх шэрагах русіфікатараў (дарэчы, у пяцітомнай «Гісторыі БССР» (1972–1975) яго прозвішча ўпамінаецца толькі ў сувязі са скліканнем у 1839 г. у Полацку царкоўнага сабора), хаця яшчэ больш за сто гадоў таму назад А. Бялецкі ў артыкуле «Иосиф, м. Литовский, как первый поборник русских интересов в С.-З. крае» назваў яго «першым сур'ёзным абрусіцелем Заходнерускага краю, у самым высокім і прыстойным значэнні гэтага слова». Пазней пра гэтага дзеяча на ніве Рускай праваслаўнай царквы будуць складаць сапраўдныя легенды. Прыклаў да іх руку і Г. Кіпрыяновіч, які пісаў: «…праасвяшчэнны Іосіф быў ініцыятарам і галоўным рухавіком уз'яднання (маецца на ўвазе ўз'яднанне праваслаўных з уніятамі. — *Л. Л.*), якога цвёрда і нязменна падтрымлівала ў яго планах і дзеяннях моцная рука імператара Мікалая І. Усе іншыя дзеячы былі толькі больш-менш стараннымі, больш-менш свядомымі выканаўцамі прадпісанняў Іосіфа — яго паплечнікамі». Затое ў вачах роднага брата Іосіфа Сямашкі Іаана зусім па-іншаму выглядаў гэты прарускай арыентацыі мітрапаліт. Вось дадзеная яму братам сцісла характарыстыка: «…пракляты: ён і сябе ўтапіў і народ загубіў».

Ёсць звесткі, што з цягам часу і мітрапаліт Іосіф Сямашка больш крытычна ставіўся да сваіх дзеянняў, заяўляў, што простаму народу былі дарагія звычаі уніі і ён прама не ўдзельнічаў ва ўз'яднанні з праваслаўем. Калі такое і сапраўды казаў самы вялікі віноўнік скасавання Берасцейскай царкоўнай уніі, дык гэта хоць у нейкай ступені змяншае яго адказнасць за прычыненае беларускаму народу зло.

---

[1] Акты… — Т. 16. — С. 149.

Страшэнныя, нерастлумачальныя з пункту гледжання чалавечай маралі ганенні на беларускіх уніятаў, распачатыя не кім іншым, як самой Рускай праваслаўнай царквой, выклікалі адмоўную рэакцыю і ў многіх прагрэсіўных прадстаўнікоў рускай інтэлігенцыі. Сярод іх быў і дробнабуржуазны рэвалюцыянер, адзін з заснавальнікаў і тэарэтыкаў анархізму Міхаіл Бакунін. Ён рэзка крытыкаваў рашэнні Полацкага сабору аб зліцці ўніяцкай царквы з праваслаўнай, сурова асуджаў жорсткія дзеянні біскупа І. Сямашкі за тое, што разам з царскай адміністрацыяй так настойліва праводзіў гвалтоўную русіфікацыю беларускага насельніцтва. «Юдам у Хрысце» назваў І. Сямашку Аляксандр Герцэн. Праўдзівыя ацэнкі М. Бакуніным і А. Герцэнам дзейнасці рэнегата ўніяцтва І. Сямашкі ў многім разыходзіліся з думкамі рускіх гісторыкаў праваслаўнай рэлігіі, кіраўнікоў кліру, асабліва тых, якія ў сваіх пісаннях і прамовах імкнуліся зрабіць яго недатыкальнай асобай, беспадстаўна заяўляючы, што «пры зніштажэнні рэшткаў старых уніяцкіх абрадаў і звычак Іосіф заўсёды захоўваў асцярожнасць» (Г. Кіпрыяновіч). Вышэй прыведзеныя мною факты якраз сведчаць аб адваротным.

У 70-я гады XIX ст. нарэшце прыйшла чарга і да пераводу ўніятаў у праваслаўе і на той тэрыторыі Польшчы, якая паводле ўмоваў падзелу Рэчы Паспалітай належала Прусіі. І тут ужываліся гвалтоўныя захады. За нежаданне перайсці ў праваслаўе бацька вядомага беларускага этнографа Мікалая Янчука Андрэй Янчук (стараста ўніяцкай царквы, украінец па паходжанні) з Канстанцінаўскага павета Сядлецкай губерні перанёс цялесную экзекуцыю і быў зняволены ў турму. Усе дзеці Андрэя Янчука прынялі каталіцкую, а Мікалай праваслаўную веру, а іх маці так і засталася нераскаянай уніяткай[1].

Каб апраўдаць свае дзеянні па прымусовым далучэнні беларускіх уніятаў да праваслаўя, яго духоўныя асобы вымушаны былі доўгі час ісці на самыя розныя захады дзеля ўтойвання праўды ад людзей, бо чуткі аб гвалтоўным характары такога царкоўнага акта перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Тут можна адзначыць і такі факт, як пабудова ў Віцебску ў 1889 г. Капліцы ў гонар 50-годдзя ўз’яднання ўніятаў з праваслаўем. Аднак рэгулярнае святкаванне юбілееў «уз’яднання» ўніятаў з праваслаўнымі вельмі мала садзейнічала адданасці першых

[1] Труды БГУ. — 1922. — № 2–3. — С. 277, 278.

да новай веры. Свой настрой перадавалі яны і малодшым пакаленням. Мала хто з прадстаўнікоў свецкага і духоўнага чыноўніцтва мог падумаць, што калі ў красавіку 1905 г. цар выдасць указ «Аб умацаванні пачаткаў верацярпімасці», дык у Беларусі ад Рускай праваслаўнай царквы да каталіцкай пяройдзе больш за 230 тыс. чалавек! Каб такое зрабілі на 50 гадоў раней, калі яшчэ ў жывых было шмат колішніх уніятаў, лічба 230 тыс. магла б быць перакрыта ў некалькі разоў. І не выклікае сумнення такі факт, што праваслаўныя беларусы пераходзілі ў каталіцызм не з-за павагі да яго, а хутчэй за ўсё з-за крыўды на Рускую праваслаўную царкву, што яна прымусовым скасаваннем Берасцейскай уніі пазбавіла іх сваёй нацыянальнай рэлігіі. Заставацца ёй верным можна было толькі ўпотай і найчасцей за ўсё ў адзіночку. Вядома, да прыкладу, што на рубяжы XIX–XX ст. маліўся ў сямейных умовах паводле ўніяцкага абраду бацька беларускага пісьменніка Максіма Гарэцкага Іван Гарэцкі.

Глыбока ўдумваючыся ў захаваныя ў архівах і вынесеныя на старонкі гістарычнай літаратуры матэрыялы аб жорсткай барацьбе ў Беларусі праваслаўя з мясцовай уніяцкай царквой, нельга не здзіўляцца бязлітаснасці адной хрысціянскай плыні ў дачыненні да другой. Здавалася б, чаму не жыць мірна і па-чалавечы, садзейнічаючы адна адной у духоўным абслугоўванні двух блізкароднасных народаў. Не ў прыклад заваёўнікам-татарам, яны і то вызвалялі на Русі ад падаткаў служыцеляў усіх рэлігій, акрамя яўрэйскіх равінаў, а вось Руская праваслаўная царква зусім не пераносіла ўніяцкую. З’явіўшыся на Русь у якасці заваёўнікаў, татары не сталі ворагамі праваслаўя, духоўных каштоўнасцей рускага народа, не кідалі ў полымя кастроў свяшчэнныя праваслаўныя рукапісы і кнігі, прадметы рэлігійнага культу, нікога з праваслаўных не імкнуліся гвалтам ці падманам схіліць у сваю веру. А ўсё ж гэта ў поўным аб’ёме зведалі на сабе беларускія ўніяты ад блізкай ім па абраднасці Рускай праваслаўнай царквы. Проста невытлумачальна, але факт застаецца фактам, што на працягу доўгага часу духоўныя і свецкія ўлады Расіі былі больш жорсткімі і несправядлівымі да ўніятаў, чым да католікаў і нават іх галоўнай апоры — езуітаў. У гэтым не быў выключэннем нават і хвалёны, еўрапейскага тыпу цар Петр I, які, учыніўшы разгром полацкіх уніятаў, пакінуў у поўным спакоі тамашніх езуітаў. Ад матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей уніяцтва засталіся толькі голыя будынкі храмаў. Унікальныя рэлігійныя

рукапісы і кнігі, што захоўваліся ў іх, пажэрла полымя кастроў. Мы нават уявіць не можам пра маштабы панесеных страт. Пазбаўлены ўсяго таго, што назапасіла ўніяцтва за час свайго існавання, беларускі народ стаў проста духоўным жабраком сярод некалі роўных яму суседніх народаў. І гэта зусім не згушчэнне фарбаў, бо ў сярэднявеччы царква была асноўным цэнтрам культуры і адукацыі. Беларусаў такога духоўнага цэнтра навечна пазбавілі. Пасля скасавання уніі ў іх не стала рэлігіі, якая такі доўгі час клапацілася пра яго нацыянальную культуру, шанавала яго родную мову. Варта сказаць, што на той час, магчыма, гэта быў проста ўнікальны выпадак на ўсю Еўропу, а мо і яшчэ на які-небудзь іншы кантынент зямнога шара. Пазбаўленаму сваёй нацыянальнай рэлігіі народу вельмі цяжка было пазбегнуць асіміляцыі, а не дык і поўнага этнічнага вымірання. Так што было б вялікай памылкай думаць, што Найсвяцейшы Сінод пайшоў у 1839 г. на ўз’яднанне праваслаўнай царквы з грэка-рымскай толькі з тым, каб зрабіць штосьці карыснае ўніятам. Галоўнае тут было распаўсюдзіць рускі дух у асяроддзі карэннага насельніцтва нашага краю з мэтай уключэння яго ў адзіны рускі этнас, не задумваючыся, што яно будзе ў аснове сваёй механічным. На ўз’яднанне дзвюх рэлігійных плыняў глядзелі, як на сродак, з дапамогай якога, напэўна ж, удасца інтэграваць два самабытныя народы ў адзіную этнічную супольнасць людзей. І трэба сказаць, што гэта была і не зусім ужо такая нязбытная мара. Пакуль у заходнерускіх губернях Расійскай імперыі існавала ўніяцкая царква, большасць яе вернікаў вызначала сваё этнічнае паходжанне, як ліцвіны, русіны, русічы, беларусцы, беларусы. Калі ж гэтых вернікаў перавялі ў праваслаўе рускага толку, дык і сапраўды сярод іх з цягам часу пачалі сустракацца асобы, што прызнавалі сябе ўжо за рускіх. На пачатку XX ст. іх было не так і мала, асабліва на ўсходзе Беларусі.

Магчыма, самым трагічным у скасаванні Берасцейскай царкоўнай уніі якраз і трэба прызнаць, што ад тае пары вельмі трывала ўсталявалася, значна пашырылася практыка дзяліць паводле канфесійнай прыкметы адзін і той жа этнас на дзве часткі: беларусаў праваслаўнай веры адносіць да рускіх, каталіцкай — да палякаў. Адсюль зусім заканамерна беларусы сталі ў больш значнай ступені, чым раней, яблыкам разладу, прычынай сваркі паміж рускімі і палякамі, бо кожны з іх хацеў як мага лепш разжыцца за кошт павальнай двухбаковай асіміляцыі даведзеных амаль да поўнага заняпаду, этнічнай смерці беларусаў.

І што характэрна, пры ўсёй ненавуковасці, грубай памылковасці выводзіць нацыянальнасць чалавека на падставе яго веравызнання, ад гэтай заганнай практыкі доўгі час не хацелі адмаўляцца носьбіты ці прыхільнікі як рускай, так і польскай культур. Грашылі гэтым нават даволі адукаваныя людзі, бо для інтарэсаў сваёй нацыі яны гатовыя былі пайсці на любое скажэнне ісціны, самы непрыхаваны прыгнёт ці поўнае этнічнае размыванне іншага народа. Вядома, што напярэдадні Першай сусветнай вайны ў асяроддзі некаторых прадстаўнікоў руса- і палонафілаў выношвалася пачварная думка: каб скончыць з векавымі спрэчкамі за авалодванне беларускім народам, «канчаткова вырашыць» нацыянальнае пытанне ў Паўночна-Заходнім краі, трэба ўсе два мільёны беларусаў-католікаў мэтанакіравана спаланізаваць, а ўсіх астатніх беларусаў праваслаўнай веры зрусіфікаваць. На шчасце, гэтыя антыгуманныя думкі выказваліся ў той час, калі на беларускай зямлі ўжо добра зарунеў рух за нацыянальнае вызваленне, калі барацьба за захаванне самабытнасці беларускага народа атрымала незваротны характар. Дзякуючы стараннем перадавой беларускай інтэлігенцыі, многія з беларусаў перасталі вызначаць сваю нацыянальнасць, толькі зыходзячы з канфесійнага фактару. Да мінімуму былі зведзены выпадкі непрыязнасці на рэлігійным грунце паміж беларусамі праваслаўнай і каталіцкай веры, бо яны ўсё больш пачыналі глядзець на сябе як на дзетак адной маткі Беларусі.

З рэзкім пратэстам супраць усялякіх там спробаў правядзення планамернай палюбоўнай паланізацыі і русіфікацыі беларусаў каталіцкага і праваслаўнага веравызнанняў выступіў паэт-адраджэнец Максім Багдановіч. Палемізуючы з Курнатоўскім, які адным з першых пачаў папулярызаваць такую ідэю, наш паэт пісаў: «…калі паланізацыя патрэбна для беларускага народа, дык чаму п. дакладчык (пад ім разумеецца Курнатоўскі. — *Л. Л.*) праектуе яе толькі для беларусаў-католікаў, не для ўсяго беларускага народа ў цэлым? І наадварот, калі яму неабходна русіфікацыя, дык чаму яна непажаданая сярод беларусаў, якія прытрымліваюцца каталіцтва? Бо розніца ў веравызнаннях не расколвае беларускі народ на дзве непадобныя па культуры велічыні. Бо ў беларуса, калі ён католік ці праваслаўны, адзін і той жа псіхічны тып, мова, бытавы ўклад. Як жа з гэтых аб'ектыўных перадумоваў можа адначасова вынікнуць неабходнасць для беларускага народа

русіфікацыі і тут жа побач неабходнасць паланізацыі — рэчаў прама процілеглых і якія выключаюць адна адну?»

Ад інтэлігенцыі патрабавалася шмат намаганняў, тонкага падыходу, каб не даць да канца разбурыць нацыянальную самасвядомасць беларускага народа тымі, хто вырашыў дзеля гэтага выкарыстаць яго прыхільнасць да той ці іншай хрысціянскай канфесіі. Важную ролю ў захаванні беларускай нацыі як самабытнага этнасу адыграла і тое, што шэраг святароў, асабліва каталіцкіх, пры любой зручнай нагодзе тлумачылі сваім вернікам памылковасць, беспадстаўнасць вызначэння сваёй этнічнай прыналежнасці толькі ў залежнасці ад канфесійнага фактару, паказалі сябе вялікімі прыхільнікамі ўвядзення беларускай мовы ў богаслужэнне.

Практычны вопыт многіх народаў паказвае, што шчыра адданыя яму служыцелі свяшчэннага кліру пры ўсёй спецыфічнасці іх дзейнасці ніколі не стаялі ў баку ад тых працэсаў, якія адбываліся ў грамадстве на тым ці іншым этапе яго гістарычнага развіцця. Вось чаму, калі ў Беларусі на рубяжы XIX–XX стст. у чарговы раз пачалося абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці яе карэннага насельніцтва, яскрава абазначыліся рысы нацыянальнага руху, ён у той ці іншай ступені паўплываў на настрой і паводзіны святароў. І сярод іх знайшліся асобы, якіх ніяк не задавальняла, што дзейнасць як праваслаўнай, так і каталіцкай цэркваў у Беларусі зусім не адпавядала яе нацыянальным інтарэсам, была скіравана на размыванне этнічнай самасвядомасці беларусаў. Праўда, сярод прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства такіх асобаў у Беларусі мелася крайне мала. Амаль усе яны аддана служылі Найсвяцейшаму Сіноду, мясцовым афіцыйным уладам і ў русіфікацыі беларускага народа зусім не ўступалі апошнім. Проста не ўдалося адшукаць на старонках літаратуры фактаў, якія сведчылі б аб тым, што хто-небудзь з праваслаўных святароў актыўна выступаў за ўвядзенне беларускай мовы ў царкоўнае богаслужэнне. Усе яны, як гэта патрабавалася вышэйшымі духоўнымі іерархамі, без згрызоты сумлення, спакойна выкарыстоўвалі ў гэтых мэтах малазразумелую беларусамі царкоўнаславянскую мову, а казанні мовілі толькі па-руску, хоць і з моцным беларускім акцэнтам. Такія святары, страціўшы самі беларускую нацыянальную самасвядомасць, не маглі прышчапляць яе ў душы сваёй паствы.

У свецкіх уладаў Расійскай імперыі і Рускай праваслаўнай царквы доўгі час існавала нагода, каб, асабліва не парушаючы сваіх інтарэсаў у Беларусі, штосьці зрабіць і на карысць нацыянальна-культурнага развіцця яе карэннага насельніцтва. Тут я маю на ўвазе распачатую з 60-х гадоў XIX ст. палітыку распалячвання касцёла, якая была скіравана на выцясненне польскай мовы з яго дабавачнага богаслужэння. Зусім лагічным у такім выпадку было б замяняць яе беларускай мовай, якой карысталіся прыхаджане. Гэта павысіла б аўтарытэт апошняй, пазбавіла б каталіцкую царкву магчымасці ажыццяўляць палітыку паланізацыі беларускага народа, пазітыўна адбілася б на яго кансалідацыі ў нацыю, садзейнічала б росту нацыянальнай самасвядомасці. Але, відаць, свецкія і духоўныя ўлады Расійскай імперыі больш баяліся кансалідацыі беларусаў у самабытную нацыю, росту іх этнічнай самасвядомасці, чым іх паланізацыі, таму палічылі за лепшае ў дабавачным богаслужэнні касцёла ў Беларусі польскую мову замяніць рускай. І, як і трэба было чакаць, ажыццяўленне такіх планаў праваліласяся, бо супраць яго актыўна выступілі не толькі самі ксяндзы, але і беларусы-католікі.

Падобная палітыка ў дачыненні да касцёла зрабіла яго яшчэ больш небяспечным у справе паланізацыі беларускага народа. Слушна выказаўся наконт гэтага ў 1916 г. Максім Багдановіч: «Нацыянальна несвядомы беларус скрозь і побач мяркуе так: мая вера — польская, значыцца, я — паляк. Але, падкрэсліваю гэта, выключна польскі від касцёла — з'ява ў нашым краі параўнальна нядаўняй фармацыі і прытым народжаная не чым іншым, як "русіфікатарскімі" мерапрыемствамі ўрада».

Зусім іншымі падыходамі — і даволі часта — вызначаліся служыцелі каталіцкага кліру. Паводле адносін да гістарычнага мінулага, духоўнай культуры і мовы беларускага народа многіх з іх з поўнай падставай можна назваць сапраўднымі рупліўцамі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Пры любой зручнай аказіі яны імкнуліся ўвесці беларускую мову хоць у дабавачнае богаслужэнне, гаварыць на ёй са сваёй паствай пры выкананні пазакасцельных абрадаў і рытуалаў, што выхоўвала ў вернікаў пачуццё павагі да роднага слова, садзейнічала росту іх нацыянальнай самасвядомасці. Такімі цёплымі адносінамі да ўсяго беларускага асабліва вызначаліся тыя святары, што добра ведалі аб прыналежнасці іх яшчэ зусім недалёкіх продкаў

да ўніяцкай царквы, якая не ўяўляла сваёй дзейнасці без апоры на нацыянальныя асновы беларускага народа.

Прыцягненню беларусаў да іх нацыянальных вытокаў служыла і тая важная праца, якую ажыццяўляла каталіцкае духавенства па выпуску на беларускай мове рэлігійных брашурак, перыядычных выданняў. Там, дзе беларусізацыя касцёла стала хоць і марудна, з вялікімі цяжкасцямі, пракладваць для сябе шлях, на каталіцкую рэлігію пачыналі глядзець ужо не толькі як на выключна польскую веру. Дасягнуць далейшага зруху ў гэтай справе не дазволілі развязаная кайзераўскай Германіяй Першая сусветная вайна, перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі, у ходзе ажыццяўлення ідэй якой усе віды канфесій у Беларусі, у тым ліку і каталіцкая, былі адсунуты на задні план і неўзабаве значна абмежавалі свой уплыў на духоўны стан грамадства.

Як вынікае з усяго вышэйсказанага, галоўны царкоўны эксперымент 1839 г. і шэраг іншых, праўда, значна меншых па моцы ўздзеяння на рэлігійнае жыццё Беларусі актаў, прывялі да таго, што на рубяжы XIX–XX стст. з агульнай колькасці беларусаў прыкладна чатыры пятыя спавядалі праваслаўную і адна пятая — каталіцкую веру. А гэта і ў апошнім выпадку ўжо мільёны чалавек, чаго не назіралася ў Беларусі, калі там пануючай рэлігіяй было ўніяцтва.

## § 9. НЕ ПАМІРАЛА ПАМЯЦЬ ПРА УНІЮ

Не ведаю, ці калі-небудзь прынародна каялася Руская праваслаўная царква за ўчыненае ёю з дапамогай падману і прамога ўціску далучэнне да сябе беларускіх уніятаў, выклікане гэтым актам разбурэнне іх духоўнай спадчыны? Калі не, дык гэта не позна зрабіць і цяпер. Тут не павінны кіравацца правілам: дзеці не нясуць адказнасці за сваіх бацькоў. Не пакаяўшыся, наўрад ці знойдзе праваслаўнае духавенства ў сабе сілы падвесці нацыянальны грунт пад набажэнства ў Божых храмах нашай краіны.

Тады, як і цяпер, праваслаўнае духавенства ў Беларускім краі зыходзіла толькі з інтарэсаў рускага, каталіцкая царква — пераважна з інтарэсаў польскага народаў. Паміж дзвюх бедаў былым уніятам патрэбна было выбіраць нейкую адну з іх. Дзесяцігоддзямі рабіўся

такі выбар. На працягу жыцця аднаго пакалення многім даводзілася па некалькі разоў мяняць веру, так і не далучыўшыся арганічна ні да адной з іх. Гэта тлумачыць, чаму сярод большасці беларусаў не было сапраўдных рэлігійных фанатыкаў.

Амаль двухсотпяцідзесяцігадовае існаванне ўніяцтва ў Беларусі не магло адразу ж адысці ў нябыт пасля падпісання і правядзення ў жыццё акта аб далучэнні яго вернікаў да праваслаўя. Такога погляду, між іншым, шмат хто прытрымліваўся і з дарэвалюцыйных рускіх гісторыкаў праваслаўнай рэлігіі, сцвярджаючы, што падпісаннем царкоўнага акта 1839 г. адбылося толькі чыста фармальнае скасаванне Берасцейскай уніі. І гэтае сцвярджэнне на ўсе сто працэнтаў адпавядала рэчаіснасці, бо адыход вернікаў ад адной і прыход у другую канфесію можа адбыцца толькі праз паступовую,працяглую ломку іх нацыянальна-рэлігійнай самасвядомасці, а не ў выніку аднаго, няхай сабе і нават вельмі важнага, царкоўна-прававога рашэння. Таму становіцца зразумелым, чаму многія духоўныя чыны праваслаўя часта заяўлялі, што былыя ўніяцкія святары ў душы не выракліся ад сваёй веры, стараюцца быць расейцамі толькі звонку ці па загаду зверху. Невыпадкова для большага поспеху ў абрусенні беларусаў яшчэ доўгі час лічылася за лепшае прысылаць у іх край духоўнікаў з карэнных рускіх губерняў імперыі, чым прызначаць на гэтыя пасады каго-небудзь са святароў з мясцовага насельніцтва.

Шматлікія прыхільнікі былой уніяцкай царквы дзесяцігоддзямі захоўвалі ўспаміны аб дарагой рэлігіі сваіх бацькоў. Выбіць з памяці такое не змаглі нават трагічныя, цяжкія вынікі Першай сусветнай вайны, Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., замежнай інтэрвенцыі, кровапралітныя падзеі грамадзянскай вайны. Практычна адразу ж пасля актывізацыі нацыянальнага руху ў паслякастрычніцкай Беларусі тут стала адраджацца ідэя ўніяцтва. Прычым штуршок гэтаму быў дадзены не ў цэнтры ці на захадзе Беларусі, а ў Магілёве — спрадвечна праваслаўным горадзе. Набажэнства паводле грэка-каталіцкага абраду пачаў тут весці Язэп Белагаловы, які з 1918 г. з'яўляўся каталіцкім дэканам на Магілёўшчыне. У пачатку 20-х гадоў у Віцебску нават у англіканскай царкве вялася служба прыхаджан-уніятаў. У гэтым храме 9 сакавіка 1923 г. студэнт-завочнік Віцебскага мастацка-практычнага інстытута Алесь Ахола-Вало заключыў шлюб. Пазней гэты студэнт пакіне беларускі горад і стане вядомым фінскім вучоным, пісьменнікам

і мастаком. У час візіту ў 1992 г. міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятра Краўчанкі ў Фінляндыю А. Ахола-Вало гаварыў з ім на чыстай беларускай мове.

Здаралася, што прыхільнасць да адраджэння ўніяцкай царквы праяўлялася і з боку педагагічнай інтэлігенцыі, асабліва з ліку тых, хто да гэтага актыўны ўдзел браў у нацыянальна-вызваленчым руху. Такую пазіцыю ў канфесійным пытанні займала выпускніца Свіслацкай беларускай настаўніцкай семінарыі Вера Матэйчук, якая напачатку 1920 г. з-за ганенняў польскіх уладаў вымушана была перасяліцца на Ігуменшчыну. Тут у вёсцы Бахаравічы яна заснавала беларускую школу. Штосьці практычнае зрабіць для ўніяцкай справы Веры Матэйчук не давялося, бо з восені таго ж года стала працаваць інструктарам Беларускага аддзела Наркамасветы БССР. Праўда, ненадоўга, бо не змагла ўратавацца ад распачатых пад той час бальшавікамі масавых арыштаў эсэраў[1].

Прыведзеныя вышэй прыклады — гэта ўсё ж даволі рэдкая з’ява ў тагачасным нялёгкім рэлігійным жыцці. Нібыта па традыцыі першай паловы XIX ст., барацьба з уніяцтвам, толькі ўжо эфемерным, вялася і пасля кастрычніцкага перавароту. Вось тыповы прыклад: зруйнаванне капліцы ў Янаве, дзе спачывалі мошчы ўніяцкага святога Андрэя Баболя, і вываз іх у Маскоўскі музей атэізму. Праўда, Ватыкану, хоць і з вялікай цяжкасцю, усё ж удалося забраць гэтыя святыні, каб іх ніхто не выкарыстоўваў у мэтах антырэлігійнай прапаганды.

З узмацненнем у БССР барацьбы з рэлігіяй якіх-небудзь практычных крокаў па абнаўленні ўніяцтва ўжо ніхто не рабіў, бо такое з’яўлялася б крайне небяспечным для прыхільнікаў дадзенай канфесіі.

На першым часе здавалася, што трохі лепшыя ўмовы для ажыўлення ўніяцтва складваліся на беларускіх землях, якія апынуліся пад Польшчай. Сям-там распачынаецца набажэнства ва ўніяцкіх храмах, хаця стаўленне да іх з боку пануючай там каталіцкай, а таксама праваслаўнай цэркваў не назавеш добразычлівым. Калі б уніяцкая рэлігія не была рэлігіяй нацыянальнай для беларусаў, непажаданай іх сэрцу і душы, яны так бы часта не рабілі спробаў па яе ажыўленні, прычым, як правіла, у самых неспрыяльных для гэтага ўмовах. А яны ж якраз і былі такімі ў Заходняй Беларусі. Аднак менавіта ў той час

---

[1] Спадчына. — 1994. — № 6. — С. 86.

паблізу Слоніма ў Альбярціне засноўваецца ўніяцкі цэнтр, які павёў актыўную працу па аднаўленні грэка-каталіцкай царквы. У Друі быў закладзены кляштар айцоў марыянаў усходняга абраду. І ўсё ж уніяцкая царква не магла мець цвёрдай надзеі на падтрымку з боку ўладаў Польшчы, якая толькі што стала суверэннай дзяржавай. І не магла таму, што палякі добра ведалі аб традыцыйным імкненні гэтай канфесіі да незалежнасці ад свецкай улады, аб яе прыхільнасці да беларускай нацыянальнай ідэі. Вось чаму ў большасці выпадкаў афіцыйная Польшча гатовая была хутчэй падтрымаць у сябе дома нават праваслаўную, чым уніяцкую царкву. У адной з публікацый гісторыка Юрыя Туронка (Польшча) прыводзіцца такое выказванне прадстаўніка Міністэрства веравызнанняў і публічнай асветы Бароўскага: «Інтарэс Польшчы патрабуе змагацца з уніяй». Заяўлена гэта было ў 1924 г.[1] Аднак, як бы Польшча ні ўпарцілася, Апостальскі пасад даў у 1925 г. фармальны дазвол на правядзенне ўнійнай дзейнасці на заходнебеларускіх землях. І пазней ад яго паступала пэўная дапамога.

Тагачасны ў Заходняй Беларусі рух за аднаўленне грэка-рымскай царквы атрымаў назву новая унія (неаунія) і меў напачатку пэўную падтрымку з боку свецкай улады і каталіцкага касцёла Польшчы. Пазней жа ў неауніі яны пачалі бачыць небяспечную для іх сілу з-за нібыта яе нацыяналістычных памкненняў і сталі рабіць адпаведныя для такой сітуацыі захады. Інтэлектуальным цэнтрам уніяцкага руху ў міжваеннай Польшчы стаў Пінск. Тут «сістэматычна арганізоўваліся сімпозіумы, якія называліся ўніяцкімі канферэнцыямі, з удзелам шматлікіх біскупаў, ніжэйшага духавенства, тэолагаў, практыкаў… выпрацоўвалася ідэалогія ўніяцкага руху, абмяркоўвалася практыка новаўніяцкіх дзеянняў галоўным чынам сярод праваслаўных беларусаў»[2].

Тыя першыя поспехі, што былі дасягнуты ў адраджэнні ўніяцтва на самым пачатку жыцця заходніх беларусаў пад уладай Польшчы, зразумела, былі б немагчымы, каб самі людзі не цягнуліся да веры сваіх продкаў. Але немалую ролю тут адыграла і наяўнасць валявых, добрых арганізатараў, апантаных гэтай ідэяй святароў. Вялікім прыхільнікам

---

[1] Спадчына. — 1992. — № 5. — С. 74.

[2] Беларусіка. 3. Нацыянальныя і рэгіянальныя культуры, іх узаемадзеянне. — Мн., 1994. — С. 258.

уніі быў епіскап Юры Матулевіч, які з кастрычніка 1918 да 27 красавіка 1925 г. кіраваў Віленскай дыяцэзіяй. Папулярнасць у родным краі здабыў тым, што выступаў за ўжыванне беларускай і літоўскай моваў у душпастырскай працы. Яму належыць заслуга ў стварэнні ў Друі беларускага манастыра айцоў марыянаў, заснаванні ў 1924 г. у Вільні беларускай кангрэгацыі сясцёр эўхарыстак усходняга абраду для працы з праваслаўнай моладдзю і ў тым годзе — у Альбярціне ўсходняй місіі з навіцыятам. Дзякуючы яго стараннням айцам базыльянам вярнулі касцёл у Тараканах, што на Палессі. Такая паслядоўнасць у правядзенні епіскапам Юрыем Матулевічам унійнай працы выклікала незадаволенасць у польскага духавенства, таму далёка не ўсё, што ён задумаў, здзейснілася. Датычыць гэта Віленскай беларускай кангрэгацыі сясцёр эўхарыстак усходняга абраду і Друйскага манастыра айцоў марыянаў, адкуль выйшла толькі невялікая група святароў усходняга абраду, дый тых накіравалі на працу не на беларускія абшары, а ў Харбін[1].

Што не ўдалося зрабіць епіскапу Юрыю Матулевічу, тое ў пэўнай ступені аказалася падуладным запрошаным ім езуітам. Ад восені 1924 г. пачаў дзейнічаць створаны імі ў Альбярціне Місіянерскі цэнтр з філіяламі (станцыямі) у Вільні і Сынкавічах (на Зэльвеншчыне). У кожным з гэтых трох населеных пунктаў было закладзена па адной парафіі ўсходняга абраду.

Не было спакойнага жыцця за Польшчай і ў выпускніка Пецярбургскай духоўнай акадэміі Антона Неманцэвіча (1915), які ў 20-я гады браў актыўны ўдзел у аднаўленні грэка-каталіцкай царквы ў Заходняй Беларусі, чым выклікаў незадаволенасць як з боку духоўных, так і свецкіх уладаў краіны.

Зусім не змяніліся ў лепшы бок узаемаадносіны паміж уніятамі і католікамі, свецкай уладай і ў больш позні час. Дзякуючы настойлівым намаганням першых у 20–30-х гадах нашага стагоддзя ўдалося стварыць у Заходняй Беларусі 17 грэка-каталіцкіх парафій, але спрыяльных умоваў для дзейнасці з іх ніводная не мела. Польскія свецкія і духоўныя ўлады найбольш за ўсё непакоіла, што гэтыя парафіі цягнуцца да беларускай нацыянальнай ідэі. Усё гэта вельмі добра адчуў на сабе

[1] Туронак Юры. Міжваенная унія ў Заходняй Беларусі // Спадчына. — 1992. — № 5. — С. 75.

выпускнік Львоўскай грэка-каталіцкай акадэміі Леў Гарошка (нарадз. у 1911 г. на Міршчыне). Колькі яго ні пераводзілі з парафіі ў парафію, дзейнасць сваю ў беларускім духу ніколі не прыпыняў, таму ў 1939 г. быў высланы з Навагарадчыны.

У літаратуры таго часу засведчана нямала фактаў непрыязнага стаўлення каталіцкага вышэйшага і прыходскага кліру да грэка-рымскай царквы. Так, выдаваны езуітамі штомесячны часопіс «Ор'ене» пісаў у 1935 г., што «нават непасрэдна часам ідзе змаганне з "вуніяй" у імя "каталіцызму"»[1]. Сучасны польскі вучоны Веслаў Мыслэк, які займаецца пытаннямі рэлігіі ў міжваеннай Польшчы, сцвярджае, што «лацінскае духавенства… часта займала крытычнае становішча адносна "ўсходніх", г. зн. апантаных неауніяй езуітаў»[2].

Калі прааналізаваць прычыны нязноснасці каталіцкай царквы да ўніяцкай, дык атрымліваецца, што галоўнай з іх з'яўлялася шчырая прыхільнасць апошняй да ўсяго беларускага і асабліва мовы. Так, у студзені 1939 г. начальнік грамадска-палітычнага ўпраўлення ваяводскай управы ў Наваградку пісаў наступнае: «Дзейнасць каталіцкага духавенства візантыйска-славянскага абраду (уніяцкага. — *Л. Л.*) не магу лічыць пазітыўнай, паколькі яно прапагандуе сярод вернікаў не толькі беларускую мову, але пашырае выразныя беларускія нацыяналістычныя традыцыі». І беластоцкі ваявода таксама «ўгледзеў вялікую небяспеку ў тым, што ў Фастах, Курашэве і Касной у жыцці духоўных і вернікаў захоўваецца беларуская мова, і выказаў пастулат ліквідаваць гэтыя парафіі»[3].

Выступалі ж так актыўна супраць беларускай мовы мясцовыя чыноўнікі, а разам з імі і духоўнікі толькі таму, што ў ёй бачылі галоўную перашкоду на шляху афіцыйнай палітыкі дэнацыяналізацыі карэннага насельніцтва «ўсходніх крэсаў». А што свецкія і духоўныя ўлады Польшчы ў сваіх дачыненнях з беларусамі мелі на мэце не што іншае, як іх паланізацыю, можа сведчыць і зробленая ў лютым 1939 г. дырэктарам Дэпартамента веравызнанняў у Міністэрстве веравызнанняў і публічнай асветы Польшчы Г. Дунінымі-Баркоўскім заява: «У нашым змаганні з візантыйскім абрадам (г. зн. уніяцкай

---

[1] Беларусіка. 3… — С. 258.
[2] Тамсама.
[3] Туронак Юры. Міжваенная унія… — С. 77.

царквой. — *Л. Л.*)… кіруемся не тэарэтычнымі дыскусіямі аб той ці іншай канцэпцыі, але пастулатам паланізацыі»[1].

Па сваёй варожасці да ўніятаў мала хто мог параўнацца з віленскім каталіцкім біскупам Ялбжыкоўскім. Яго вельмі непакоіў кляштар беларускіх ксяндзоў марыянаў, што знаходзіўся ў мястэчку Друі. А непакоіў найперш за іх беларускасць. «Тут яны, — піша вядомы грамадска-палітычны дзеяч Заходняй Беларусі Васіль Рагуля, — мелі сваю друкарню, у якой друкавалі рэлігійныя кніжкі ў беларускай мове. Ялбжыкоўскі разагнаў і іх. Ксяндзоў беларусаў ён пазбавіў парахвіяў і выслаў іх у якасьці вікарыяў да ксяндзоў — выпрабаваных эндэкаў, пад іх пільны нагляд. Кс. Абрантовіча Ватыкан, безумоўна, на дамаганьне польскага ўраду выслаў у Харбін, высьвячаючы яго ў сан архімандрыта. У разуменьні палякаў словы паляк і католік былі сынонімамі. Для іх было дзіка, каб каталіцкі сьвятар ня лічыў сябе палякам»[2].

Праўда, аднойчы падалося, што біскуп Ялбжыкоўскі збіраецца для ўнійнай справы ў Заходняй Беларусі адкрыць шырокія перспектывы. Але, як высветлілася, тут у яго на першым плане стаяў не канфесійны фактар, а палітычны: у мэтах абмежавання дзейнасці праваслаўнай царквы ён вырашыў усе яе храмы, што некалі належалі ўніятам, вярнуць апошнім і гэтым шляхам дамагчыся хуткага росту іх парафій. Няцяжка зразумець, які гэта вялікі раскол унесла б у асяроддзе беларускага народа і як у падобнай сітуацыі ўладам лёгка было б праводзіць у дачыненні да яго паланізатарскую палітыку. Такі шлях аднаўлення і пашырэння ўніяцкай царкоўна-рэлігійнай дзейнасці ў Заходняй Беларусі не ўхваліў і сам львоўскі ўніяцкі мітрапаліт граф А. Шэптыцкі[3].

Такая адкрытая варожасць да ўсяго беларускага вымушала і грэкарымскіх вернікаў адпаведным чынам ставіцца да польскіх духоўных традыцый. Гісторыкамі царкоўнай уніі ўстаноўлена, што ў міжваеннай Польшчы ў храмах гэтай канфесіі ў час богаслужэння маглі гучаць беларуская, украінская, часам руская мовы, але толькі не польская. Традыцыйна ўніяцкія парафіі ў Заходняй Беларусі прыхільна ставіліся

---

[1] Туронак Юры. Міжваенная унія… — С. 77.

[2] Спадчына. — 1994. — № 4. — С. 111.

[3] Тамсама.

не толькі да роднай мовы яе карэннага насельніцтва, але і ў цэлым да яго культуры. Пры дзейнай падтрымцы езуітаў у Вільні з 1934 г. запрацавала ўніяцкая Малая семінарыя, у якой вучылася некалькі юнакоў. Усходняя місія айцоў езуітаў наладзіла таксама «выдавецтва, якое выпускала рэлігійную літаратуру на рускай і беларускай мовах, м. інш., штомесячнік “Да Злучэньня” пад рэдакцыяй айца Антона Неманцэвіча»[1], які працаваў тады ў кляштары ў Альбярціне.

Актыўныя ўдзельнікі нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі ўважліва сачылі за тым, што адбывалася ў жыцці ўніяцкай царквы. Многія з іх цалкам падзялялі яе настойлівыя намаганні стаць на ногі. Вышэй прыводзіліся факты дапамогі ёй з боку езуітаў. Ёсць несумненныя заслугі ў адраджэнні ўніяцкай царквы і айцоў капуцынаў (манахі рымска-каталіцкага францысканскага ордэна, якія носяць плашч з капюшонам) усходняга абраду, якія дзейнічалі ў Пінскай дыяцэзіі. Тэрытарыяльным цэнтрам іх было мястэчка Любашава ля Ганцавічаў. Тут яны, пачынаючы з 1932 г., заснавалі парафію ўсходняга абраду, Малую семінарыю для моладзі (затым была пераведзена ў Ломжу), жаночы манастыр дачок Непарочнай Дзевы Марыі ўсходняга абраду. Пакінулі свой след капуцыны і ў Зарэччы пад Пінскам, дзе яны заклалі жаночую Кангрэгацыю Дзяцей Марыі ўсходняга абраду.

Значна меншымі былі здабыткі ў айцоў базыльянаў. Ім удалося адкрыць толькі адну парафію ўсходняга абраду ў Тараканах паблізу Кобрына, дый тое ненадоўга.

Мелі месца выпадкі пераходу праваслаўных цэркваў ва ўніяцкія. Здаралася гэта тады, калі першыя зведвалі недахоп у святарах. Юры Туронак падае звесткі, што такім спосабам узніклі грэка-рымскія парафіі ў Курашэве і Касной Бельскага павета, у Фастах пад Беластокам і ў Дзяляцічах Наваградскага павета.

Не заўсёды правільную пазіцыю ў дачыненні да ўніяцкай царквы Заходняй Беларусі займаў Ватыкан. Пад уплывам «рускіх секцый» у Ватыкане сям-там уніяцкаму руху ўдалося надаць крайне нацыяналістычны характар, што выклікала адмоўную рэакцыю як у прагрэсіўнай беларускай, так і польскай грамадскасці. Асабліва рэзка выступала супраць гэтага газета «Беларуская крыніца». Палітыку створанай пры Ватыкане камісіі «Про Руссиа» яна называла «трагедыяй

[1] Туронак Юры. Міжваенная унія… — С. 57.

духавенства і беларускага народа». Пра стан уніяцкай рэлігіі пісалі на сваіх старонках часопіс «Да Злучэньня» (выходзіў з пачатку 1932 г. на беларускай і рускай мовах) і «Беларускі каляндар на 1932 г.» Ацэнка апошнім месца ўніяцкай царквы ў лёсе беларускага народа зусім не супадала з тым, што некалі пісалі пра гэта рускія гісторыкі. Вось некалькі вытрымак з календара: «Калі б не Брэсцкая унія, дык беларускі народ пагрузіўся б у брудны польскі ці маскоўскі імперыялізм і нацыяналізм, таму што дзве варожыя сілы Беларусі — Польшча і Масква ў сваёй палітычнай барацьбе за нас у першую чаргу зрабілі б рэлігію сродкам сваёй палітычнай барацьбы. Ад гэтай палітыкі з боку Польшчы унія магла яшчэ як-небудзь абараніцца, таму што рымскі папа распаўсюджваў апеку на беларускі народ, які гаворкай і псіхалогіяй значна адрозніваецца ад польскага народа». А вось якія спадзяванні на канфесійнае яднанне ўскладваліся ўжо на час, калі выходзіў каляндар: «Унія дапаможа нам у справе нашага беларускага нацыянальнага адраджэння, таму што адарве праваслаўную царкву ад маскоўшчыны і аб’яднае яе з душой народа. Пасля адарвання ад “рускага Рыма” унія, як гэтага справядліва апасаюцца, не будзе падпарадкоўвацца “польскаму Рыму”, а польскі ўплыў, як гэта было пасля Брэсцкай уніі, ужо не паўторыцца. Перашкодай яму стане беларуская нацыянальная свядомасць, якая не дапусціць для патомства ўплыву Польшчы альбо ж, у іншых умовах, Масквы. Перашкодай будуць таксама і ўмовы сучаснага юрыдычнага стану народнай асобы, таму што нельга, як гэта было раней, падштурхоўваць і прыпісваць народныя масы без іх волі той ці іншай веры»[1]. У чымсьці запярэчыць аўтару гэтых слоў проста немагчыма.

Пад уплывам такога актыўнага руху за адраджэнне грэка-рымскай рэлігіі папа іншым разам прымаў рашэнні і на яе карысць. Асабліва важную ролю магла б адыграць «выдадзеная ў траўні 1937 г. інструкцыя Апостальскага пасаду аб неабходнасці ўжываць ва ўнійнай працы роднае мовы мясцовага насельніцтва»[2]. Праўда, з гэтай інструкцыяй амаль зусім не лічыліся свецкія і духоўныя ўлады Польшчы, таму якіх-небудзь істотных зрухаў у культурна-моўных справах уніяцкай

---

[1] Документы обличают. Реакционная роль религии и церкви на территории Белоруссии. — Минск, 1964. — С. 73, 74.

[2] Туронак Юры. Міжваенная унія… — С. 78.

царквы Заходняй Беларусі не магло назірацца. Адзінае, за што можна пахваліць грэка-рымскіх духоўнікаў — гэта што яны не ўпусцілі ў богаслужэнне польскую мову. Уніяцтву працягвалі чыніць розныя перашкоды не толькі ў стварэнні новых, але часам нават зачынялі храмы, што ўжо раней былі ўведзеныя ў эксплуатацыю.

У 1937 г. польскія ўлады пайшлі на забарону непажаданага ім уніяцкага штомесячнага часопіса «Да Злучэньня», што выклікала адмоўную рэакцыю ў духоўнікаў гэтай канфесіі. Таму, відаць, ім пайшлі на пэўныя ўступкі: часопісу даецца новая назва «Злучэньне», яго пачынаюць выдаваць лацінскім шрыфтам, а рэдакцыю пераводзяць у Варшаву[1]. Зразумела, у такіх умовах дадзены перыядычны орган уніятаў, дажываючы свае апошнія часы, ужо не мог па-ранейшаму актыўна ўплываць на жыццё грэка-рымскай царквы на «ўсходніх крэсах». Але яна неяк трымалася і жыла. Душпастырскую дзейнасць сярод вернікаў вялі на Беларусі перад Другой сусветнай вайной 23 уніяцкія святары[2].

Вялікі ўклад некаторых з іх і ў рэлігійна-асветніцкую справу, што рэалізоўвалася імі праз напісанне цікавых літаратурных твораў. Багатую літаратурную спадчыну пакінуў уніяцкі святар Канстанцін Стаповіч (псеўданім — Казімір Сваяк). Добры знаўца яго творчасці А. Станкевіч пісаў: «…мінімальнай рэлігійнай Сваяковай праграмай для Беларусі з’яўляецца збліжэнне хрысціянства, раз’яднанага чужынёй, да беларускай душы пры пасрэдстве роднай мовы і агулам пры пасрэдстве беларускай народнай культуры». Ён вельмі балюча перажывае за горкі стан жыцця народа і просіць у Бога дапамогі для выратавання:

О Божа-Божа, спашлі змілаванне
Над Тваім людам, што поўны нядолі,
Бо ўжо ж ён просіць даўно змертвыхстання,
Каб выйсці з крыўды, з грэху і няволі[3].

Не знаходзячы патрэбнай падтрымкі з боку свецкай улады Польшчы і каталіцкага касцёла, уніяцкае духавенства, аднак, і ў гэтых

---

[1] Туронак Юры. Міжваенная унія… — С. 77.
[2] Навіны Беларускай акадэміі. — 1993. — 13 студзеня.
[3] Літаратура і мастацтва. — 1995. — 30 чэрвеня. — С. 6.

умовах не пераставала клапаціцца пра нацыянальныя інтарэсы не толькі беларусаў, але і іншых прадстаўнікоў няпольскага насельніцтва. Так, у час правядзення ў 1937 г. у Пінску VI уніяцкай канферэнцыі «выказваўся жаль у сувязі з навязваннем польскай мовы рускім, беларускім і ўкраінскім дзецям»[1].

Прыкладам асабістага шчырага служэння Богу ўніяцкія святары падтрымлівалі ў сваіх вернікаў любоў і пашану да грэка-рымскай царквы.

Аж да прыходу ў верасні 1939 г. у Заходнюю Беларусь войскаў Чырвонай Арміі існаваў уніяцкі прыход у вёсцы Альпень на Століншчыне, святаром у якім быў айцец Вацлаў Анушка. Шчыра адданы нацыянальным традыцыям уніяцкай царквы, ён вёў набажэнства на беларускай мове, арганізаваў у гэтай звычайнай для нашай зямлі вёсцы народны тэатр і духавы аркестр. Калі б не супраціўленне з боку польскай улады і каталіцкай царквы, многія вернікі якой з ліку беларусаў ахвотна адгукнуліся вярнуцца ва ўлонне ўніяцкай царквы, яна магла б прыйсці да сапраўднага жыцця, стаць магутнай перашкодай на шляху паланізацыі беларусаў. На жаль, такога ажыўлення не адбылося і не па яе віне.

Галоўным чынам па прычыне адмоўнага стаўлення свецкіх і духоўных уладаў Польшчы да ўнійнай працы гэтай канфесіі так і не ўдалося выйсці на тыя рубяжы, якія яна ў лепшыя свае часы займала на гэтых землях Беларусі. У канцы 1939 г. віленская і пінская дыяцэзіі мелі толькі 17 каталіцкіх парафіяў візантыйска-славянскага абраду. У іх, выключаючы парафіі ў Зэльве, Свіслачы, лічылася трохі больш за 9 тыс. вернікаў[2]. Прычым у 30-я гады ўжо назіралася падзенне, а не рост іх колькасці. Да ўсяго сказанага варта дадаць, што ў міжваеннай Польшчы грэка-католікам нават забаранялася займаць дзяржаўныя пасады[3].

Усе гэтыя гады ўніяты не знаходзілі аніякай падтрымкі і ў праваслаўнай канфесіі. Гэта вялікая недарэчнасць, што дзве хрысціянскія царквы — каталіцкая і праваслаўная — не змянілі сваіх адносін да трэцяй хрысціянскай царквы ў час, калі так патрэбна было нацыя-

---

[1] Беларусіка. 3… — С. 254.

[2] Туронак Юры. Міжваенная унія… — С. 76.

[3] За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі. — Лёндан, 1960. — С. 72.

нальнае адзінства ўсяго беларускага народа незалежна ад канфесійнай прыналежнасці.

Закладзеныя толькі збольшага асновы ўніяцкай дзейнасці ніяк не ўдавалася падмацаваць і пасля прыходу ў Заходнюю Беларусь Чырвонай Арміі. Цяпер даводзілася ўсё рабіць патаемна, бо савецкая ўлада непрыхільна ставілася да грэка-каталіцкай царквы. Па-бацькоўску апекаваў яе львоўскі мітрапаліт А. Шэптыцкі. Ён тайна стварае ў 1940 г. на гэтай тэрыторыі экзархат уніяцкай царквы Беларусі на чале з добра вядомым на той час прагрэсіўным паводле сваіх поглядаў на нацыянальную ідэю духоўным дзеячам айцом Антонам Неманцэвічам. Праўда, чагосьці адмысловага для ўніяцкай царквы былой Заходняй Беларусі яму не ўдалося зрабіць, бо гэтаму аніяк не садзейнічала мэтанакіраванае, тэрміновае ўсталяванне тут сацыялістычнага ладу грамадскага жыцця. Бачачы, які масавы характар набылі арышты каталіцкіх ксяндзоў, ніяк нельга было ў такіх экстрэмальных умовах распачынаць працу па стварэнні сеткі ўніяцкіх парафій.

Наш уласны беларускі вопыт сведчыць, што ўспаміны пра ўніяцтва заўсёды абуджаліся на самых крутых паваротах у гісторыі роднай Бацькаўшчыны. Існуе непарушная заканамернасць, што калі ў беларусаў жыццё становіцца архіцяжкім, невыносным ці, наадварот, узнікала рэальная магчымасць нацыянальна-культурнага Адраджэння, яны заўжды цягнуліся да ўваскрэсення ўніяцтва.

Відаць, мала хто думаў, што пасля двух найбольш бязбожных у Савецкай Беларусі дзесяцігоддзяў (20–30-я гады мінулага стагоддзя) з’явіцца ў кагосьці задума аднавіць уніяцкую царкву ў неверагодна цяжкі час фашысцкай акупацыі. Але ўсё ж такая думка ўзнікла і пачала пастунова пераўтварацца ў практыку. Уніяты Беларусі з палёгкай уздыхнулі, даведаўшыся, што 22 лістапада 1941 г. папа Пій XII зацвердзіў беларускім экзархам айца Антона Неманцэвіча, бо гэтым высокім актам яны нарэшце юрыдычна вызваляліся з-пад падпарадкавання польскай каталіцкай царкве. Рашэнне папы не дазволілі сабе праігнараваць і ў Генеральным камісарыяце Беларусі. 16 сакавіка 1942 г. Грэка-каталіцкая царква Беларусі атрымала ад яго права на вольнае вядзенне ўнійнай працы сярод сваіх вернікаў[1]. Са стварэннем у нас уніяцкага экзархату адна за адной грэка-рымскія парафіі пачалі

[1] Туронак Юры. Міжваенная вунія… — С. 78.

выходзіць з-пад падпарадкавання каталіцкіх біскупаў. Мяркуюць, што, каб не дапусціць такога, апошнія нават звярнуліся па дапамогу да нямецкіх уладаў, пісалі на іх адрас даносы на ўніяцкіх святароў. Вынікі барацьбы такія: у жніўні 1942 г. гестапаўцы арыштоўваюць уніяцкага экзарха Беларусі Антона Неманцэвіча, лёс якога і па сёння застаецца невядомым для нас.

Як толькі пачало заўважацца, што ўніяцкая царква, выкарыстоўваючы акупацыйны рэжым, пачала пашыраць свае маштабы, супраць яе адразу ж паўстала і праваслаўнае духавенства, якому ў гэтым пытанні неўзабаве ўдалося схіліць на свой бок нямецкія ўлады. Уніяцкае духавенства і самі вернікі вельмі балюча перажывалі ўсё гэта і асабліва страту свайго экзарха Неманцэвіча. Аднак яго трагічны лёс не выклікаў вялікай панікі і страху ў людзей. У 1943 г. уніяцкая царква налічвала пяць тысяч вернікаў, з якіх больш за дзве трэці даводзілася на колішніх католікаў. Далей павялічыць іх лік не было рэальнай магчымасці з-за падзей на франтах Айчыннай вайны. Кожнаму бачыўся хуткі канец акупацыйнага рэжыму ў Беларусі. І ўніяцкія духоўныя кіраўнікі, і радавыя вернікі добра ведалі, што з прыходам Чырвонай Арміі іх царкве небяспечна будзе заставацца пры савецкіх парадках, і таму не праяўлялі асаблівай актыўнасці ў сваёй дзейнасці. Але і малаэфектыўныя практычныя крокі па пашырэнні маштабаў дзейнасці ўніяцкай царквы ў такі трагічны час ёсць усе падставы разглядаць як сведчанне захавання ў памяці беларускага народа колішняга існавання ў яго сваёй уласнай нацыянальнай рэлігіі.

Поўная супярэчнасцяў і цяжкасцяў жыццё ў міжваеннай і акупаванай немцамі Беларусі стала прычынай, што нямала яе грамадзян памкнулася ў эміграцыю. Сярод іх траплялі і ўніяцкія святары. Зразумела, у такіх выпадках яны ўсяляк імкнуліся быць у асяроддзі сваіх суайчыннікаў. Прыклад непарыўнай лучнасці з любымі сэрцу землякамі паказваў грэка-каталіцкі святар, айцец Міхась Маскалік, які напярэдадні і ў час Другой сусветнай вайны знаходзіўся ў Мюнхене. Калі ўдалося прачуць, што разам з польскімі ваеннапалоннымі ў разрад такіх гаротных людзей трапіла і знаходзіцца ў Нямеччыне (Баварыі) шмат беларусаў, усталяванне сувязей, усемагчымая дапамога ім стала для ўніяцкага свяшчэнніка найважнейшай справай. Некаторым палонным сустрэча з ім была нібы бальзам на рану. Вось як паведамлялася пра адну з іх у газеце «Крыніца» (выходзіла ў Вільні): «Да нас у лагер

дня 4 і 5 снежня завітаў у неспадзейку беларускі свяшчэннік а. Міхась. Гэты дзень застанецца надоўга нам на памяці. Мы думалі ўжо, што забыты Богам і людзьмі… Аж не. Мы пераканаліся, што тут ёсць людзі, каторыя памятаюць аб нас. І вось, сабраўшыся ўсе разам, супольна злучаныя аднэю думкаю аб Беларусі, у роднай мове (падкрэслена мною. — *Л. Л.*) падзякавалі мы Богу за ўсе ласкі, якія ён нам аказаў»[1].

Кароткатэрміновае ажыўленне рэлігійнай дзейнасці ўсіх відаў канфесій у гады фашысцкай акупацыі не магло пакінуць якога-небудзь прыкметнага следу ў жыцці беларускага народа, станоўча паўплываць на стан яго нацыянальнай самасвядомасці, хаця ў той час не існавала аніякай забароны ўжываць беларускую мову ў набажэнстве. У найбольшай жа ступені такую магчымасць пастараліся выкарыстаць уніяцкія святары.

Сёння для нас не сакрэт, у якім напачатку цяжкім, безвыходным становішчы даводзілася жыць у чужых краінах беларусам, што пасля разгрому фашысцкай Германіі не захацелі ці збаяліся вярнуцца на радзіму. Больш-менш ясную мэту перад сабой мелі толькі тыя, хто групаваўся вакол эвакуяванага туды ўрада Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР). Але ж такія былі ў меншасці. Асноўныя пласты беларускай эміграцыі стаялі на раздарожжы: адны шукалі сабе прытулку сярод рускіх, другія — сярод палякаў, трэція — сярод украінцаў, рыхтуючы гэтым самым калі не сабе, дык сваім дзецям канчатковую культурна-моўную асіміляцыю. Такое не магло не палохаць шчырых беларусаў. Найбольш абачлівыя вырашылі, што ад гэтага можа хоць неяк выратаваць уніяцкая царква з яе беларускай мовай набажэнства. Характэрна, што ў ліку першых, хто падаў голас аб яе адраджэнні ў месцах асноўнага пражывання беларускай эміграцыі, быў Мікола Абрамчык, якога неўзабаве выберуць (красавік 1948 г.) прэзідэнтам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). З яго вуснаў не раз гучала, што ўніяцкая царква ёсць сапраўды беларуская нацыянальная царква. І шчырыя беларусы цягнуліся да яе. Яна дала нямала святароў, якія ўдалечыні ад Бацькаўшчыны ўвесь час жылі яе крэўнымі інтарэсамі. Праўда, і за мяжой, як і ў сябе на радзіме, уніяты былі найбольш нешматлікія па колькасці. У першыя гады пасля Другой сусветнай вайны іх налічвалася не больш за 30 чалавек. А вось уніяцкіх

[1] Цыт. паводле газ. «Навіны Беларускай акадэміі». — 1992. — 3 студзеня.

святароў-беларусаў было 7[1], якія пры наяўнасці неабходнай колькасці вернікаў маглі б нямала зрабіць для беларусаў грэка-рымскай царквы ў эміграцыі.

Нястомным, апантаным змагаром за захаванне традыцый беларускай грэка-каталіцкай царквы ў нялёгкіх умовах эміграцыйнага жыцця паказаў сябе айцец Леў Гарошка (памёр у 1977 г.). У 1947 г. у Парыжы ён закладвае выдавецтва «Божым шляхам», якое неўзабаве было пераведзена ў Лондан і пачало тут выпускаць часопіс «Божым шляхам». Апошні нумар яго выйшаў у 1980 г. У выданні часопіса да арышту і зняволення ў цёмныя засценкі НКУС браў удзел айцец Язэп Германовіч — аўтар кніг «Кітай–Сібір–Масква», «Пад знакам “рускае” і “польскае” веры». Вымушаны бадзяцца далёка за межамі дарагой і любай Бацькаўшчыны, Леў Гарошка стала жыў яе інтарэсамі. Найбольш цікавілі святара падзеі, што адбываліся ў першыя гады пасля Кастрычніка 1917 г. на Случчыне. Вынікам такіх творчых пошукаў стала выдадзеная ў 1967 г. у Лондане брашура Льва Гарошкі «Слуцкі фронт. Кароткі гістарычны нарыс Слуцкага ўздыму 1917–1921 гг.», якую з нязначнымі скарачэннямі перадрукавала ў лістападзе–снежні 1992 г. рэспубліканская газета «Звязда», калі ўпершыню ў Беларусі нацыянальная самасвядомая частка грамадскасці адзначала гадавіну Слуцкага збройнага чыну.

Многае мог бы зрабіць на карысць грэка-каталіцкай царквы моцна ўлюбёны ў свой край і яго народ Чэслаў Сіповіч (нарадз. у 1914 г. у в. Дзядзінцы Браслаўскага павета). Яшчэ перад вайной ён вымушаны быў эміграваць у Італію. Апынуўшыся ў яе сталіцы, становіцца ў 1940 г. уніяцкім святаром. Аднак з-за скарачэння, а затым і поўнай адсутнасці беларускіх уніяцкіх прыходаў у Італіі яму ў далейшым давялося служыць у каталіцкай царкве. Калі ж надаралася магчымасць, Чэслаў Сіповіч з вялікай ахвотай ішоў да ўніяцкіх вернікаў. Аднойчы ў час імшы ў невялічкай уніяцкай царкве Лондана беларускую мову, якая па-незвычайнаму прыгожа лілася з вуснаў святара Чэслава Сіповіча, пачула маладая англійская паэтка Вера Рыч. Пачула і вельмі зацікавілася, прычым на ўсё жыццё. Шмат папрацавалі дзеля навучання Веры Рыч беларускай мове айцец Леў Гарошка і наш эмігрант Аніська.

[1] Навіны Беларускай акадэміі. — 1993. — 1 студзеня.

Вынікі аказаліся вельмі плённымі. Паэтка ў такой ступені авалодала новай для яе мовай, што пачала перакладаць на англійскую вершы беларускіх аўтараў. Першым быў верш Янкі Купалы «Брату ў чужыне», які змясціла на сваіх старонках беларуская газета «Бацькаўшчына», што выходзіла ў Нямеччыне. Ужо ў сане біскупа Чэслаў Сіповіч пасадзейнічаў адкрыццю ў 1961 г. у Чыкага беларускай уніяцкай царквы імя св. Юрыя і некалькі разоў адпраўляў у ёй набажэнства. З такой жа місіяй наведваў гэты амерыканскі горад і айцец Аляксандр Надсан (Лондан).

Паважлівае стаўленне ўніяцкага духавенства і на чужыне да беларускіх нацыянальных традыцый выклікала да яго сімпатыі з боку землякоў-іншаверцаў, якім заўжды быў дарагі ўспамін аб Бацькаўшчыне. Ёсць прыклады іх шчырай садружнасці з уніятамі. Тут можна спаслацца на такі факт, што нейкі час хорам уніяцкай царквы Хрыста Збавіцеля ў Чыкага кіраваў сам кампазітар Мікола Куліковіч-Шчаглоў, які не належаў да гэтай веры.

Не гэтак проста паверыць, але дух беларускага ўніяцтва прысутнічаў і ў далёкай ад нас Маньчжурыі. Як вядома, у яе сталіцы Харбіне яшчэ з 1928 г. місійнай дзейнасцю займаўся накіраваны сюды Апостальскім пасадам адзін з самых прагрэсіўных беларускіх ксяндзоў Фабіян Абрантовіч. Незадоўга перад Другой сусветнай вайной яго тут замяніў на пасадзе Апостальскага адміністратара а. Андрэй Цікота. Ён жа яшчэ тут быў кіраўніком Місіі ўсходняга (г. зн. уніяцкага) абраду і дырэктарам ліцэя св. Мікалая. Толькі арышт а. А. Цікоты ў снежні 1948 г. кітайскімі камуністамі прыпыніў яго дзейнасць. Ад гэтага часу пачаў асвойваць зусім непрывычнае жыццё ў савецкіх турмах і лагерах. Вось якім ён запомніўся ксяндзу Язэпу Германовічу пасля пяцімесячнага знаходжання ў Чыцінскай турме: «Цікота вельмі цяжка перажываў турму ў Чыце. Калі я яго ўбачыў… дужа зьдзівіўся, як гэты моцны чалавек схудзеў і паслабеў; нават ягоны голас, заўсёды гучны і мілагучны, стаўся прыглушаным, як надтрэснуты звон. Да турмы а. Андрэй адзначаўся ясным розумам, хуткай арыентацыяй, валадарнай воляй, разгонам і гібкасцяй у працы. Ён меў здольнасьць і характар правадыра, кіраўніка і ніколі не хадзіў за іншымі, але заўсёды дырыгаваў у грамадскім жыцьці. А ў турме ў ягоным целе і ў душы адчувалася зьнямога й старэчая адраньцьвеласьць, а меў тады толькі

57 гадоў!.. Здавалася, што Цікоту ў турме падмянілі…»[1] Пасля Чыты А. Цікота нейкі час знаходзіўся ў Цэнтральнай бальніцы для зняволеных (Тайшэцкі раён Іркуцкай вобласці). Там у яго зусім не палепшала са здароўем, але ўсё ж выпісалі з бальніцы і накіравалі ў лагер звычайнага тыпу. Неўзабаве адбылася размова з высокім начальствам, якое прапанавала ксяндзу пасаду «першага біскупа ў Менску (мітрапаліта), але з засьцярогай, што будзе працаваць пад урадавай дырэктывай». Згоды не даў і працягваў знаходзіцца на цяжкім становішчы да апошняга дня свайго зямнога жыцця — 11 лютага 1952 г.[2]

Менш за ўсё чагосьці з уніяцтва захавалася на тэрыторыі міжваеннай БССР. Хутка знікала яно пасля вайны з Германіяй і на землях былой Заходняй Беларусі. У цэлым па БССР афіцыйна не было зарэгістравана ніводнай уніяцкай абшчыны. Уніяцкая ідэя магла культывавацца толькі неафіцыйна, у прыватным жыцці канкрэтных асобаў. Такога ніяк нельга адмаўляць. Цікавы факт можна прачытаць у працы Алега Бембеля «З “падпольнай” кнігі». Ён піша, што аднаму з яго рэспандэнтаў у 40-я гады мінулага стагоддзя ў Запарожжы нянька-беларуска чытала ўніяцкую Біблію на беларускай мове, чым пасадзейнічала выхаванню ў яго павагі і да гэтай мовы, і да беларускай культуры ўвогуле. Вынікае, што нянька так да канца і не забылася, што калісь беларусы належалі да ўніятаў.

Ніяк не забываліся на грэка-католікаў і пазней, нават пасля заканчэння 150-гадовага тэрміну ад моманту скасавання Берасцейскай царкоўнай уніі. Прычым неабавязкова, каб гэта памяталі служыцелі праваслаўнага ці каталіцкага кліраў. Сустракаліся неабыякавыя да гэтай канфесіі асобы і сярод камуністычных ідэолагаў. Так, чытаючы артыкул А. Бажко і В. Пепляева «Боскі дранг нах Осгэн», трапляеш на такія азначэнні ўніяцкай царквы: «назойлівае, нахабнае і крыклівашумнае дзецішча каталіцызму», «подленькае зачацце», «унія… пакінула сапраўды крывавыя старонкі». «Брэсцкая унія 1596 года, нібы той казачны дракон, якому раз за разам адсякалі галовы, працягвала атручваць сваім смярдзючым духам жыццё рускага, украінскага,

---

[1] Гэрмановіч Язэп. Кітай–Сібір–Масква // Спадчына. — 1994. — № 2. — С. 65.

[2] Тамсама. — С. 66.

беларускага народаў, сварыць іх з суседзямі»[1]. Уся гэтая несусветная хлусня падавалася людзям у час, калі ўжо ў самай вялікай на планеце Зямля бязбожнай краіне павеяла дэмакратыяй, пачалі пераглядацца адносіны дзяржавы да рэлігіі.

## § 10. ПАКУТНЫ ШЛЯХ АДРАДЖЭННЯ

З пачаткам «Гарбачоўскай перабудовы» надышоў канец ледзь не суцэльнаму адлучэнню беларускага народа ад Бога, якое доўжылася дзесяцігоддзямі. У адрыве ад рэлігійнага жыцця выгадавалася не адно пакаленне людзей. Цяпер жа многія з іх пачалі скіроўваць свой позірк да Усявышняга, наведваць службу ў храмах. Пасля велізарнага перапынку падала свой голас і ўніяцкая царква і падала па добрай традыцыі на беларускай мове, што адразу выклікала да гэтай канфесіі вялікую любасць у нацыянальна свядомых грамадзян і асабліва моладзі. Аднак для большасці беларусаў само паняцце ўніяцтва з’яўляецца рэччу за сямю пячаткамі, у чым «заслуга» нашай грамадазнаўчай і асабліва гістарычнай навукі. Праўда, апошнімі гадамі яна не маўчыць, стараецца вызваліць уніяцкую ідэю ад фальсіфікацый, якую некалі дарэмна ўзвялі на гэтую канфесію рускія і беларускія вучоныя. У ліку тых, хто адным з першых з аб’ектыўных пазіцый глянуў на дадзеную праблему, быў наш вядомы літаратуразнаўца Алег Лойка. Ён зусім слушна заяўляў, што без сутыкнення праваслаўна-грэчаскай і рымска-каталіцкай веры ў Беларусі тут бы не ўзнікла «асобнай трэцяй уласнабеларускай» веры — уніяцкай. «Уніяцтва ж было — і гэта трэба падкрэсліць — не толькі плёнам насаджэння, не толькі ажыццяўленнем ідэі П. Скаргі. Яно мела і ўласнамясцовую глебу, яго падтрымала мясцовая духоўна-феадальная вярхушка, пайшло за ім у пэўнай частцы і сярэдняе духавенства, і клір. Пайшлі ж яны не толькі з-пад прымусу, не толькі з-за падачак, але і з ідэйных перакананняў…»[2]

У палеміцы з літаратуразнаўцам У. Казберуком разгорнутую, аб’ектыўную характарыстыку гэтай канфесіі даў гісторык Міхась Біч:

---

[1] Звязда. — 1985. — 26 мая.

[2] Літаратура і мастацтва. — 1989. — 17 сакавіка. — С. 7.

«…замыслы арганізатараў уніі акаталічыць, а затым паланізаваць праз яе беларускі народ правалілася ўжо к сярэдзіне XVII ст. І з таго часу унія страціла падтрымку з боку дзяржавы і класа феадалаў і стала верай выключна простых, працоўных людзей, найперш — сялянства. Памешчыкаў сярод уніятаў не было: яны ў той час практычна ўсе (калі не лічыць малазямельнай шляхты) перайшлі ў каталіцтва, прынялі польскую культуру і цалкам адарваліся ад народа. А ўніяцкая царква ў другой палове XVII — першай трэці XIX ст. адыграла несумненна станоўчую ролю ў захаванні беларускага этнасу, развіцці нацыянальнай асветы і культуры ў той найцяжэйшы перыяд нашай гісторыі. Асімілятарскую — русіфікатарскую і паланізатарскую дзейнасць на Беларусі вялі праваслаўная царква і каталіцкі касцёл»[1].

Трохі пазней, у кастрычніку 1991 г., у сумесным артыкуле філолага Лолы Званаровай і філосафа Уладзіміра Конана ўзнікненне гэтай рэлігійнай плыні было растлумачана спробай пераадолець рэлігійны раскол беларусаў на праваслаўных і католікаў; адзначана, што ўніяцтва карысталася беларускай мовай. «Спачатку (у канцы XV ст.) беларускія і ўкраінскія ўніяты трапілі ў залежнасць ад каталіцызму. Аднак ва ўмовах Брэсцкай уніі (1596) яны захавалі царкоўную аўтаномію і абрад паводле праваслаўнага чыну. Гэта дазволіла беларускім уніятам (а сярод іх было нямала аўтарытэтных рэлігійных, палітычных і культурных кіраўнікоў Беларусі) у XVII–XVIII стагоддзях наблізіць хрысціянскую царкву да беларускай нацыянальнай культуры»[2].

Сказанага, думаю, дастаткова, каб убачыць, якая ў нас у апошнія гады мінулага стагоддзя пачала фармавацца думка адносна ўніяцтва. І яна, несумненна, у найбольшай ступені адпавядае гісторыі.

Да асвятлення гэтай праблемы колькі гадоў таму падключыўся і аўтар дадзенай кнігі. Больш за ўсё крытыкавалі мяне апаненты за тое, што назваў уніяцтва самастойнай канфесіяй. Парадаксальна, што такім яго не хочуць прызнаць ні католікі, ні праваслаўныя, але найперш апошнія. Толькі ўніяцтва адмяжоўвае сябе як ад першых, так і ад другіх і мае на тое важкія падставы, бо бачыць у сваёй веры шмат адметнага ад гэтых дзвюх хрысціянскіх канфесій. Дарэчы, такое размежаванне

---

[1] Настаўніцкая газета. — 1991. — 27 ліпеня.
[2] Тамсама. — 19 кастрычніка.

прызнавалі ў мінулым свецкія і царкоўныя ўлады Расійскай імперыі. У якасці доказу прывяду вынятку з дакладной запіскі Беларускага генерал-губернатара Н. Хаванскага, якую ў 1824 г. ён накіраваў у Пецярбург: «Для закона Божага прызначыць трох законанастаўнікаў пануючых на Беларусі рэлігій грэка-расійскай, рымска-каталіцкай і ўніяцкай». Як бачым, апошняя праходзіць як зусім самастойная рэлігія. Каб усё было не так, дык у 1839 г. Найсвяцейшы Сінод сваім рашэннем ліквідаваў бы на карэнных беларускіх землях не толькі ўніяцкія, але і каталіцкія храмы. Не, так не было зроблена, бо розніцу паміж імі вельмі добра разумеў найвышэйшы орган Рускай праваслаўнай царквы. Дарэчы, да рэвалюцыі 1917 г. і сярод рускіх гісторыкаў былі асобы, якія лічылі, што ўніяцтва нельга атаясамліваць ні з каталіцызмам, ні з праваслаўем. З такім пунктам гледжання не разыходзіўся і добры знаўца гісторыі рэлігіі К. Харламповіч, калі ён пісаў, што з 1596 г. у Беларусі «стала існаваць унія, як новая форма царкоўнага жыцця, як рэлігійнае таварыства, адметнае ад каталіцкай і праваслаўнай цэркваў». Не ведаю, як каго, а мяне гэта цалкам пераконвае ў тым, што ўніяцтва ні ў якім выпадку нельга змешваць з каталіцызмам на любым з этапаў яго гісторыі. І ўсё ж такое сустракаецца ў сучасных прыхільнікаў праваслаўя. Таму тым, хто сёння без усялякіх ваганняў ставіць знак роўнасці паміж уніяцтвам і каталіцызмам, хацеў бы нагадаць, што ў міжваеннай Польшчы вернікам першай пачувалася куды горш, чым праваслаўным. Прыхільнасць уніятаў да нацыянальнай духоўнай спадчыны, выкарыстанне імі беларускай мовы ў набажэнстве лічылася намнога страшнейшым ліхам, чым ужыванне ў гэтых мэтах у праваслаўных храмах царкоўнаславянскай і рускай моваў. Страшнейшым таму, што ў апошнім выпадку, думалася, вернікам усё ж цяжэй будзе ўсвядоміць сябе беларусамі, чым уніятам з беларускай мовай у набажэнстве адчуць сябе сапраўднымі, шчырымі беларусамі, што з’явіцца важным фактарам пашырэння і паглыблення сярод іх нацыянальна-вызваленчага руху.

Вядома, польскі каталіцкі клір разглядаў уніяцтва на ранніх этапах яго гісторыі як сродак перацягнення вернікаў апошняга на свой бок. Такога не здарылася на шчасце беларусаў і на бяду многіх польскіх католікаў крайне нацыяналістычнага толку. Адсюль у большасці з іх, не выключаючы і высокапастаўленых асобаў, непрыязныя, калі не ска-

заць, варожыя, адносіны да ўніятаў. Не выпадкова ж, калі князю Адаму Чартарыйскаму напачатку XIX ст. удалося заняць шэраг высокіх пасад ва ўрадзе Расійскай Імперыі і ўплываць на яе ўнутраную і знешнюю палітыку, у яго планах аднаўлення Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. не толькі праваслаўе, але і ўніяцтва падлягала ліквідацыі. Каб апошняе было нейкім арганічным адгалінаваннем, атожылкам каталіцызму, гэты здольны і разумны палітык не адважыўся б на такі крок. Таму, відаць, правільна будзе гаварыць, што ўніяцтва ўвесь час было персона нон-грата не толькі для праваслаўя, але і каталіцызму. Сёння гэтай недарэчнасці трэба пакласці канец, што пойдзе на карысць беларускай нацыянальнай ідэі.

Не сумняваюся, што з цягам часу ўсе дэмакратычна настроеныя людзі з вялікай павагай паставяцца да несправядліва ганімых з 1839 г. уніятаў. Будучыня ў Беларусі ім, напэўна ж, забяспечана. Але яна не прыйдзе сама сабой, бо ёсць на тое важкія прычыны, у чым пераканаліся і самі ўніяцкія святары. Многае імі робіцца па распаўсюджванні сваёй веры, але яна ніяк не можа пахваліцца сваёй масавасцю. Унійная ідэя з цяжкасцю авалодвае людзьмі і на Беласточчыне. На суседняй Бярэсцю тэрыторыі, у мястэчку Кастамлоты, знаходзіцца адзіная на сёння ў Польшчы ўніяцкая парафія. Яна мае свае храмы ў Бяла-Падляску, Кодані, Пратуліне.

Як ні дзіўна, але і ў наш час ідэю адраджэння ўніяцтва без усялякай радасці сустрэлі праваслаўныя іерархі — гэтыя спрадвечныя праваднікі ў Беларусі рускай ідэі. Найбольш за ўсё ім не падабаецца паўсюднае ўжыванне ўніяцкай царквой беларускай мовы, бо ў такой сітуацыі і праваслаўнай трэба ісці аналагічным шляхам, каб паказаць вернікам прыхільнасць да іх духоўных традыцый. З усіх хрысціянскіх канфесій сёння ўніяцтва ў найбольшай ступені адпавядае патрабаванням беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, у чым вялікая заслуга асабіста айца Яна Матусевіча, які першым стаў на гэты шлях. Можна толькі радавацца гэтай важнай падзеі ў рэлігійным жыцці, бо выкарыстаннем роднага слова беларусаў, улікам мясцовага нацыянальнага каларыту ўніяцтва ў адрозненне ад праваслаўнай і каталіцкай цэркваў будзе не разбураць, а ўзбагачаць духоўны патэнцыял, этнічную самасвядомасць карэннага насельніцтва краю. На гэта было скіравана і распачатае з канца 1990 г. выданне на беларускай мове часопіса «Унія»,

які адразу выклікаў вялікую зацікаўленасць у чытача зместам сваіх публікацый. Шкада толькі, што па незалежных ад рэдакцыі прычынах чарговы трэці нумар часопіса затрымаўся амаль на два гады. У канцы лістапада 1993 г. адбылося аб’яднанне выдавецкай суполкі ТБМ «Унія» з «Менскай выдавецкай суполкай» ТБМ пад адной агульнай назвай «Выдавецкая суполка “Унія” ТБМ імя Ф. Скарыны».

Уніяцкай царкве робіць гонар, што, як толькі яна стала на ногі, узяла на сябе клопат і па выхаванні дзяцей у нацыянальным духу. Дзякуючы яе намаганням юныя мінчукі атрымалі магчымасць вучыцца ў нядзельнай школе ўніяцкай царквы, дзе рабочай мовай з’яўлялася беларуская. У заснаванні школы вялікі ўклад і нашага земляка Апостальскага візітатара грэка-каталіцкай царквы для беларусаў у замежжы Аляксандра Надсана, які жыве ў Лондане.

Беларускія адраджэнцы бясконца павінны быць удзячныя айцу Аляксандру Надсану і за беларускія пераклады літургічных тэкстаў, прызначаных для ўніяцкага богаслужэння. Ватыкан без усялякага пярэчання і прамаруджвання зацвердзіў іх. Так, на новым этапе гісторыі ўніяцкай царквы беларуская мова атрымала статус кананічнасці, стала мовай набажэнства. З асноўных хрысціянскіх канфесій у Беларусі смялей пайшла за ўніяцкай царквой каталіцкая.

Дух уніяцтва вельмі хутка ажыў і ў асяроддзі беларусаў Масквы, многія з якіх свята шануюць духоўныя традыцыі сваіх продкаў. Тут ужо ў 1990 г. у складзе Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны ў Маскве была створана ўніяцкая суполка пад старшынствам Генадзя Прыбыткі. З удзелам айца Яна Матусевіча з Мінска яна правяла колькі набажэнстваў, уніяцкі хрост дзяцей і дарослых. Калі ў студзені 1991 г. у прадстаўніцтве Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у Маскве ладзілася святкаванне Дзядоў, на якім ушаноўвалася памяць Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы і іншых слынных людзей зямлі нашай, а затым праводзіўся малебен па ўсіх загінулых беларусаў, вёў яго старшыня ўніяцкай «дзясяткі» Генадзь Прыбытка.

Да спробаў адраджэння Беларускай уніяцкай царквы з прыхільнасцю паставіліся многія нашы эмігранты, бо ў іх сэрцы і памяці да канца не знікла гэта ідэя. У першую чаргу тут можна назваць праведзеную ў канцы 1991 г. у Лондане ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны навуковую канферэнцыю «Уніяцкая царква ў Беларусі», у якой бралі ўдзел і навукоўцы нашай рэспублікі. На канферэнцыі былі

заслуханы даклады айца Аляксандра Надсана «Унія ў Беларусі ўчора і сёння», Анатоля Грыцкевіча «Уніяцкая царква ў Беларусі ў канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзя», Ніны Тэйлар (Лондан) «Уніяцкая царква ў “Дзядах” Міцкевіча». Не ведаю, як іншым, а мне падаецца нелагічным, што першая падобнага роду навуковая канферэнцыя адбылася не ў Рэспубліцы Беларусь, а ў Вялікабрытаніі. Зусім ненармальным лічу, што пасля арганізацыі той канферэнцыі ў нас ні разу не ладзіліся «круглыя сталы», у час якіх можна было б разгледзець не толькі «белыя плямы» ў асвятленні гісторыі Беларускай уніяцкай царквы, але і яе сённяшні стан. Калі б размова за такім сталом пераканала яго ўдзельнікаў у шчырым імкненні ўніяцкіх абшчын будаваць сваю дзейнасць у духу нашага сучаснага нацыянальна-культурнага Адраджэння, ім бы менш чынілі розных перашкодаў у гэтай высакароднай справе.

Не сакрэт, і зараз ва ўніяцтва ёсць праціўнікі, прычым нямала. Не раз былі выпадкі зусім не паважлівых, калі не сказаць хуліганскіх адносін да яго. Лічу негуманна, а не дык і проста амаральна ва ўмовах сучаснай дэмакратызацыі грамадскага жыцця глушыць, незалежна па якіх прычынах, імкненне людзей звяртацца да Бога такім шляхам, які яны самі выбралі для сябе. Першымі яшчэ ў 1990 г. замахнуліся на кволыя парасткі той рэлігійнай плыні, што мае такую шматгадовую і ніколькі незаплямленую гісторыю на беларускай зямлі, віцябляне, г. зн. жыхары таго горада, дзе некалі быў забіты ўніяцкі архібіскуп Ясафат Кунцэвіч. І пазней праціўнікамі ўніяцтва не забывалася асоба Ясафата Кунцэвіча. Арыгінальны спосаб нагадаць сучаснікам, як быў забіты гэты ўніяцкі святар, прыдумала група функцыянераў Славянскага сабора «Белая Русь». У канцы лістапада 1994 г. яны на вачах міліцыі ладзілі па вуліцах Віцебска шэсце з лялькай у абліччы Ясафата Кунцэвіча, якую затым спалілі ля будынка Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, у якім якраз праходзіў святочны вечар з нагоды нараджэння пісьменніка Уладзіміра Караткевіча.

Мы вельмі рана забыліся на сумны вопыт савецкага атэізму, які досыць пераканаўча паказаў, што ў метаду забароны ёсць і адваротны бок. Праз прымус нельга чалавека ні адарваць, ні далучыць да Бога. Пры ўсім раўнадушшы і абыякавасці, а сям-там перашкодах уніяцкаму руху ён, трэба пагадзіцца, ад самага свайго аднаўлення знаходзіўся ў стадыі пашырэння. Спрыяла гэтаму прызнанне і дабраславенне Беларускай

уніяцкай царквы вясной 1991 г. рымскім папам Янам Паўлам II. Яе вернікі бралі і бяруць актыўны ўдзел у многіх мерапрыемствах адраджэнскага характару. Іх можна было, напрыклад, бачыць 24 сакавіка 1991 г., напярэдадні ўгодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, у Траецкім прадмесці Мінска, на асвячэнні бел-чырвона-белага сцяга. У тым жа годзе яны ўдзельнічалі ў велікодным набажэнстве з хросным ходам па вуліцах беларускай сталіцы, правялі літургію ля царквы святых Пятра і Паўла. Многія ўжо наведалі і палюбілі цудоўныя выступленні мужчынскага камернага хору «Унія», які лічаць за гонар запрасіць для ўдзелу ў самых урачыстых святочных мерапрыемствах. Асабліва запомніліся прысутным яго выступленні 2 кастрычніка 1992 г. у Вільні, калі адбывалася навуковая канферэнцыя ў сувязі са стагоддзем з дня нараджэння вядомай дзяячкі беларускай культуры Зоські Верас, і ў ліпені 1993 г. у Магілёве на Першым фестывалі хрысціянскай музыкі, дзе ён заваяваў званне лаўрэата. Распаўсюджванню ідэй уніяцтва добра паспрыяла газета беларускіх грэка-католікаў «Царква», якую з ліпеня 1995 г. пачалі выдаваць дзве грэка-каталіцкія парафіі Мінска. Сама ж рэдакцыя газеты знаходзілася ў Полацку, а ўзначальваў яе іераманах Валерый Алексяйчук. Пазней яна выдавалася і працягвае выдавацца ў Бярэсці.

Гвалтам скасаваная ў 1839 г. Беларуская ўніяцкая царква ажывае на нашых вачах, і перашкаджаць ёй у гэтым было б і антыгуманным, і антыдэмакратычным. Прынцып талерантнасці неабходна захоўваць і ў дачыненні да ўніяцкай царквы. Мяркую цалкам правамерным і абгрунтаваным зварот апошняй да афіцыйных уладаў краіны і Мінска аб перадачы ёй будынка былой Петра-Паўлаўскай царквы на Нямізе для праўлення набажэнства, бо зусім несправядліва, што некалі самая масавая ў нашым краі канфесія цяпер, па сутнасці, не мае аніводнага прыдатнага для службы храма. Як марудна вырашалася і вырашаецца гэтая праблема, вынікае з таго, што да канца 1993 г. з усіх храмавых пабудоваў, якія некалі належалі ўніятам, ім была вернута толькі адна капліца (!) на каталіцкіх могілках у Магілёве. Мала што змянілася да лепшага і пазней. Практычна ўсе іх уцалелыя будынкі пакуль што знаходзяцца ў праваслаўных ці католікаў, што крайне негуманна ў дачыненні да ўніяцкай царквы з яе адданасцю ў мінулым і сёння беларускай культуры і мове. Некалі ж гэтай царкве належалі і даволі дыхтоўныя храмы, прыкладам, будынак у Гародні, дзе не так даўно

знаходзіўся Беларускі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі. У свой час перадача яго праваслаўнай царкве была прызнана незаконнай Пастаяннай камісіяй па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Здаўна ўсталяванае ў народзе правіла: «Што вінен, тое аддаць павінен» — патрэбна разглядаць як абавязковае і ва ўзаемаадносінах розных рэлігійных канфесій.

У нашай публіцыстыцы і цяпер часцей любяць пісаць аб колішніх захопах уніятамі праваслаўных храмаў, што пастараліся некалі вельмі добра выпукліць у сваіх працах гісторыкі праваслаўя. Пераход жа, а нярэдка і захоп праваслаўных храмаў уніятамі быў выкліканы тым, што імі з'яўляліся былыя вернікі праваслаўнай царквы, з удзелам матэрыяльных і грашовых сродкаў якіх узводзіліся такога роду культавыя пабудовы. Значыцца, раз колішнія вернікі праваслаўя станавіліся ўніятамі, яны заканамерна мелі поўнае права на маёмасць і будынкі, што раней належалі яму. У шэрагу выпадкаў, калі яны не перадаваліся грэка-католікам добраахвотна, апошнія маглі звяртацца і да насільных акцый. А вось у верасні 1612 г. давялося сутыкнуцца з фактам зусім процілеглага характару, калі праваслаўныя Мінска выгналі ўніятаў з ужо пабудаванай іх уласнымі сіламі саборнае царквы Нараджэння Прасвятой Багародзіцы і аддалі яе манахам, што прыехалі сюды з Вільні.

Своеасаблівая з'ява рэлігійнага жыцця ў Беларусі — амаль хранічная адсутнасць уласных царкоўных цэнтраў. Такія цэнтры звычайна знаходзіліся на тэрыторыі краін, улады якіх мелі агрэсіўныя планы ў дачыненні да нашага краю. Аднак, нягледзячы на ўсё гэта, высокія беларускія духоўныя асобы не праяўлялі належнай пільнасці і пагаджаліся мець такі цэнтр дзе-небудзь у іншых месцах, а не ў сябе дома. На жаль, такой безразважнай пазіцыі прытрымліваліся беларускія ўніяты і на пачатку сучаснага адраджэння. Яны яшчэ не паспелі як след стаць на ўласныя ногі, а ўжо гатовыя былі аддацца пад юрысдыкцыю сваіх украінскіх братоў. З гэтым далёка не ўсе былі згодныя, таму выказвалася і думка аб неабходнасці стварэння ў Беларусі асобнай іерархіі для ўніяцкай царквы. І я цалкам пагаджаюся з гэтым. Бо нельга, каб царква, якая імкнецца будаваць сваю дзейнасць у адпаведнасці з патрабаваннямі беларускага Адраджэння, падпарадкоўвалася іерархам

уніяцкай царквы Заходняй Украіны. Пры гэтым не трэба забывацца, што ў абрадах апошняй больш усходняга, візантыйскага, у той час як у нашых больш запазычванняў ад заходняга, грэка-каталіцкага. У цэлым жа ўніяцтва і ўкраінскае і беларускае спрадвеку лічылася своеасаблівым тыпам каталіцкай царквы ўсходняга візантыйска-славянскага абраду, якая звычайна карыстаецца нацыянальнай мовай, не цураючыся ў пэўных варунках і царкоўнаславянскай мовы.

Апошнім часам даволі выразна вызначылася, што ва ўмовах існавання дзвюх магутных хрысціянскіх канфесій — праваслаўнай і каталіцкай — уніяцкай царкве з-за іх (найбольш першай) супраціўлення зусім нялёгка будзе ўзняць на належны ўзровень сваю дзейнасць, хаця апошняя, як ніякая іншая, найбольш адпавядае нацыянальным інтарэсам беларускага народа, выкарыстоўваючы ў набажэнстве яго нацыянальную мову, шануючы гістарычныя традыцыі і духоўную спадчыну. Калі на схіле XX ст. ва ўніяцкай царквы мелася толькі каля дзясятка абшчын, і то сёй-той з высокіх асобаў праваслаўнага духавенства бачыў у ёй нейкую небяспеку для сябе. На пытанне Мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму Філарэту, Патрыяршаму Экзарху ўсяе Беларусі (яно было зададзена яму падчас прэс-канферэнцыі ў снежні 1992 г. ) аб магчымай пагрозе праваслаўю ў выніку адраджэння грэка-каталіцкай царквы быў дадзены такі адказ: «Пагроза — у паўтарэнні гістарычных памылак у адносінах паміж Цэрквамі. У прынцыпе, унія — гэта няпраўдзівы шлях да адзінства ў Царкве і, на мой погляд, гісторыя нас навучыла, што унія прыводзіць не да адзінства, а да паглыблення падзелу паміж Праваслаўем і Рыма-Каталіцтвам. Аб гэтым вельмі яскрава сведчыць гісторыя ўніяцкага руху ў Беларусі ў мінулым і сучасныя падзеі ва Украіне. Таму я шчыра кажу прадстаўнікам Ватыкана і Рымска-Каталіцкай Царквы: калі вы хочаце ўскладніць нашы экуменічныя адносіны, калі вы хочаце пасварыць нас адно з адным, то праводзьце палітыку уніі — гэта нецаркоўны, палітычны шлях да царкоўнага адзінства». Не выключаючы права на існаванне ўніяцкіх абшчын, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі ўсё ж лічыць, што «яны ствараюцца штучна, кіруючыся, хутчэй, толькі палітычнымі і нацыяналістычнымі ідэямі…».

Зусім іншае чулася ў лютым 1991 г. з вуснаў уніяцкага святара Аляксандра Надсана, беларуса па нацыянальнасці, што жыве ў Лон-

дане, з’яўляецца Апостальскім візітарам для беларусаў-католікаў замежжа, займаецца навуковай дзейнасцю, узначальвае створаны ў Вялікабрытаніі ў 1989 г. Беларускі камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі: «…мы, уніяты, шануем усе рэлігіі, бо для кожнага чалавека яго перакананні вельмі дарагія і ніхто не мае права іх абражаць. Таму не трэба нікому навязваць свае думкі, трэба паважаць адзін аднаго, памятаючы, што Хрыстос памёр за ўсіх». Дарэчы будзе прыгадаць, што ў Беларускай уніяцкай капліцы святых апосталаў Пятра і Паўла, што ў Лондане, айцец Аляксандр Надсан богаслужэнне вядзе на беларускай мове. Службу ў капліцы ладзяць два разы на дзень. Асабліва шмат людзей сюды збіраецца па нядзелях і ў святочныя дні. Часам яе наведваюць і ангельцы, каб пачуць, як гучыць у час набажэнства беларуская мова. Айцец Аляксандр Надсан ужо больш за дваццаць гадоў загадвае бібліятэкай імя Ф. Скарыны, якая знаходзіцца побач з гэтай капліцай. Для сваіх вернікаў ён напісаў на беларускай мове брашуры «Вялік Дзень», «Боская літургія між святымі Айца Нашага Яна Залатавуснага», «Абрад пахавання», «Абрад шлюбу», «Малебен за Беларускі Народ» і інш.

Заслугоўвае быць адзначаным, што шмат гадоў таму гэты адзіны ў Лондане грэка-рымскі храм наведала са сваім царкоўным апекуном Вера Рыч, якую сёння многія ведаюць як англійскую паэтэсу, перакладчыцу на беларускую мову. Англічанка, якая да гэтага ўжо набыла пэўныя веды па ўкраінскай мове, з асаблівай цікавасцю прыслухоўвалася, як гучыць і блізкароднасная да яе другая ўсходнеславянская мова. Спадабалася. Цягам доўгіх гадоў Вера Рыч з’яўлялася «членам кангрэгацыі беларускай уніяцкай царквы, да апошняга часу была актыўнай удзельніцай царкоўнага хору»[1].

У Заходнім паўшар’і беларускія ўніяты свядома заяўляюць аб сабе толькі ў амерыканскім горадзе Чыкага. Але і там іх, паводле звестак нашага земляка Міхася Белямука, у пачатку 90-х гадоў было не больш за паўтара дзясятка.

Кожны чалавек вольны мець уласны погляд на унію, што паспрабаваў зрабіць і аўтар дадзенай кнігі. Напісанне яе было пачата

---

[1] Дзінглі Джым. «Гэта было наканавана лёсам». Веры Рыч — 60 // Літаратура і мастацтва. — 1996. — 17 мая. — С. 16.

задоўга да таго, як Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі былі сказаны вышэйпрыведзеныя словы. Атрымалася зусім ненаўмысна, што тэкст маёй кнігі вельмі шмат дзе не супадае з імі. З яе ніяк не вынікае, што ў грэка-католіках трэба бачыць пагрозу паўтарэння гістарычных памылак у адносінах паміж цэрквамі. Наадварот, такія памылкі толькі тады на ўвесь свой рост і з’явіліся на паверхні, калі ў 1839 г. валявым рашэннем зверху скасавалі Берасцейскую царкоўную унію 1596 г. Менавіта пасля такога скасавання найбольш паглыбіўся ў Беларусі падзел паміж праваслаўем і рыма-каталіцтвам. Дрэнную справу зробіць Ватыкан, калі паслухае Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі і не будзе падтрымліваць уніяцкіх абшчын у нашай рэспубліцы, каб гэтым нібыта не ўскладніць экуменічныя адносіны паміж праваслаўнай і каталіцкай цэрквамі. Дрэнную таму, што да гэтае пары як першая, так і другая (у значна меншай ступені) беларусізацыю набажэнства ажыццяўляюць нібыта з-пад палкі, марудна, а ўніяцтва гатова зрабіць і робіць усё, каб яго царква цалкам адпавядала ідэі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння.

У наш час многія нацыянальна свядомыя беларусы вельмі прыхільна ставяцца да ідэі і ўніяцтва, і аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Не сумняваюся, з гэтых рэлігійных плыняў пераможа тая, якая будзе найбольш улічваць нацыянальныя інтарэсы беларускага народа. У рускамоўнай жа праваслаўнай і ў немалой меры польскамоўнай каталіцкай цэркваў Беларусі, калі яны карэнным чынам не зменяць сваіх дачыненняў да беларускага слова, няма будучага ў нашым краі, бо сапраўднае служэнне Богу павінна развіваць, узбагачаць духоўны патэнцыял вернікаў, а не пазбаўляць, адлучаць іх ад роднай культуры і мовы. Надышоў час, хоць і з вялікім спазненнем, зрабіць у нашых храмах явай патрыятычнае пажаданне ўніяцкага святара Казімера Сваяка, так выказанае ў яго вершы:

Пашлі мне, Божа, пару такую,
Калі пачнём мы імшу святую
За край наш родны адпраўляць:
Бо вельмі цяжка, што мова наша —
Розуму й сэрца нашага паша
Не ўмее Бога выслаўляць.

Асэнсоўваючы пройдзены ўніяцкай царквою шлях, прыходзіш да высновы, што больш цярністым і складаным ён ужо і не мог быць. Можа, з адпушчаных ёй гісторыяй 243 гадоў і набярэцца якіх-небудзь два-тры дзясяткі больш-менш спакойна жыцця. А ўвесь астатні час — гэта суцэльнае змаганне з каталіцкай і праваслаўнай рэлігіямі за сваё выжыванне. Дзіву даешся: і як толькі напярэдадні далучэння Беларусі да Расійскай імперыі ўніяцкай веры магло прытрымлівацца прыкладна 80 адсоткаў беларусаў! Менавіта тады для ўніятаў надышоў самы цяжкі ў гісторыі час, бо ім даводзілася абараняцца не толькі з захаду, ад польскага каталіцкага, але і з усходу, ад рускага праваслаўнага духавенства, якога вельмі моцна падтрымлівала імперская ўлада.

Узятае ў ціскі з захаду і ўсходу, уніяцтва паступова здавала пазіцыю за пазіцыяй, але так і не здало іх да канца, пакуль у 1839 г. афіцыйна не было забаронена свецкімі і духоўнымі ўладамі Расійскай імперыі.

Многімі вучонымі ўніяцтва справядліва лічылася народнай, нацыянальнай рэлігіяй беларусаў. Падставай называць яго такім з'яўлялася найперш павага ўніяцкай царквы да духоўных традыцый, роднай мовы беларуса. Гэта толькі тады, як польскаму каталіцкаму духавенству ўдавалася ўзяць пад свой моцны ўплыў уніяцкія храмы (заўважу, далёка не ўсе), у іх набажэнстве замест царкоўнаславянскай і беларускай моваў загучалі латынь ці польская. У адносінах мовы ўніяты былі больш талерантнымі і нацыянальна-прагрэсіўнымі і за польскую каталіцкую, і за Рускую праваслаўную цэрквы ў Беларусі. Каб з іх боку не было моцнага ўціску, беларуская мова панавала б не толькі ў час казанняў, а і ў літургічнай службе ўніяцкай царквы.

Афіцыйная забарона ў 1839 г. уніяцкай царквы — акт паводле ўсіх сваіх параметраў крайне несправядлівы і антыгуманны. Сама ўнійная ідэя ім не была цалкам ліквідавана, хаця і аказалася моцна падарванай. Невыпадкова нават пры самых мізэрных магчымасцях гэтая ідэя ўвасаблялася ў жыццё. У чарговы раз такое адбылося на хвалях «Гарбачоўскай перабудовы».

Як жа да гэтага нам, нашчадкам колішніх грэка-католікаў, сёння трэба ставіцца? Вядома, з вялікай павагай, як да сваёй нацыянальнай гісторыі, роднай культуры, бо ў гэтую царкву хадзіла абсалютная большасць беларусаў. Уніяцтва неаддзельнае ад нашай духоўнай культуры. Будзем памятаць, што ліквідацыя яго адбылася не па волі вернікаў, а насуперак іх жаданню, у выніку валявога акта Найсвя-

цейшага Сінода, вярхоўнай улады Расійскай імперыі, сутнасць усёй палітыкі якіх у дачыненні да нашага краю інакш нельга характарызаваць, як асімілятарскую. І калі дзеля эфектыўнасці такой палітыкі ім спатрэбілася скасаваць уніяцкую царкву, значыцца, у ёй бачылася сур'ёзная процівага русіфікацыі, нешта патрэбнае і каштоўнае для выжывання, захавання беларускага народа як самабытнага этнасу. Пра непасрэднага ж праваднікa палітыкі ліквідацыі ўніяцтва епіскапа Іосіфа Сямашку (з 1840 г. — архіепіскап, з 1852 г. — мітрапаліт) нагадаю, што ён вельмі рана, задоўга да сумнавядомага акта 1839 г. стаў заўзятым прыхільнікам адкрытай русіфікацыі, затым актыўна падтрымліваў усе дзеянні М. Мураўёва-«вешальніка» па расправе з удзельнікамі паўстання 1863–1864 гг. Вось таму сёння, калі хтосьці імкнецца адрадзіць уніяцкія традыцыі, нельга ставіць перашкоды. У гістарычнай памяці людзей захоўваюцца падзеі і больш сталага веку, чым уніяцтва ў беларусаў. Вяртаннем да свайго мінулага вельмі часта даводзіцца займацца народам. Таму нічога дзіўнага няма, што з такой з'явай у пытаннях уніяцкай царквы сутыкнуліся і беларусы. Першыя крокі ўжо зроблены. Час рабіць наступныя, каб не пахаваць надзею на яе адраджэнне, у чым мае крэўную зацікаўленасць і аўтар дадзенай кнігі. Ён ані не сумняваецца, што яго прашчуры з мястэчка Магільнае (сучасны Уздзенскі раён) спавядалі ўніяцкую веру і доўгі час памяталі пра яе. Пра гэта сведчаць многія імёны жыхароў мястэчка, народжаных у другой палове XIX — пачатку XX ст. Па лініі майго бацькі дзеда называлі Міхась, бабу — Магда, па лініі маткі адпаведна Сымон і Марыля. Вельмі распаўсюджанымі ў Магільным былі імёны Язэп, Тодар, Адам, Антось, Апанас, Анцік, Тамаш, Сідар, Мірон, Ёсіп, Волесь, Варвон, Адась і шмат іншых, што адсутнічаюць у праваслаўных святцах. З жаночых уніяцкіх імёнаў можна назваць Зося, Параска, Тэкля, Марыля, Міхаліна, Дарка, Мэтра, Тадора, Тарэся. Пры адсутнасці ў мяне погляду на сваіх прашчураў як на колішніх уніятаў наўрад ці з'явілася б у свет дадзеная кніга. Іх памяці і прысвячаецца яна.

## ЗМЕСТ



---

*Навукова-папулярнае выданне*

**Лыч** Леанід Міхайлавіч

УНІЯЦКАЯ ЦАРКВА БЕЛАРУСІ:
этнакультурны аспект
*2-е выданне*

Рэдактар *Лідзія Карамазава*
Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Набор і вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Лідзія Карамазава*

Падпісана да друку 18.08.2011. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 7,27.
Ул.-выд. арк. 7,01. Дадатковы наклад 300 асобн. Зак. 625.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Агрбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.